# Пятрусь Макаль

ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ Ў ДВУХ ТАМАХ





ТОМ ДРУГІ



ВЕРШЫ
ДРАМАТЫЧНЫЯ
ПАЭМЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ
ЛІТАРАТУРА»
1982

## З кнігі «СМАК ЯБЛЫКА»

(1978—1980)

### ВУЧЫЦЬ БАЦЬКА МЯНЕ АРАЦЬ

Поле. Ранак. Аратых раць.
Ходзіць кругам уся акруга.
Вучыць бацька мяне араць —
Я ледзь-ледзь дастаю да плуга.
Я, здаецца, ледзь-ледзь іду:
Водзіць сіла мяне сляпая...
Ды ўтрымаюся, не ўпаду,
Калі поруч настаўнік ступае.
Кажа бацька: — Бяры глыбей!
І палоніць раллі адчуванне.
Скача сэрца, як верабей,
Ад шчымлівага хвалявання.
З неба штосьці мне раіць жаўрук,
Штосьці шэпча мне ветрык на вуха.
Спасцігаць як навуку навук
Мне цябе, глыбіняў навука.
Лёс мой думны — жытнёвы лёс
Неруш поля нарогам адродзіць.
На зямлі і ў вышынях нябёс
Зноў і зноў мне барозны праводзіць...
З кожнай новаю баразной
Свет мне робіцца большым другам.
Плуг спачатку валодаў мной,
А цяпер я валодаю плугам.
Пачакай, не ўцякай, вышыня:
Да цябе яшчэ дабяруся!

Хіба, зорная, ты не радня
Поля жытняга Беларусі?
Калі поруч аратых рапь,
Не ўпаду я, дайду да сонца,
Што хавалася ў баразёнцы...
Вучыць бацька мяне араць.

## АДВЕДЗІНЫ

Нібы гадзіннік, што на час заведзены,
Няўмольна лёс адлічвае гады.
Жыццё маё — святочныя адведзіны
Зямлі і неба, лесу і вады.

І — хочаш ці не хочаш, адыходзячы,
Трымай адказ, чаго прыходзіў ты...
Дзеля таго, каб выпіць келіх слодычы
Ці падарыць хоць жменьку дабраты?

Я саджанцам жыцця парой халоднаю
Не шкадаваў уласнага цяпла,
Я атуляў іх любасцю лагоднаю,
І самі вырасталі кроны зла.

Хоць бразгала перад чужынцам засаўка,
Мой секлі сад, што я ў душы пранёс,
То пікамі знішчальных промняў — засуха,
То ледзяной сякераю — мароз...

Гадзіннік лёсу, што на час заведзены,
Усё хутчэй адстуквае гады.
Жыццё маё — кароткія адведзіны
Святла і цемры, шчасця і бяды.

Калі ж дужэе дрэўца чалавечнасці,
Якое я адхукваў у мароз,
Чаго яшчэ? Ніякай іншай вечнасці
Я не прашу ў цябе, няўмольны лёс.

* * *

Небам свайго пачуцця,
Зямля, я табе абавязаны.
Я кожнай хвілінай жыцця
Навек да цябе прывязаны.

Той рэчкай, дзе ў ранішні змрок,
Калі і святліва, і золка,
На мой самаробны кручок
Клявала нязлоўная зорка.

Няроўным шнуром баразны,
Які я працягваў туга,
На золку галоднай вясны
Хістаючыся ля плуга.

Ніткай сцяжыны той,
Што праз хмызняк і палянкі
Вяла мяне ў цемры густой
Да партызанскай зямлянкі.

Галінамі матчыных рук,
Што ласкаю абдымаюць —
Часінай сустрэч і разлук
У вечнасць на хвілю прымаюць...

Свячэннем сваёй вышыні,
Зямля, я табе абавязаны.
Усе мае зорныя дні
З табою карэннямі звязаны.

* * *

Людзі зямлю прыручылі.
Людзі наведалі неба.
Якія яшчэ далячыні
Нам дасягнуць трэба?

Лётаем вышай за птахаў
І нават гук абганяем.
Не баючыся страхаў,
Падэшвамі Месяц кранаем.

Чаму ж нам раніцай весняй
Шчыміць салодкім болем,
Калі жаўруковай песняй
Неба звініць над полем?

І я ўжо малю па сакрэту:
Выратуй век ад шаленства,
Вярні таямніцы свету,
Вёска майго маленства!..

Там, на мурожным улонні,
Хлапчук у кашулі зрэбнай
Узважвае на далоні
Сузор'е, што ў кропельцы срэбнай.

* * *

Ідуць усё адно
З табою па зямлі
І тыя, што даўно
У вечнасць адышлі.

З табою кожны міг
Яны ў разбегу дзён,
Хоць ты не бачыш іх,
Не знаеш іх імён!

У вышыні — крылом,
Што дорыць неба мне,
Па правадах — святлом,
Сярпом — па збажыне.

Буксірам, што сабой
Рассекшы хваляў тлум,

З мінуўшчыны любой
Прыцягне човен дум...

З далёкае пары
Ваш воблік паўстае,
Былога жыхары —
Настаўнікі мае!

## ПРАСВЕЧАНЫ ГОРАД

Дай жа мне ў твар табе
ўгледзецца,
Горад мой,
дзе твае раны?..
Каўшом Вялікай Мядзведзіцы —
Далонь пад'ёмнага крана.

Выйду світанкам ці ўвечары —
Бач,
навылёт прасвечаны
Сцены твае шкляныя,
Быццам тунелі скразныя.

Прасвечаны вуліцы простыя —
Вочы зажмурыш ад просіні!
У кожным акне паўнеба,
Лепшых гардзін не трэба...

Адсвечвае —
стоп аварыям! —
Для паставога будка.
Быццам вялізны акварыум,
Прасвечана крама абутку.

Дом мой з зялёнай аховаю —
Сонца шматпавярховае! —
Бяссоннасцю чалавечаю
Ноччу і днём адсвечвае...

Не стукайце ж у паняверцы,
Цені былога ў сэрцы:
Вашу прапіску часовую
Росчыркам сонца скасоўвае!..

Пад абеліскам, пад ордэнам,
Пад ветрам,
пад Шляхам
Млечным
Горада сэрца гордае
Адсвечвае полымем вечным.

* * *

Калі вада —
Пераплыві,
Калі бяда —
Перажыві...
Калі цяжкая навіна,
Калі мана,
Калі сцяна,
Стрывай, развей і пратарань,
Рукой уласнаю дастань
Блакіт, закрэслены ўгары
Няўмольнымі крыжамі крат,
І неба птушкам падары,
Свабоды сват,
Прасторы брат...
А зойдзе сонца за палі,
Агонь у цемры запалі,
Няхай трапеча давідна
Цяпло кастра,
Святло акна...
Адчуеш —
Ты ўладар і бог
У тым, што сам адолець змог.

* * *

Я столькі год тужыў па баразне,
Прыцягвала мяне няўмольна глеба.
І рукі акунуць карцела мне
У ворыва, што мае водар хлеба.

Адлегласці і далечы — далоў!
Хаця б гадзіну адпачыць дазвольце.
Пясчынкі поля, пальцы мне мазольце,—
Я гавару з глыбінямі без слоў.

Хай у зямлю ўпіраецца мой зрок
Ды баразна вядзе да небакраю:
Я дотыкам далоні — што ні крок —
Сузор'е бульбяное адкрываю.

Перад раллёй, дзе кожны свежы ком
Трымціць, нібы з крылом скаваным пташка,
Так лёгка я згінаўся юнаком
І так цяпер раблю паклоны цяжка.

Ты падзялі, зямля, са мной віну,
Што Млечны Шлях мігае прад вачыма...
Хіба не ты мяне араць вучыла?
Таму вяду і ў неба баразну!

Усё-ткі я адзін з тваіх сыноў,
З якога ўрэшце ўсе дакоры здымеш.
Я знаю — да цябе вярнуся зноў,
І ты мяне як роднага абдымеш.

* * *

З адлегласці так ясна бачыцца
Увесь абсяг твайго былога,
Дзе ўжо нішто не перайначыцца,
Дзе ўжо не зменіцца нічога.

І нават воляй усявышняга
Цяпер цябе туды не выправіць,

Дзе вопытам рупліўца ўвішнага
Ты мог бы столькі многа выправіць.

Ты больш па дробязі не сварышся.
Ты падаеш у час дакладна
Выратавальны круг таварышу,
Якога вір калыша ўладна.

Знітоўваюцца швы адразу:
Як доктарам, табою вынята
Соль незагойнае абразы,
Якая ў сэрца любай кінута.

Тваё маўчанне палахлівае
Бунтоўным выбухае голасам,
І поле, што не стала ніваю,
Шуміць даспелым жніўным коласам...

Ужо сумлення мукі значацца
Нязбыўнаю тваёй уласнасцю.
З адлегласці былое бачыцца
З такой бязлітаснаю яснасцю.

* * *

Не абмініце радасці,
Што дотыкам душы лагодзіць,
Пад брамай вясновай радугі
За небакрай праводзіць.
Не абмініце смутку
Аб дарагім, што страчана,
Што апячэ ціхутка,
Нібы слязіна матчына...
Не абмініце плуга —
Валадара ворыва.
Не абмініце друга.
Не абмініце ворага.
Не абмініце долькі,
Што парасткам пласт пераверне.

Помніце — пройдзена столькі,
Колькі пасеяна зерня...
Мерайце не гадамі
Жыццёвы свой лёс чалавечы,
А ўзрошчанымі пладамі,
Што ўскінеце іншым на плечы.
Усё, што ў турботах пражыта,—
Пярэдадзень новай дарогі.
З баразнаў буяе жыта,
А пустазелле — з аблогі.
Наверсе і на доле,
На ўздыме і ў зеніце
Не абмініце долі,
Жыцця не абмініце!

## АПОРА

Мудрэц старых часоў, у непакоры
Абняўшы думным позіркам Зямлю,
Гукнуў стагоддзям:
«Дайце пункт апоры —
І я ўвесь шар зямны перакулю!»

О гэты кліч вучонага піратства!
Пастой, мудрэц:
Перад табой — абрыў...
Калі сусвет ты розумам скарыў,
Дык падкажы,
На што абапірацца?

Ракетныя адчуўшы сёння шпоры,
Век то ляціць, то на дыбы ўстае.
І я шукаю на Зямлі апоры,
Каб перад прорвай утрымаць яе.

Калі ў пашытай навырост кашулі
Свой першы крок рабіў я пры сцяне,
Я апіраўся на руку матулі,
Якая ўпасці не давала мне.

Калі ўзлятаў да зор у пасмах дыму
У караблі касмічным сын зямлі,
Радзіма і народ у часе ўздыму
Яму апорай вернаю былі.

Зямлю абняўшы позіркам цвярозым,
Наступнікаў,
Сучаснік,
Абнадзей:
Адна ўсяго ў цябе апора — розум
З'яднаных добрай згодаю людзей.

## СМАК ЯБЛЫКА

Ён трошкі і як лёд, і як агонь,—
Не толькі вуснаў, і душы патрэба.
Узважваю, паклаўшы на далонь,
Духмяны пругкі плод зямлі і неба.

Няўжо і праўда Еву спакусіў
Каварным богам падасланы д'яблік?
Яе зубамі род людскі ўкусіў
Упершыню сарваны з дрэва яблык.

Учынак Евы — нам усім урок:
Не збочыла,
Хоць усявышні скнара
Грозіў жанчыне, што за гэты крок
Смяротная яе чакае кара...

Калі б не подзвіг твой, прамаці Ева
(За што табе на ўсе вякі хвала!),
Не вабіла б тваіх нашчадкаў дрэва,
Што дорыць нам плады дабра і зла.

Скажыце, хіба не мацней за страх
Смак адкрыцця, якім патомкаў будзім?
Ерэтыкі згаралі на кастрах,
Агонь якіх высвечваў праўду людзям.

Цяжар пазнання, быццам дынаміт,
Я валаку, працягваючы пошук:
Адной рукой —
арбіт міжзорных кошык,
Другой —
кашолку атамных арбіт.

...Клубок праменняў, трапяткі камяк
Сарвеш — і спеласць зазвініць у жмені.
Укусіш яблык — і адчуеш смак
Святла і цемры, вечнасці ў імгненні.

## ПЛОШЧА ПЕРАМОГІ

Плошча круглая —
Пляц Перамогі...
У салдацкіх шынелях сюды
Нас вялі франтавыя дарогі
Даўжынёю ў чатыры гады.
Млечны Шлях наш — пакутны і горкі,
Пра які і не сніў небасхіл,
Пяцікутныя ўсыпалі зоркі
На гарбатых пагорках магіл.
Нашы ногі
Гулі ад знямогі,
Нас хістала ў грымотнай пальбе.

Мы спяшаліся,
Пляц Перамогі,
Да цябе.
Да цябе.
Да цябе...
Ты сягоння ў грудзях маіх,
плошча,
Б'ецца сэрца — твой Вечны агонь.
Выбуховаю хваляю хвошча
Кроў гарачая ў белую скронь.
Тым, хто скошаны косамі бітваў,
Не вярнуўся да родных руін,

Слуп з граніту
Узносіць к блакіту —
З тысяч ордэнаў — ордэн адзін.
Як вянком, чарадою мінчане
Апяразваюць плошчу сваю.
Камяніцы ў каменным маўчанні,
Нібы волаты ў строгім страю.
Прыраслі да зямлі, як Антэі,
Над галовамі — дах з сінявы...
Толькі чуйна іх вушы-антэны
Ловяць кожнае слова Масквы.

## МАЙСТЭРНЯ

*Н. Шчаснай*

Тут, у майстэрні, як на сёмым небе,
У звонкай і шчымлівай цішыні
Забудзь на хвілю аб надзённым хлебе
І далучы сябе да вышыні...
Да рукатворнай вышыні, якая,
Нябесную абняўшы сіняву,
Палохае, і вабіць, і ўцякае,
І так п'янліва кружыць галаву.
О гэта непрадбачанае шчасце,
Што абручыла неба і зямлю!
І я, каб не сарвацца, каб не ўпасці,
Тваю руку ратоўную лаўлю.
Я ведаю, што хараство не згіне,
Пакуль тваё святло прадзе і тчэ...
І ты мне зноў нагадваеш — багіня! —
Аб тым, што свет не створаны яшчэ.
Бяруць сваё свячэнне вітражы
У навальніцай вымытым блакіце,
У васільку, які згубіўся ў жыце,
У ружы, што чакае на мяжы.
Аб цудадзейным дотыку рукі
Спрадвеку тужыць россып розных фарбаў,
Якія прагнуць стаць сузор'ем скарбаў.

Прыходзьце, не марудзьце, мастакі.
Хто, як не ты, жыццю вясёлку верне,
Што страчана ў бяздонні цемпаты?
Я ведаю цяпер, што свет — майстэрня,
Дзе чарадзейна валадарыш ты.
Прыйшоў я не сварыцца, а скарыцца
З душой напятай, быццам цеціва.
Дзяржавы фарбаў думная царыца,
Пакінь мяне ў абдымках харства.

## ВОРЫВА

Мне падабаецца ворыва:
Нырае нарог да паловы,
Зямля зачапляецца здорава,
Як за кручок рыбалова.
Скачыце ад радасці, дзежкі!
Народзіць грудастая глеба
І зерне, і добрыя ўсмешкі
Тых, хто чакаюць хлеба.
З усіх перамог перамога —
Братэрства зямлі і метала.
Я знаю,
мяне самога
За плугам не раз матала.
Пралягуць баразны доўгія
Блішчастаю русай палоскаю.
Глядзіце —
зямля аздоблена
Такою цудоўнай прычоскаю,
Нібы грабянцом умела
Правёў па планеце хтосьці...
Вось гэта, я разумею —
Клопат аб прыгажосці!

* * *

Сеяў зярняты ў зямлю —
Зоркі ў небе ўзышлі.

Кроіў бохан хлеба —
Сядзела вакол стала
Усё чалавецтва.

І таму паляцеў
У неба
Зорны здымаць ураджай.

* * *

Нялёгка людзям згубленым і зорам
Сябе ў бяздомнай бездані знайсці.
Давай з табою, мора, пагаворым
Аб вечным, аб штодзённым у жыцці.
Якая немагчымая часіна:
Перад зямлёй і небам мы — адны.
Ты абдымі мяне, як маці сына,
Што не вяртаўся столькі год з вайны...
Спачыну ты ні ўноч, ні ўдзень не просіш,
Твой нораў і лагодны і круты,
Люляеш, песціш, і высока ўзносіш,
І кідаеш у вір няўмольна ты.
Тут здабылі мы болей ці згубілі?
Ты вучыш нас, стыхія, разумець,
Як небяспечна пакараць глыбіні,
Як лёгка на паверхні слізгацець.
Плыўцу любому пагражаеш ліхам,
Калі ў яго гарцуеш пад рукой.
А горш за ўсё, калі бываеш ціхім,
Страшней за шторм люстраны твой спакой.
Імчацца хвалі ў бегу небяспечным,
Танцуючы на промні вастрыя.
Хіба не ў гэтым хваляванні вечным
І неўміручасць і краса твая?

* * *

Не разменьвацца, не разменьвацца,
Не развязваць душы перавясла.
А штодзённым святлом выпраменьвацца,
Пакуль сонца ў табе не згасла.

Доля — складчына, а не спадчына.
Ах, ці дойдзе вечнасці позва?
І аб тым, што злачынна страчана,
Пашкадуеш, калі запозна.

Крону сокам глыбінным поіць
Карані, што нябачны воку.
І не заклік, а шчырую споведзь
Ціха шэпча ліства навокал.

Мусіш ношу сваю данесці —
Не паддайся ж на зман спакусы
Траціць порах увесь, каб адвесці
Драбнаты камарыныя ўкусы.

Хай зайздроснік ізноў надзімаецца,
Завірухаю злосці хукае,
Дрэва долі тваёй утрымаецца,
Ціха ў шыбу нашчадку пастукае.

## НА БЕРАЗЕ ВОЛГІ

З Волгі — вецер трапяткі і волкі
Ласкава люляе сіняву.
Я — малы прыток вялікай Волгі —
У бязмежнасць вечнасці плыву...

Шыры, што бясконца паўстае,
Я гатоў душу сваю прасватаць.
Дай абняць мне далечы свае,
Дай твае адлегласці пакратаць.

Ад прасторы перахопіць дых:
Русь, бяссонных дум маіх царыца,
Як нязвычна лёгка растварыцца
У тваіх глыбінях векавых.

* * *

І азірацца па баках рыўкамі,
І кідаць з нецярплівасцю пагляд
На безнадзейна цёмны цыферблат,
Дзе стрэлкі зноўку развялі рукамі.

Чакаць на скрыжаванні, дзе з імжы
Плывуць дамы і людзі ў карагодзе.
Дык ты на колькі позніўся, скажы,
На міг адзін ці на адно стагоддзе?

— Такой бяды! —
Мне голасам цвярозым
Настойліва дае параду розум.
Ды, як у ступе, сэрца ўсё таўчэ,
Стукоча тупа:
— Пачакай яшчэ!

На лужынах — бліскучы хрусткі лёд.
Здаецца, што прахожыя нястомна
Мяне вачмі свідруюць навылёт,
Мой смутак агаляюць бессаромна.

На мокрых лісцях клёнаў дзень пагас,
Мы паасобку ноч ізноў прыгубім,
Як любім мы, калі чакаюць нас...
І як жа самі мы чакаць не любім.

* * *

Верасень на двары —
Ад спёкі дыміцца ніва.
Лета рэванш бярэ
За холад і дождж у жніва.

У верасні верас гарыць
Гэтак ахвярна і ярка,
Што можаце прыкурыць
Вы ад яго цыгарку.

Нябесны аздобіўшы дах,
Як дзіўныя дырыжаблікі,
Святліва трымцяць у садах
Яблыкі,
Яблыкі,
Яблыкі...

Верасень на двары
Сонцы страсае, як волат.
Лета рэванш бярэ
За жнівеньскі дождж і холад.

* * *

Прышпорваў я свайго стаенніка,
Хоць знаўцы на мяне штодня,
Як на пустога летуценніка,
Крычалі:
— Коннік без каня!

Скакаў я ў царства трыдзевятае
Жар-птушку вызваліць з турмы.
Крамсалі далеч сінявятую
І бліскавіцы, і грамы.

Пыл з-пад капытаў — дымнай хмараю.
Не прыцішаючы хады,

Аседланы высокай мараю
Мой конь імчыцца праз гады.

З сустрэчным ветрам абдымаюся,
І пёркі дорацъ птушкі мне.
І сам не знаю, як трымаюся
На немагчымым скакуне.

Яго не ўзяць рукамі голымі
У дні набегаў і пагонь.
Ляціць пагоркамі і доламі
Маёй надзеі верны конь.

## РЫЖЫКІ

Хвала хвіліне,
Што вянчае пошук!
Я гавару, страсаючы расу:
— Шаноўны грыб!
Хутчэй залазь у кошык —
Цябе дамоў, як пана, панясу!

З цярплівасцю
Сябе мы прывучаем
Згінацца
Перад кожнаю сасной —
І ўжо надзея кволая
Адчаем
Змяняецца
У глыбіні лясной.

О, непаўторны міг грыбной удачы:
Я прадзіраўся ў зараснік густы
І ўжо не ведаў:
Ці знайду, ці страчу...
А ты быў поруч.
Быў на ўскраі ты.

Хвала хвіліне,
Што вянчае пошук!
Трымціць
Перад вачыма дол рабы.
Грыбы, грыбы —
Мурзатыя ілбы...
Як лёгка мне,
Калі цяжэе кошык!

Ад радасці
Я падфутболіў трэску,
Узважваючы ў кошыку дары,
Мяне чакалі рыжыкі на ўзлеску,
Пакуль я іх шукаў у гушчары.

* * *

Дзень добры, неба! На цябе ізноўку
Глядзіць памаладзелы шар зямны.
Да зор далёкіх у камандзіроўку
Ляцяць яго бясстрашныя сыны.

Загаварыла вышыня нямая,
І мы пачулі ўсе яе здаля.
І вось ужо герояў абнімае
Мільёнамі братэрскіх рук зямля.

Мы ў космас насцеж расчынілі дзверы,
Каб сустракацца з зорамі часцей.
На стол бакалы, Месяц і Венера,
Рыхтуйцеся прымаць зямных гасцей!

## БЫВАЙ, НЯМІГА

Тут,
дзе цябе ў задуменні шукаю,
Няміга,
Час прасуе бульдозерам
рэшткі руін.
Бывай, Няміга —
былога закрытая кніга,
Якую цяпер
не разгорне
мой сын.
На тваіх берагах
скрыжоўвалі прашчуры пікі,
Малацілі мячы харалужныя,
не цапы.
Умалот быў у бітвы былінная
вялікі:
Тут галовы братоў
слаліся, як снапы.
Над табою,
рака старадаўняй
страшэннай казкі,
Мы часінай нядаўняй
чужынцам давалі адпор.
Іржавеюць дасюль над зямлёю
варожыя каскі,
Па якіх
днём і ноччу
руіны стралялі ва ўпор.
Схавалі цябе, але не пахавалі
мінчане,
Ты не дасі нам, Няміга,
забыцца,
адкуль мы прыйшлі.
Штыкамі і кулямі,
пікамі і мячамі
У тумане вякоў пісалі
славу айчыннай зямлі.
Сягоння сучаснікам
Над аняменнем Нямігі,
Дзе стопавярховае сонца
з імглы паўстае,

Узяўшы бар'ер гукавы,
блiскавiчныя «Мiгi»
На чыстым блакiце
аўтографы пiшуць свае.
I гэтак шчымлiва карцiць
прысланiць вуха
Да цябе, як да ракавiны,
у якой
Заплешчацца раптам
таямнiча i глуха
Мiнуўшчына наша
схаванай падземнай ракой.

## ДА ЯНКI КУПАЛЫ

Чым нас прыцягваюць помнiкi?
Натоўп каля iх ста́лы.
Iдуць ды iдуць паломнiкi
У госцi да Янкi Купалы.

З будзённасцi тлумнай, з палону
Турботаў ракетнага века,
З грукату i з нейлону —
На споведзь да чалавека.

Зачараваным зрокам
У рысы гранiтныя цэлячы,
Iдуць запаволеным крокам
Да простай i мудрай велiчы.

Цiша абцасамi стукае...
Галовы схiляючы долу,
Iдуць, як з былога ў наступнае,
Як з вандраванняў дадому.

Як табе зараз у каменi,
Сейбiт i буравеснiк?
Паэт у сваяцтве з вякамi,
Усiх пакаленняў равеснiк.

Не адгароджаны брамаю,
З намі вядзе размову ён
Моваю праўды — самаю
Лепшай у свеце моваю.

Чуюць яе здалёку
Аратыя і вучоныя.
Ідуць у адзіным патоку
Жоўтыя, белыя, чорныя.

Ах, як мы здолелі вырасці!..
Але нашчадкам у вечнасці
Ісці да Купалавай шчырасці.
Ісці да яго чалавечнасці.

Душы абудзіць паснулыя
Бунтарнага слова бясстрашша.
Купала — не толькі мінулае,
Купала — наступнае наша.

Да чысціні першароднае
Людзі прыходзяць па-рознаму.
Не зарасце народная
Сцежка да праўды і розуму.

* * *

Лета
нораў вясны
ўлагодзіць,
Адбуяніць паводка сляпая...
Нешта шумнае адыходзіць,
Нешта ціхае наступае.

Адплылі з раўчукамі ў далечы
Летуценняў хлапечых караблікі.
Звонка стукаюць, ападаючы,
Зоркі спелыя, нібы яблыкі.

Наступае гадзіна сталасці:
Засяродзіцца, засяродзіцца...
І калі ўжо такое сталася,
Нешта ўзыдзе і нешта родзіцца...

З тайны семені — сочнасць ягады,
Слодыч вішні і пругкасць коласа.
Я і сам у палоне злагады:
На шчаня не павышу голаса.

За свавольства падлетка-сына
Не караю —
папругай не ляскаю.
Нават і жонкай —
якая часіна! —
Гавару з галубінай ласкаю.

Наліваецца сонцам між лісця
Нешта спелае, нешта спеўнае.
...Як буянілі мы калісьці
Раўчукамі вясновымі з пепаю.

* * *

Хвалю прыход,
Але не той прыход,
Дзе пастар прыхаджан у зман уводзіць.

Хвалю прыход,
Як лепшую з прыгод,
Калі наведаць друга друг прыходзіць.

Хвалю будзённых радасцей прыход,
Прыход суботы і прыход свабоды
Ад дзённых хваляванняў і турбот.
Ад тлуму,
Што палоніць нас заўсёды.
Прыход,
Што адбываецца штогод.

Штодзень. Штоміг. Размах яго — шырокі.
Прыход вясны —
Маёй любві прыход,
Калі ў цішы гучаць званамі крокі.

Гучаць удары сэрцаў, як званы.
(Званар нябачны торгае вяроўку.)
Хвалю прыход шчымлівай навіны
Аб тым, што зелень свет адзела зноўку.

Сяброўскі круг, як добры сад, расце,
Працяг яго ва ўсе стагоддзі будзе.
Я адчыняю дзверы дабраце.
Прыходзьце, людзі!
Я люблю вас, людзі.

* * *

Вуліца. Асфальт. Сляды.
Рух адвечны, мурашыны
Чалавечай грамады...
Капыты. Падэшвы. Шыны.

Ты ідзеш — і я іду.
Едзеш — я таксама еду.
Шлях усмешкаю суседу
Асвятляю на хаду.

Як найлепшая з дарог
Вуліца кладзецца ўпокат
Да людскіх нястомных ног.
Шолах. Шоргат. Стукат. Цокат.

Цісну хуткасць — уздыханні
Я б яшчэ паскорыць мог...
Светафор на скрыжаванні
Валадарыць, быццам бог.

Хочацца, прагнаўшы скруху,
У разбегу верыць мне,

Што машын ілбамі ў руху
Вуліца не сутыкне...

Светафор, чаму з нядзелі
Воч тваіх паблякла шкло?
Ты аўтобусу надзеі
Дай зялёнае святло!

* * *

Акуніся ў рацэ маленства,
Абдыміся з патокам імклівым —
І адчуеш ізноў падабенства
Сам з сабою — плыўцом шчаслівым.

Мары даўняй парыў гарачы
Зноў падхопіць цябе небывала,
Дзе на дрогкі кручок удачы
Залатая рыбка клявала.

Зноў з сабой цябе пабратае
На рацэ ў паядынку натхнёным
Хваля тая, што човен хістае,
А не падае ў ногі з паклонам.

Потым вынырнеш, засяроджаны,
Адпіхнуўшыся лёгка ад донца,
Станеш чысты, як нованароджаны,—
Сын ад шлюбу вады і сонца.

Змыеш стому сваю і змору,
Каб, адчуўшы віроў шаленства,
Зноў падацца ў абдымкі мора...
Дзе ты, рэчка майго маленства?

* * *

Хоць прыходзім сюды
Мы, як сціплыя госці,
Ёсць у нашай хады
Гаспадарскае штосьці.

Чуцен крок наш здаля
Сёння так, як і ўчора:
Плугара, каваля,
Песняра і шахцёра...

Што асудзім па злом,
Што скуём, што пасеем?
І дабром або злом
Наша заўтра заселім?

Мы і вы, я і ты
Перад часам падсудны:
Пакідаем масты,
Песні, зоркі і судны.

Што было — не сплыло
Днём, у быце пазбытым.
Дум і сэрцаў святло
Пакідаем арбітам.

Не палохае нас
Забыцця небяспечнасць.
Мы прыходзім на час.
Мы прыходзім на вечнасць.

* * *

Пара дзіцячае гульні
Праходзіць гэтак, як прыходзіць.
Другія на тваім кані
Ужо ўладарна верхаводзяць.
У захапленні ўбачыш ты,

Ледзь толькі выглянь на падворак,
Як высякаюць капыты
На Млечным Шляху іскры зорак.
З глыбінь мінулага, здалёк,
У вечнай каруселі гэтай
Ляціць аседланы кіёк
Аўтамабілем і ракетай.
Як дражніць нас залётны крык!
І, форткай бразнуўшы бяздумна,
Закрыць спрабуем мацярык,
Што за акном сваволіць шумна.
Шпурляем грозных слоў грамы,
І ўжо рука шукае кія,
Мармычам злосна, быццам мы
Зусім і не былі такія...
І я ў размераным жыцці
З сабою трачу падабенства,
І не магу ніяк знайсці
Ключы ў вясёлы край маленства.
А трэба хоць бы мімаходзь
Наведаць тое наваколле...
Пара гульні, не адыходзь,
Не пакідай мяне ніколі.

## ЛЯЦІЦЕ ДАЛЁКА

Ляціце далёка,
Ляціце лёгка,
Сыны зямлі,
Якая вас
Прыцягвае,
Якая так не хоча
Адпускаць
З абдымкаў...
Спасцігайце зорныя навукі,
Апякайце аб вышыні рукі.
Ведаю, нікуды не падзенем
Сэрца,
Што ў грудзях трапеча пташкаю,

Плацім мы цаной такою цяжкаю
За высокі ўзлёт —
Сваім падзеннем...
Але ўсё ж не адляцім далёка
Ў неба
Ад бохана хлеба —
Самай малой планеты,
Што мае найбольшае прыцягненне
На вечнай арбіце жыцця.

* * *

Аддайце — не ў крыўду жонцы —
Належнае ветру і снегу.
Давайце даверымся сонцу.
Давайце даверымся бегу.

Мы грэем сябе ў паядынках
З зямлёю і небам айчыны
І ў беласнежных абдымках
Мяцеліцы — лютай жанчыны...

Як хораша ў неруш прабіцца
У ззянні прыручаных зорак
І хоць на імгненне згубіцца
У царстве ваўкоў і вавёрак...

Прымаю з гарэзнасцю смелай
Калючых віхур небяспечнасць —
Вядзе мяне ў далечы белай
Лыжня, што пракладзена ў вечнасць.

Пад сонцам лячу, як пад сцягам,
У белым заснежаным полі
Прасцягам — бліскучым працягам
Маёй чалавечае долі.

## КНІГА

Бясследна нішто не міне,
Гісторыю слова адродзіць.
Ты — мост,
па якім да мяне
Мінуўшчына ў госці прыходзіць.

Мільгаюць старонкі твае —
І мы размаўляем з вякамі,
І продак да нас дастае
Радкамі, нібыта рукамі.

Учора і сёння —
Штодня —
У люты мароз і ў адлігу
Стварае людская радня
Жыцця непаўторную кнігу.

Мы пішам адменным пяром,
Што ўручана родным народам.
Пілот у нябёсах —
крылом,
Араты на полі —
нарогам.

Мы — словы такога пісьма,
Якое ў вяках не сатрэцца.
Ты — мост,
па якім нездарма
Іду я з патомкам сустрэцца.

* * *

Я вас люблю,
Начныя ліхтары —
Зямныя намеснікі сонца.
Як бы позна я ні вяртаўся
Са спаткання з каханай
Ці з новай планетай,

Мяне сустракасце вы,
Мяне праводзіце вы.

Тыя, хто вас запаліў,
Даўно адышлі ў сон;
Ды лёгка ступаю я
У акіян ночы —
Па астраўках сонца,
Па астраўках дня.

Хіба не той,
Хто вас запаліў,
Цяпер ад мяне
Адводзіць цемру,
Адводзіць страх,
Адводзіць самоту
Сяброўскімі далонямі святла?

Выводзіць з былога,
Нібы з сіла́,
Прасека ў цемры.
Калідор святла.
Дзякуй вам, ліхтары!

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

Павернеш ключык маленькай скрынкі,
Куды прыносяць і сум, і радасць.
На скрынцы дзверы пявуча скрыпнуць —
І зноў удача табе не здрадзіць.

Не здрадзіць свята сустрэчы з другам,
Які ў юнацтва цябе гукае,
Сустрэчы з полем, з мурожным лугам,
З ракой, што мрою тваю гушкае...

Так зноў у рукі патрапіць повад,
Які ўпусціў я калісь з табою.

Так загаворыць раптоўны провад,
Што абарваны на полі бою...

Я чую покліч людскога брацтва,
Я дацягнуся, куды мне трэба,
Рукой сяброўства, крылом сваяцтва
Зямля не здрадзіць, не здрадзіць неба.

...У маіх пальцах трапеча звонка
Канверт блакітны, нібыта пташка.
Калі ж пустая навін скарбонка,
На сэрцы пуста, на сэрцы цяжка.

* * *

Ужо гады на восень хіляць,
Хада мая —
усё цяжэй.
Галіны дрэў —
ніжэй, ніжэй;
Як ім плады свае асіліць?

Шчыміць даспелы спеў душы.
О гэты міг уцехі сумнай
Дарыць у жнівеньскай цішы —
Што сеяў ты вясною шумнай!

І час узважвае дары
Тваёй любві, тваёй пяшчоты.
Відаць, у кожнае пары
Свае нялёгкія турботы.

Згінаецца галлё на плот,
Світаюць яблыкі між лісця...
Чаму набіў аскому плод,
Што гэтак спакушаў калісьці?

* * *

А ўсё-ткі трэба быць дабрэй
Да птушак, да дзяцей і жонкі,
Скразняк адчыненых дзвярэй
Раптоўна свет адкрые звонкі.

З душы лагоду адвядзе
Пярнаты птах зямлі і неба:
Як спрытна верабей крадзе
У голуба крупінку хлеба!

Машыны ў стоенай цішы
Трымцяць ад нерухомай мукі:
Цераз дарогу малышы
Ідуць, трывала сплёўшы рукі.

Світальнае расы сляза.
Пупышка, набрыняўшы сокам,
Чакае промня, як ляза,
Каб лісцем зашасцець высокім.

І тут ураз адчуеш ты,
Як ком да горла падступае:
У свеце толькі дабраты,
Як лепшых лекаў, не хапае.

* * *

Забыўшы, што такое змора,
Забыўшы, што такое ўзрост,
Ты б'ешся ў белы бераг, мора,
Жыцця калыска і пагост.

Я да цябе іду на споведзь,
Ратунку я ў цябе прашу.
Хай подых вечнасці напоіць
Маю засмяглую душу.

Той боль, што ўраз напоўніць грудзі,
Праходзіць, як прыбой круты.
Праходзяць дні, праходзяць людзі,
І толькі не праходзіш ты.

І хоць у нас адна дарога:
Мае гады — твае гады,
Ды ты за нас усіх намнога
Старэй і маладзей заўжды.

Туман, нібы шаман, варожыць
Над штормам, над чужой бядой.
І не канчаецца варожасць
І еднасць берага з вадой.

* * *

Набрыняўшы жыццём, галлё
Ціха стукае ў сінь акна.
Я здымаю трубку:
— Алё!
— Гаворыць вясна!..

Я, цярэбячы дрогка рукаў,
Мармычу, увесь веснавы:
— Вельмі рад — я даўно чакаў,
Што пазвоніце вы.

Вас чакалі палі і сады,
Што прачнуліся ў гамане...
Трапяткіх галін правады
Падключыліся да мяне.

Я гляджу ў вышыню з-пад рукі,
І чародкай ляцяць прада мной
У святочных фраках гракі.
— Вы куды?
— На спатканне з вясной.

У вачах у жонкі адчай,
Засланіла мяне сцяной.
— Мая любая, выбачай,
Я бягу на спатканне з вясной!

* * *

Якое яно, маё шчасце?
Які яго смак і колер?
Іншым такое не скласці
Ніколі...
Перш, як з табой адкусілі
Ад бохана вечнасці крыху,
З упартасцю доўгай мясілі
Нязвычнае цеста паціху...
Цярпліва люляючы згоду,
Мы дабаўлялі даволі
Ад пацалункаў — мёду
І ад слязіны — солі.
Ад першых спатканняў — хмелю,
Ад расставанняў — перцу...
Вядзьмарылі, як умелі,
Каб шчасце было па сэрцу!
Штодзень ад яго рэжам,
Грэем ласкава рукамі,
Каб дыхала водарам свежым,
Не зачарсцвела, як камень.
І не натолім попыт,
Што сну не дае чалавеку.
Адзіны хвалюе клопат:
Толькі б хапіла давеку...
Вы, бачу, не рады такому?
Вам яно не па густу?
Дык ад яго ж нікому
Я не адкрою лусту.

* * *

Пярсцёнкам шлюбным сонца залатое
Упала і прапала ў моры гулкім.
Падзяка, ноч, табе хаця б за тое,
Што адарыла нас сваім прытулкам.

За штораї — шторм,
Манеўры хваль за штораї:
Уздым вады такі ўрачыста люты!
Здаецца, над аглушанай прасторай
Бабахаюць святочныя салюты.

Калышучы зару, што заўтра ўстане,
У пругкай і ласкавай непакоры
Бяссонна будзе біцца да світання
Прыбой у моры і ў маім пакоі.

* * *

Расстаюся, як птах з гняздом,
З тваёй ласкай, утульнай і шчырай.
Ты —
абжыты мой дом.
І — нязведаны вырай.
Мне давала начлег у жыцці
Ноч пад лісцем платанаў і клёнаў.
Ды прытулку цяплей не знайсці,
Як пад дахам з тваіх далоняў.
У аддаленых гарадах,
Дзе я толькі адзін з пастаяльцаў,
Сніцца мне гэты добры дах,
Што з пяшчоты тваёй і пальцаў.
Твае губы —
як згуба
і як паратунак.
Доўжыцца ўсё жыццё
пачуццё —
твой пацалунак.

## ПЕСНЯ ЗЯРНЯТ

Калі палетак трызніць сяўбою,
Выходзячы з белага зімняга сну,
Мы, ахвяруючы моўчкі сабою,
Падаем, падаем у баразну.
Падаем мы на ўзараныя пожні,
Не тоячы думнага пачуцця,
Што будзе наш прытулак апошні
Жытняй калыскай другога жыцця.
Жаўранак — звонкі саліст вясенні —
Нас адпяе і апяе.
Наша зялёнае ўваскрасенне —
Рунь, што да сонца з зямлі паўстае.
Мы, ахвяруючы моўчкі сабою,
Падаем, каб прарасці збажыной.
Поле сяўбы — поле бою,
Што адраджаецца кожнай вясной.

* * *

Смела выходзь на трыбуну,
Калі сумленне турбуе
І не дае адмаўчацца
У сховішчы дамачадцаў.
Выходзь, калі ў паняверцы,
Сціснуўшы зубы ад болю,
Праўда, як вязень, у сэрцы
Стукаецца на волю...
Сеючы словы важкія
Над вечнаю баразною,
Помні — прамоўцы якія
Стаяць у цябе за спіною.
Тваіх папярэднікаў праўда
Свет скаланала бурна:
Трыбунай была барыкада,
Траншэяй была трыбуна.
І ў нашай сённяшняй змены
Па горла бунтарнай работы —

Крышыць раўнадушнасці сцены,
Каменнай казённасці доты.
Слова —
і ціша ўзарвана,
Трасуцца патайныя сховы.
Слова —
і з рук Карвалана
Злятаюць са звонам аковы...
Калі пакліча сумленне,
На сцэну ўзыходзь на сходзе,
Як у семнаццатым Ленін
На бранявік узыходзіў.

* * *

Пішу я тое, чым жыву.
Пішу надзённасць хлеба.
Пішу ваду, пішу траву.
Пішу зямлю і неба.

Я знаю, іх не я адкрыў,
Яны мяне адкрылі.
Ад іх — натхнёных дум парыў,
Маіх узлётаў крылы.

І хай усё, што ў сэрцы ёсць,
Малюнак мой азорыць.
І весялосць, і гнеў, і злосць
Мне шчодра фарбы дораць.

Ад бомбы аж на ўскрай зямлі
Бег я, падлетак босы,
Калі чырвонымі былі
Над галавой нябёсы...

І чорны хлеб ружовым быў
(О, дзён галодных згадка!),
Калі на пяць ратоў дзяліў
Адну скарынку татка...

Сярод бяроз, сярод дубоў,
На ўзгор'і і на доле
Пішу нянавісць і любоў,
Пішу быліну долі.

Дружу з уцехай і бядой.
А вечнасць?.. Што мне вечнасць,
Калі над хлебам і вадой
Навісне небяспечнасць...

* * *

Добрым людзям жывецца дрэнна:
Грызе іх сумленне, сумненне скрабе...
А дрэнныя людзі сочаць нядрэмна,
Як добрыя людзі паводзяць сябе.

Добрыя людзі тужаць аб цудзе,
Як выпраменьваць святло і гарэць.
Тым часам употай дрэнныя людзі
Шукаюць,
дзе б ім рукі пагрэць...

Тое, што добрыя людзі зробяць,—
Каб шчасцем дзяліліся я і ты,—
Дрэнныя людзі прымуць як дробязь
З усведамленнем сваёй праваты.

Дрэнныя людзі б'юць сябе ў грудзі:
Мы —
рулявыя падзей і надзей...
І мы прывыкаем,
што дрэнныя людзі
Ходзяць з выглядам добрых людзей.

## УРОК ПАЎТАРЭННЯ

Мы паўтараем,
Мы паўтараем,
Сваёй ляноце не патураем.
Ідзе паўтарэнне па дрогкай дарожцы:
Белым па чорнаму пішам на дошцы...
Мы паўтараем гэтак, як трэба:
«Мама» і «Тата»,
«Зямля» і «Неба».
Мы паўтараем:
«Народ» і «Радзіма»...
Доўжыцца вечнасць гэта гадзіна.
Услед за настаўпікам
Паўтараем,
Стаіўшы дыханне,
Былога святыні,
Мы, паўтараючы, пакараем
Мудрасці даўняй крутыя вышыні.
Вучні старанныя і непаседы,
Сцвярджаючы з продкамі падабенства,
Мы паўтарам драмы, і беды,
І катастрофы, і войнаў шаленства.
Мы паўтараем вясновае ворыва,
На поле ступаючы лёгка і храбра.
Мы паўтараем лютасць да ворага,
Мы паўтараем чуласць да сябра.
Мы паўтараем блакітныя мары
У крутаверці ракетнай спешкі.
Мы паўтараем бацькоўскія твары.
Мы паўтараем матчыны ўсмешкі.
Свет аднаўляецца кожнай вясною,
Не знаючы рыхласці і старэння,
Штодзённай адзначана навізною
Наша жыццё —
урок паўтарэння...
Дні сваёй долі высокай гартаем,
Глыбока ў зямлі схаваўшы карэнне.
І, паўтараючы, вырастаем
Мы, непаўторныя ў паўтарэнні.

## ШТОДЗЁННЫЯ МАЕ ЗВАНЫ

Завуць званы. Але не з тых званіц,
Якім пакорна хор царкоўны ўторыць.
Мяне штодзень завуць званы крыніц,
Што глыбіню нязведанага дораць.
Іх ціхі покліч, нібы лёс, прымай.
Званы завейных зім і золкіх вёсен.
Гукаюць нас у першародны май
Зялёныя званы бяроз і сосен...
Адкуль ідзём мы і куды ідзём?
Званы прыводзяць і званы праводзяць.
Званы мінулых і наступных дзён
У нас шчымлівы водгалас знаходзяць.
Як напамін страшэннае віны
За мукі незагойнага калецтва,
Звіняць, звіняць хатынскія званы —
Бяссоннае сумленне чалавецтва.
Каля дарог, дзе свой разбег з вайны
Імкнёмся мы маланкава паскорыць,
Салдацкай славы курганы —
званы
Зямным маўчаннем столькі нам гавораць.
Гукайце нас, выводзьце за парог,
На ўздыме мы яшчэ ці ўжо ў зеніце.
Званы людскіх трывог, людскіх дарог,
Штодзённыя званы мае, званіце.

## ХОР ПЕНСІЯНЕРАЎ

У зале, стаіўшы дыханне,
Ловім басоў калыханне,
На сцэне — вуснаў трымценне,
Пенсіянеры — на сцэне.

У песню дух непакоры
Прынеслі былыя лётчыкі,
Дазорныя і сапёры,
Радысты і мінамётчыкі.

Мы чуем, як б'юцца іх сэрцы:
Юнацтва,
ізноў уваскрэсні
На вечаровай паверцы
У неўміручай песні...

Хадзілі калісьці ў атакі,
Спынялі грудзямі танкі,
Падалі і ўставалі
У ліхаманцы бою,
Суткамі не астывалі,
Жыццё засланіўшы сабою.

І перад наступам новым,
Свінцовыя цэлячы зрэнкі,
Ставілі ў гневе свінцовым
Уцекачоў да сценкі...

Сваю салдацкую памяць
Кропелькай не заплямяць
Тыя, чыё сумленне
І сёння ідзе ў наступленне.

Як пераможцам смерці,
Ім не дае памерці
Цяпер адчуванне гэта,
Што песня яшчэ не спета.

З вачыма, тугою замглёнымі,
Схіляюць скроняў проседзь,
Воплескаў нашых паклонамі,
Як лекаў ад старасці, просяць.

...Мы ахаем, ледзь не плачам,
Чуллівай кранутыя песняю,
Пляскаем —
дружна плацім
Апладысментамі пенсію.

* * *

Давайце па парадку —
Аб нашай пад'ёмнай сіле.
Усё-ткі ногі спачатку
Нас па зямлі насілі.
Здаўна чалавек —
непаседа —
Хацеў прыручыць акругу.
Прыходзіў сусед да суседа,
Прыходзіў друг да друга.
Хады пачатковая школа
Пашырыла небасхілы.
Потым — было кола.
Потым — былі крылы.
Спазнаўшы тайну гэту,
Што вечнасць —
твая маёмасць,
Нагой адпіхнуўшы планету,
Мы рушылі ў невядомасць.
Нам заўтра адчынена насцеж,
Спаборнікі і пабрацімы...
Ці ж едзем толькі да шчасця?
Ці толькі да ўцехі ляцім мы?
...На колах выспелы колас
Дрогка гайдаўся ўлетку.
Прывозіла смерць на колах
Насенне сваё на палеткі.
З-пад крылаў чорных кулі
На нашы галовы ляцелі.
...Дагэтуль нашу пад кашуляй
Аўтограф гвалтоўны на целе.

. . . . . . . . . . . . . .

Мы, дзеці адной планеты,
Ля касы ў чарзе заўсёды
Так прагнем дастаць білеты
На рэйс да спакою і згоды.

## РАНІЦАЙ

Горад за ноч прадрог.
Вуліца ціхая.
Трызненнем дзённых трывог гудзе яна.
Мой гадзіннік-будзільнік цікае,
Як міна
замаруджанага дзеяння.
Здзіўляюся, здзіўляюся...
Не зважаючы на светафор,
што міргае спрасонку: «Стоп».
Па маставой пракацілася сонца, як сноп.
Эх, паставы,
Прамаргаў — не прадзіравіў правы.
Здзіўляюся, здзіўляюся...
Парачка выйшла — вуліцу вышыла.
Сплеценых пальцаў размова шчырая.
Плацце — плывучую крону вішні —
Гімнасцёрка зялёная канваіруе.
Здзіўляюся, здзіўляюся...
Несучы сваю стому ў нялёгкім ранцы,
Кабета з паглядам,
што бліскавіцаю бліскае,
Будзіць нарачонага тупае кожную раніцу
На плошчу круглую да абеліска.
Здзіўляюся, здзіўляюся...
Бачу, як чалавек чыкільгае:
стук-стук!
Хто гэта —
генерал ці пастух?
Цяжка дыбаць:
на мыліцы,
раскалыханы з вайны,
Паскрыпвае шар зямны.
Здзіўляюся, здзіўляюся...
А ўзбоч каля скверыка бой на двары,
З траншэяў новай будовы
Сонца на мушку снайпер бярэ —
Сямігадовы, бядовы...
Калі я пакіну здзіўляцца?

## ЛЁТНАЯ ПАГОДА

Просім пагоды, як хлеба,
Хмурымся небывала.
Забаставала неба —
Туманам зямлю скавала.

Нібы загнаныя вязні
(Плача душа, як кàня),
Мы, пасажыры, завязлі
У зале пачакання.

Грэем сябе чаем,
Пакуль імгла асядзе,
Турбіны рычаць з адчаем,
Нібы зубры ў засадзе.

Мрояцца крылам узлёты.
Губы майго кахання,
Далоні маёй пяшчоты —
У зале пачакання.

Скалелай баразёнцы
Трызніцца з сонцам спатканне.
А сонца — ратоўнае сонца —
У зале пачакання.

Над хворым вядзьмарыць спрадвеку
Доктар, стаіўшы дыханне.
А кроплі гаючых лекаў —
У зале пачакання.

Хоць зоркі амаль па суседству,
Ды крылы — нібы на аркане.
Ах, колькі сядзець чалавецтву
У зале пачакання.

Быццам на пана лёкай,
Маўкліва малюся на неба:
— Дай мне пагоды лётнай —
Майго надзённага хлеба!

* * *

Бяда адна не ходзіць;
Цікуючы падпольна,
Бяда бяду знаходзіць,
Каб наступаць супольна.

Яе нашэсце, зрэшты,
Накаркаюць вароны
Тады, калі ўстаеш ты
Зусім безабаронны.

Накінецца знянацку
Сяміглаловым змеем,
Якога па-салдацку
Мы ўтаймаваць не ўмеем.

Бяда — душы паверка,
І ты ў адчаі храбра
Хапаеш за паветра —
І ловіш локаць сябра.

Удаль глядзіш з мальбою —
І кроў у жылах стыне
Ад створанай табою
Глуханямой пустыні.

Так доўга, так пакутна
Рука руку знаходзіць...
А блізка зграя чутна —
Бяда з бядою ходзіць.

* * *

Імклівасць майго рыўка —
І пырскі да зор узлятаюць,
Прымай жа мяне, рака,
Як родзіча дома прымаюць.
Нібыта агнём апячэш
Сваім халадком небяспечным.

Між пальцаў маіх цячэш,
Віруеш у рэчышчы вечным...
Я ў плыні тваёй заўжды,
Як рыбіна, лёгкі і ўвішны...
Не марна гаворадь, з вады
Далёкія прашчуры выйшлі.
Рака, навучы мяне
Бяссоннаму неспакою,
Рака, навучы мяне
Хваляю быць трапяткою.
Рухацца, каб берагі
Галінамі дрэў махалі,
Каб на вадзе кругі
Зорную высь калыхалі.
Не толькі цела — душу
Ты ўмееш палоніць цікава...
Ды не занось, прашу,
Не закалыхвай ласкава.
Ты любіш дужых, рака,
З загартаванымі дружыш.
Калі ж здранцвее рука,
Ты і мяне закружыш.
Ускаламуціўшы сінь,
Як човен, у пырсках белых
Я рассякаю плынь —
І набліжаю бераг.

* * *

Душыла гора адмыслова,
А я не вешаў галаву,
Адно сціскаў зубамі слова:
— Перажыву!..
— Перажыву!..

Ах, як вагаўся дрогкі градус
Жыцця, якім не даражыў!..
Бяду і шчасце, боль і радасць
Перажываў і перажыў.

Я ў той ваеннай крутаверці,
Зусім забыўшыся на смех,
Гуляў у хованку са смерцю,
Навыперадкі з куляй бег.

Але і ў цемрадзі бязмежнай
Акупацыйнага сіла,
Мая душа, ты незалежнай,
Ты суверэннаю была.

Дзіцячай мары самалёт
Крылом аблокі ў небе кратаў,
Мой папяровы кулямёт
Знішчаў паветраных піратаў.

...Калі ж ізноўку ў паняверцы
Заслоніць хмара сіняву,
Як рэха прагучыць у сэрцы:
— Пераджыву!..
— Пераджыву!..

* * *

Уласнае гора —
заўсёды мора,
Заўсёды цёмная бездань вады.
Пераплываеш уласнае гора
З вялікімі цяжкасцямі заўжды.
Чужое гора —
малая лужына,
Што перабольшвае хтось незаслужана.
Лёгка чужое гора ў жыцці
Пераступіць ці абысці.
Гора чужое
нас не чапае,
З яго выходзім
сухімі мы.
Ды раптам,
паўстаўшы,
стыхія сляпая,

Глядзіш,
падмывае і нашы дамы...
Ты,
як і ён,
можаш загінуць...
Таму не спазніся
таварышу кінуць
Выратавальнае кола тады,
Калі яго кружыць
бездань бяды.

* * *

Ах, як брава бразгаў я бразготкаю
І ад гордай радасці нямеў,
Быццам над бляшанкаю дрыготкаю
Сам пярун прыручаны грымеў.
Дзе ты, цацка?
Што з табою сталася?
Сонейка штурхнуў салдацкі бот.
І на плечы забратанай сталасці
Рукзаком налёг цяжар турбот.

* * *

У мяне цяпер — выхадны
Ад работы, ад дум, ад песні.
У мяне —
выхадны, вы адны
Стаўце сцены, змятайце плесню.

Я на столь, як на неба, гляджу:
Ані будняў, ані параду.
У мяне выхадны ад дажджу,
У мяне выхадны ад граду.

Калі буры, калі грамы
Скаланаюць чужыя дамы,
Лёгка ў сховішчы дамачадца
Адсядзецца і адмаўчацца.

Калыханнем лагодным кроў
Закалыхвае ў сэрцы думу...
У мяне выхадны ад сяброў,
У мяне выхадны ад шуму.

Колькі доўжацца свя́ты адны,
Дзе ні ценю будзённай турботы?..
Я малю цябе, выхадны,
Дай хоць трошкі работы!

* * *

За сцяною дзіцячы крык —
Ранняга ўзросту, доўгага росту.
Быццам нехта
                    марудна цвік
Заганяе мне ў сэрца проста.

Для спакою дарма ўзвялі
Капітальныя сцены.
Плач дзіцячы з усёй зямлі
Ловяць вушы, нібы антэны.

І мае,
        і яго,
                і твае —
Аж калоцяцца клеткі грудныя.
Гэта будучыня падае
Чалавечыя пазыўныя.

Плач дзіцячы, пранізлівы крык,
Як сусветна вядомую мову,
Разумее любы мацярык,
Разумее любое мора.

Шторм калыску ці судна дзяўбе?
Але сушу вада не ўтопіць.
Падрасцеш, рулявы, і табе
Для вандровак зямлі не хопіць.

— Ціха, любы, не плач!..
Над калыскай, як маятнік, матка...
Шляху Млечнага спавівач
Свет абкручвае, як немаўлятка.

## РАЗБУДЖУ

Спіць у сасне
Каніфоль для смыка.
Ёй бы, нарэшце, прачнуцца пара
Чуецца мне:
— Тапара! тапара!
Іменем музыкі просіць рука.
Дрэмле мураўка і дыхае ледзь
Пад пеляной,
што скавала зямлю.
Што ж, калі сонца стамілася грэць,
Снег цеплынёю сваёй растаплю.
Вып'е няўтольная спёка расу.
Зляжа самлелая рунь без дажджу...
Хмару, як грушу,
тады патрасу,
Лівень і гром навальнічны збуджу!
Вырву з абдымкаў ліпучага сну
Я ўсё жывое —
мне па плячу.
Толькі сварлівую цешчу адну
Аж да палудня будзіць не хачу...

* * *

— Сынку, гуляй у сваім двары,
Не гойсай далёка ад дому:
Можаш патрапіць у рукі разбойніка...

— Ручай, не бяжы ў мора:
Там хвалі гвалтоўныя
Цябе закалышуць,
Загубяць...

— Не пакідай гнязда,
Птушанятка:
Паблізу драпежнік
Вострыць свае кіпцюры...

Хлопчык-гарэза
Бяжыць за ваколіцу,
Спрабуючы схапіць, як абруч,
Лінію далягляду.
По́дскакам ручаёк
З крыніцы ўцякае —
Спяшаецца далучыцца
Да вялікай вады.
Птушанятка,
Узмахнуўшы крыльцамі,
Паляцела ў вырай,
З прагаю выдзеўбаць
Зоркі на небе.

* * *

Ідзём далей, ідзём далей:
Світае ў дымцы сіняй...
За юбілеем юбілей —
Вяршыня за вяршыняй.
У спешцы, як усе, іду.
Дарожныя турботы:
Ледзь паспяваю на хаду
Здымаць старыя боты.

Удачам новым чалавек
Ужо стукоча ў брамку.
Далей ад траў, далей ад рэк —
Усё ў адным напрамку.
Далей ад чысціні крыніц,
З якіх пілі мы неба,
Далей ад росных медуніц,
Ад ворыва, ад хлеба...
Ах, як далёка мне відно
З ракетнага пагорку:
Калі на дыбкі стаць адно —
Рукой дастанеш зорку!
Зямное прыцяжэнне — прэч!
І ўжо гняце, як цяжкасць,
Бязважкасць рук,
Бязважкасць плеч
І — галавы бязважкасць.
Таму і вабіць так здаля
Усё, што змалку блізка:
Мой дом, мой кут, мая зямля,
Майго жыцця калыска.

* * *

— Я, выгнаннік вясны,
Страціў, чым валадарыў...
— Хто ты?
— Я — сувязны
Успамінаў і мараў.

* * *

Я — на беразе маўчання,
Ты — на беразе крыку.
Нас падзяляе
Вірлівая плынь,

Якую
Мушу адолець,
Хоць плаваць не ўмею...
Ты закрычы
На цэлы свет,
Што я
З усіх плыўцоў на свеце самы лепшы,
Калі не даплыву
Да берага твайго.

* * *

Пачынаецца кожны дзень
З той зары, што загляне ў аконца.
Ты хапаешся за прамень,
Каб размотваць клубок сонца.

Ах, як коціцца гэты клубок!
За дамы, за палі, за дубровы.
І кіруюцца ў сонечны бок,
Як сланечнікі, нашы галовы.

А калі клубок залаты
На заходзе ў бяздонне кане,
Вочы ў стоме зажмурыш ты
У вільготных абдымках змяркання.

* * *

Я — жабрак,
Я ў вас штодзень прашу
Наталіць галодную душу,
Грукачу я ў сэрцы безупынку:
— Дайце праўды чэрствую скарынку!

* * *

Калі ты ад радасці плачаш,
Твая сляза —
Люстэрка майго шчасця.
Калі ты ад смутку плачаш,
Твая сляза —
Люстэрка майго гора.
Калі ты смяешся,
Твой зрок —
Люстэрка маёй весялосці...
А калі ты маўчыш,
Я нясцерпна пакутую:
Дзе мне пабачыць
Адлюстраванне сваё?

* * *

На пляцоўку маёй далоні
Робіць пасадку дажджынка.
Дзень добры,
Вандроўніца!
Раскажы,
Дзе ты была?
Можа, ты стартавала
З атлантычнае хвалі?
Можа, знішчальнікі
На цябе палявалі —
Агнём палівалі?..
Ты дрыжыш напалохана, бачу.
Можа, ты ад імя плачу?
Можа, ты ад імя гарачых
Слёз удовіных,
Слёз дзіцячых?
Можа, ты —
Спавядацца патрэба?
Закрані. Скалані. Прасвятлі.
Можа, гэта аплаквае неба
Боль няўцешны маёй зямлі...

У дажджынкі —
Смак мора.
У дажджынкі —
Смак гора.
Госця хмары вандроўнай —
Дажджынка,
Чалавечай бяды слязінка.
Да маёй далоні прыстань,
На далоні маёй растань.

* * *

Надзею прадзём бясконца
З упартасцю шаўкапрада.
Туман,
        не хавай сонца,
Што непазбежна, як праўда.
Прычалу самотнаму сніцца
Дотык рыбацкага чоўна.
Сніцца, пакуль праясніцца
Мора, што дыхае чорна.
Не могуць прабіцца да неба
Зерняткі, што ў баразёнцы...
Ах, колькі нам высветліць трэба —
Туман,
        не хавай сонца!
Снег на палетку растане —
І рунь, што была скаваная,
Зялёным агнём паўстане!
Схаванае — не пахаванае!
І раптам за вёскай у жыце
Брэх выбухае воўчы...
Хто там ізноў, скажыце,
Пускае туман у вочы?

* * *

Я ведаю, з жыцця не зробіш казку,
Але пытаю ўсё ж не ўпершыню,
Чаму скупыя гэтак мы на ласку,
Чаму скупыя мы на дабрыню.

Варожасць нас касіла і ламала,
Калечыла і нішчыла датла,
І прасавала гвалтам... Хіба ж мала
Былых вякоў нянавісці і зла?

Жыцця і смерці прасявала сіта
Нас, што, як зерне, падалі на ток.
Пакут і жахаў зведалі дасыта,
Эпоха, дай нам радасці глыток!

Ах, нам букеты з любасці і руж бы
Штодня дарыць дарослым і малым!
Масты трывалай чалавечай дружбы
Узводзіць над адолепым былым...

Развеяць бы бяссонныя ўспаміны,
Як рэшткі даўніх навальнічных хмар...
Гэй, хто там па-зладзейску ставіць міны
Пад рэйкі нашых зорных дум і мар?

У нас усіх — крутыя абавязкі,
Выратавальны круг якіх відзён.
Калі мы не ад лютасці да ласкі
Ідзём сягоння, дык куды ідзём?

* * *

Спрадвек
З ваяўнічасцю поля ратнага
Апранаецца поле аратага:
У ворыва — шэры
Колер шынелі,
У жыта,
Што даспявае шчыра,—
Жоўты колер мундзіра...

* * *

Вельмі хочацца азірнуцца —
След пакінуты вабіць вока.
Вельмі хочацца дакрануцца
Да таго, што цяпер далёка.

Завітаць да юнацтва ў госці,
Што як ранняй вясной праталіна.
Дакрануцца да маладосці,
Што дыханнем вайны апалена.

Заміраючы на парозе,
Азіраемся перш, як стукнем.
Мы жывём у штодзённай трывозе
На парозе былога з наступным.

Зноў памножыцца ўсё, што страчана
На сцяжынах крутых к вышыням.
Шлях наш пройдзены — наша спадчына,
Што нашчадкам сваім пакінем.

Толькі ў спешцы не спатыкніцеся:
Сцежкі ў заўтра — над прорвай кладкі.
Прыпыніцеся, азірніцеся...
Хто там ломіцца без агляднкі?

## ЛІРЫЧНЫ ЎСПАМІН

Стукае бэзам
У вокны вясна,
Стукае сэрца
Ўсю ноч давідна.
З даўніх дарог
Зноў юнацтва прыйшло на парог.
Насцеж яму адкрываю душу:
Ты не стой, ты заходзь — я прашу.
    То дажджы, то замеці
    У цішы начной.
    Ты прыходзіш з памяці
    Гаварыць са мной.

Усё скажы, пра што не сказана,
Праз гады.
Над старымі вязамі
Месяц малады.
Дзень нанова загараецца,
Але не сціраюцца
Твае сляды.
Стукае восень
Дажджом у акно.
З дрэваў ліства
Адляцела даўно.
Моўчкі гляджу,
Як бягуць чаравічкі дажджу.
Чуецца мне — гэта крокі твае...
А туман за акном растае.

## З КРЫНІЦЫ ВЫБЯГАЮЦЬ РУЧАЙКІ

З крыніцы выбягаюць ручайкі,
Іх кліча свет заманлівы і звонкі,
Яны, нібы гарэзы-хлапчукі,
Бягуць удалячынь наперагонкі.

Між камянёў, пагоркаў і палёў
Бягуць, не баючыся небяспекі,
А прыйдзе час — і гмахі караблёў
Былыя ручайкі нясуць, як рэкі.

У кожнай рэчкі свой адменны плёс,
Свая хада, свой нораў непаўторны.
І ўсё ж адзін усіх чакае лёс —
Марская шырыня, марскія штормы.

Ляці за марай наўздагон штодня,
Адолееш любыя небасхілы,
Калі табе зямная глыбіня
Дала ў дарогу дужасці і сілы.

## ЗА БАЦЬКАМІ —
## СЫНЫ

Зруйнаванымі сёламі
Па дарогах вайны
Адыходзілі ў полымі
За бацькамі сыны.
Шынялі апранулі
Навырост хлапчукі.
І глядзелі матулі
Ім услед з-пад рукі.
Хлопцы з сэрцамі ўпартымі,
Не схіліліся вы,
Вам вучнёўскаю партаю
Быў акоп франтавы.
Не баяліся сталі
І варожых штыкоў,
У баях выраставі
Вы да славы бацькоў.
Моўчкі падалі ў замеці
Каля вогненных рэк.
Засталіся вы ў памяці
Хлапчукамі навек.
Сёння дом ваш — планета.
І на нас нездарма
Вы глядзіце з партрэтаў,
Быццам памяць сама.

* * *

Стартуеш у прыручаны зеніт,
Не толькі хлебам —
ты і небам сыт!
Усё ў цябе:
і зоркі і зямля,
Якую ты ўжо аглядзеў здаля,
Нібы ўсявышні з вышыні нябёс:
Ах, як яе ты зараз перарос! —
Расчуліўся ад велічы свае,

Што перад цэлым светам паўстае,
Ажно з вачэй скацілася сляза:
Зямля, зямля — якая драбяза...
Адно рукой крані — і на спачын.
Наморшчыў лоб. Ты думаеш. Аб чым?

•

* * *

Мераў ён шлях да вялікасці
Паклонамі ў рабскай шчырасці.
Марыў
ад іх шматлікасці
Сам да вялікага вырасці.

Жыла ў ім булатнасць апрычніка.
І паслухмянасць маўчальніка.
Любіў ён маторнасць клічніка,
Не ведаў сумненняў пытальніка...

Ды лёс яму выпаў бядачы:
Фартуна ягонай удачы —
Баба капрызнага норава
З яго пасмяялася здорава.

Столькі службовых іконаў
Было над чалом маўчальніка,
Што выгнуўся ад паклонаў
Ён сам, як знак запытальніка.

* * *

Лічаць абраннікі лёсу:
Ім не да клопатаў хатніх —
Прызначылі іх нябёсы
Будзіць і клікаць астатніх.

Адданыя справе дазвання
Гарністы людскога сумлення
У кошце свайго прызвання
Не маюць ні кроплі сумнення.

Яны ані ўдзень, ні ўночы
Не хочуць зажмурыць вочы.
Галовы бяссонна цвічаць —
Будзяць усё і клічуць.

Аплоцяцца мукі старання,
Ахвярнага непакою.
Ужо да іх прызнання,
Здаецца, падаць рукою...

А тыя, каго збудзілі,
Ходырам захадзілі
І з-за пабудкі горна
Бяруць трубачоў за горла.

— Скажыце, нашто чапалі?
Ах, як мы салодка спалі...

* * *

Чую я напамін штодзённы:
Ты вядучы, а я вядзёны.
Дзьмеш да хрыпу ў сваю дуду:
Ты вядзеш, а я іду.
Слова шпорай тугой уесца,
Каб душу я не распрагаў,
Каб належнае ведаў месца
І наперад не забягаў.
Угінаюцца мае плечы,
Прыбаўляешся ты ў вазе...
Не пярэчу, не пярэчу:
Ты вядзеш... А хто вязе?

* * *

Уцякаў гаспадар
З уласнага кабінета
У агульны пакой падначаленых,
Як у сховішча,—
Ад папяровай асады
Скаргаў і просьбаў,
Ад рабскай ліслівасці,
Што засяляла
Паверхі яго паліц,
Паверхі яго душы,
Пагражаючы выцесніць
Гаспадара самога...
Уцякаў гаспадар
Ад улады —
Да людзей, да іх спагады.
Ах, каму б паплакацца ў журбе?
Можа, трапіць на прыём
Да самога сябе?

## ХІТРУНЫ

Паветра куродымам труцяць,
Ваду каламуцяць і круцяць
З калыскі да самай труны
Хітруны.

Жаданняў сваіх выканаўцы,
Вы — знаўцы, вы — тонкія знаўцы
Адной чалавечай струны,
Хітруны.

Спасцiглi ў мастацтва пралезці,
Аблытаць, правесці, аплесці
Шаўковаю пражай маны
Хітруны.

У вочы лісліва пахваляць,
Крадком па-змяінаму ўджаляць,
Каб думалі, што не яны —
Хітруны.

Дастануць усё, што захочуць.
Наўпрост не прабраўшыся, збочаць,
Запал паказаўшы трайны,
Хітруны...

Адкрылі, нарэшце, адкрылі,
Што самі сябе абхітрылі,
Люляючы дробязь маны,
Хітруны.

* * *

Не кінуўшы нават слова
Ні сваяку, ні суседу,
Як па вадзе, адмыслова
Прайшоў — і знік без следу.

Застаўшыся невядомым,
Не ўзнікне ў нечым паглядзе
Ні параходам, ні домам,
Ні дрэўцам на даляглядзе.

Сам у сябе на прыкмеце
Прайшоў, як скразная ўдача.
Прайшоў — і ніхто на свеце
Не ўсцешыцца і не заплача.

Умеў пазбягаць падсуднасці,
Свае перавагі ўзважыць.
Не заўважалі прысутнасці,
Адсутнасці не заўважаць.

Прайшоў, нібы пад нагамі
З шоўку была дарога.

Не зачапіў нікога,
Не ўсхваляваў нікога.

З нябачных нітак пражу
Цэлы свой век выводзіў.
Спытай — і ніхто не скажа,
Праходзіў ці не праходзіў.

* * *

Ах, як страляе пуга сырамятная!
Майстэрскі пастушыны ўзмах рукі —
І секане чаргою аўтаматнаю
Неверагодны лёскат ля ракі.
У рух прыходзіць дымная аселіца:
Авечкі, што скублі траву ўразброд,
Пачуўшы свіст, які пагрозна цвеліцца,
Збягаюцца ў адзіны карагод.
Бізун, які па росах звонка плёхае,
Калі, здаецца, луг увесь прыціх,
Не толькі аглушае і палохае,
Але і цешыць рабалепны слых.
Нашто авечкам вышыня птушыная?
Ім толькі б гэту пашу не ўпусціць,
Заўжды падкажа пуга пастушыная,
Каму пасціся і каму пасціць!
Як хораша, што статкам з пільнай ласкаю
Кіруе гаспадарская рука...
Калі бізун над самым вухам ляскае,
Не страшна нават і выццё ваўка.
Ды раптам сядзе цішыня на купіны,
І статка непакоіцца чарга:
Ах, як гняце, ах, як бляе пакутліва
Па бізуну авечая туга!..
Няхай сабе пастух — пустое пудзіла,
Няхай у галаве яго — труха!..
Ды ў рэшце рэшт аўтарытэтнай пугаю
Гарантавана ўлада пастуха.

* * *

Перасалілі, перасалілі:
Нясцерпна паліць! Відаць, замнога
Рукой таропкай перасялілі
З сальнічкі ў страву агню зямнога.

І смагу зараз не змыць, не сцерці:
З пустэчы вокліч лунае вечны,
Нібы ў вантробах расклалі чэрці
Касцёр пякельны сярэднявечны.

Перапаўненне прыносіць страты.
Стукоча часта, стукоча рэдка
Аб рэбры сэрца, нібы аб краты.
Турмою стала грудная клетка.

ЗАГАЛОВАК

Ламае ўпарта галаву аловак,
Які абраць для кнігі загаловак.
На вуліцы зашоргаў рупны ранак —
Чырвоны самаўпэўнены жаніх,
Як быццам толькі ён адзін абраннік
І самых сціслых, і надзьмутых кніг!
Схаваўшыся за частакол гарода,
На вокладку зірнула даль крадком —
Яна табе і хлеб, і ўзнагарода,
Будзь толькі сам цвіком і малатком!
Ды вось яшчэ дарога,
Што з-за рога,
Зрабіўшы раптам выгіб свой круты,
Пусцілася пад тропік Казерога,
Ды стомлена дала нырца ў кусты...
Мільгаюць загалоўкі, загалоўкі —
Нібыта косці, храбусцяць алоўкі.

## БРАШЫ, САБАКА

Мяне твой чуйны нюх не абміне,
Калі праходжу міма ля паркана.
З якім натхненнем брэшаш на мяне,
Сабака,— неспакойны служка пана...

Я бачу — у вачах тваіх туга.
Гняцешся ты арбітай прывязною.
Цябе спусціць бы толькі з ланцуга,
Я знаю, што зрабіў бы ты са мною.

Не трэба мне тваёй і дабраты,
А я ні кроплі не зайздрошчу ўпотай
Абраннікам, якіх заўсёды ты
Лізнуць гатоў з ахвярнаю пяшчотай.

Сабака, ты — старанны працаўнік,
Ты гаўкаеш гаспадару на ўцеху.
І ў рэшце рэшт, я да цябе прывык
І да твайго аплачанага брэху.

Хоць лёгка, ды нязвыкла на душы,
Калі цябе не чую і не бачу.
Брашы, сабака, на мяне брашы,
Сумленна зарабляй свой хлеб сабачы.

## КРЭСЛА

Крэсла,
Якое цябе трымала,
Здавалася, гэтак трывала,
Аднойчы з табой расстанецца
Без тугі,
Не пабяжыць наўздагон,
Хоць мае чатыры нагі.

## ГАНЬБА ВАЎКУ

Воўк налящеў на статак,
На статак рахманы авечы.
Мы лютага супастата
Лаем па-чалавечы.

У галаварэза патрэба
Шкодзіць штодзень чалавеку.
Імем зямлі і неба —
Ганьба яму давеку!

Праклён драпежнаму зброду,
Хцівасці і прынукам,
Варожаму воўчаму роду,
Дзецям яго і ўнукам!

Патрапіць у нашу вуздэчку
Гвалтоўны разбойнік без чэсці,
Які праглынуў авечку,
Што самі хацелі мы з'есці...

* * *

Як горача мы гаворым
З трыбуны
І без трыбуны
Не ад свайго імя:
Лязо касы —
Ад імя травы,
Язык полымя —
Ад імя дома,
Які спапяляе.
І ад імя лесу —
Пень з нутром спарахнелым...
Які там дзівак
Пытае:
— Чаму ж так?..

Няма для трывогі і прычын,
Ніхто на ражон не лез:
— А я тут пры чым?
Трава.
Дом.
Лес.

* * *

Снедаем і вячэраем,
Жывоцікі набываем.
Як быццам — ўсё для чэрава!..
А пра душу забываем.

Што мы даём душам,
Пасохлым ад спёкі млоснай?
Душы свае душым
Смагаю невыноснай.

Перадаверылі богу
Мы іх занядбаныя мукі.
А ў бога турбот многа,
Не ўсюды даходзяць рукі.

Некалі быў легкакрылы,
Некалі быў увішны,
А сёння, страціўшы сілы,
Партачыць дзядок усявышні...

Дык к д'яблу нябесныя казкі!
Дайце зямлю бязбожную —
Колькі спагады і ласкі
У нас на душу кожную?

* * *

Яшчэ не манумент,
А ўжо каменны.
Не стаў на п'едэстал,
А як звысоку
Глядзіць на тых, што поруч:
Ах, мурашкі!..
А ўчора з імі па зямлі хадзіў,
Праціскваўся
У ранішні аўтобус,
Жанчынам саступаў пачціва месца,
Авоськаю лавіў
Удачу ў «Акіяне»,
Заняць чаргу спяшаўся
Да світання —
Па хараство,
Па мудрасць
І па славу...

Быў слых і зрок яго такі адменны!

Яшчэ не манумент,
А ўжо каменны.

* * *

Голас мой
Мне не належыць.
Голас мой
Набыў незалежнасць
Ад маіх жаданняў,
Ад маіх губ,
Ад майго сэрца.

Голас мой
Пырхне, як птушка,
Ледзь закруціцца
Дрогкая стужка...

І паляціць
З бунтоўнасцю шчырай
У вырай.

Потым голубам
Ціха сядзе
Да каханкаў,
Схаваных у садзе
(Толькі голуба ім бракуе!),
І —
Буркуе,
Буркуе,
Буркуе.

Яны пойдуць дадому
З саду —
Бач, і голуб
Знікне з пагляду.

Ён ужо з іншых вуснаў
Злятае —
Сцены ў шумным застоллі
Хістае:
Нейкія ў ім
Нечуваныя ноты —
Ці ад сціпласці,
Ці ад блазноты?

Мір пад дахам
Канчаецца
Сваркаю...
Хто там злосна
Пад вокнамі каркае?
Што за гук,
Не суладны з эпохай?
Я малю цябе, не палохай,
Голас мой —
Голуб мой!

Драматычныя паэмы

# АДЧЫНІЦЕ, КАЗЛЯНЯТКІ!

**Вершаваная казка ў дзвюх частках**

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Каваль
Кавалiха
Каза
Ласун, Пястун, Кемны — казляняты
Воўк

На прасцэніум выходзіць К а в а л ь. Грукатам гулкага кавальскага молата аддаюцца яго цяжкія, трошкі нязграбныя крокі. Прыпыніўшыся, каваль, у руках якога молат, у такт музыцы імітуе рухі кавальскай працы.

К а в а л ь *(толькі цяпер зірнуў у залу)*

Вось прыемная сустрэча
Тут, у казачнай глушы,
Добры дзень
Ці — добры вечар,
Дарагія малышы! *(Напявае.)*
«Я хаджу па лесе храбра,
Я спяваю:
Тут — так — ток!
Бо са мной жалезны сябра —
Мой таварыш малаток!
Я, сябры, каваль заядлы:
Стукачу — зямля дрыжыць.
І, як молат без кавадла,
Не магу без працы жыць.
Але не па абавязку —
Бо сустрэчы з вамі рад —
Я скую вам зараз казку
Пра Ваўка і казлянят».

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

Вуліца Зялёная. Цяжка адразу вызначыць, ці бачыш высокія разгалістыя дрэвы ці шматпавярховыя дамы. На адным баку — домік Казы і кузня Каваля, якая здаля віднеецца, на другім — прыстанішча Ваўка. Каля доміка Казы гуляюць Л а с у н, П я с т у н і К е м н ы. Употай цікуючы за імі, В о ў к ля свайго логавішча пляце лапці.

К а в а л ь

У маляўнічы гэты кут
Я вам адкрыў заслону.
Жывуць героі нашы тут,

На вуліцы Зялёнай.
Я вам усіх іх зараз рад
Прадставіць па парадку:
Каза і трое казлянят
Займаюць гэту хатку.
Каза да сонейка ўстае,
Не траціць час дарэмна.
Не спяць і малышы яе —
Ласун,
Пястун
І Кемны.
А хто ж на тым баку, сябры,
Прыладзіўся ля дома?
Ну што, пазналі?..
Воўк стары!
Вам твар яго знаёмы.
Нібы на прывязі штодзень —
Адны ў яго турботы —
Цішком хаваючыся ў цень,
З ярасты шые боты.
Увесь лагодны, быццам шоўк,
І вые так прыгожа...

Чуецца лагоднае скуголенне Ваўка.

Хто-небудзь скажа:
— Вось дык Воўк!
Такога быць не можа...
Ды не спяшайцеся, сябры,
Паспеем разабрацца...
Вунь кузня, бачыце, ў бары —
Мяне чакае праца.
*(Ідзе да сваёй майстэрні.)*

З акна доміка выглядае Каза і гукае сваіх дзяцей.

Каза

Каз-ля-няткі! Дзеткі!
Дзе вы? *(Паўза.)*
Пахаваліся за дрэвы...
Адгукнецеся ці не?
Час ужо на працу мне.
Гэта што яшчэ за змова?
Годзе! Чуеце? Ураз

Марш дадому!.. Я ж вымову
Атрымаць магу з-за вас...
*(Хаваецца ў доміку.)*

К е м н ы *(выскаквае, асядлаўшы пышную бярозавую галінку, пяе)*

«Я ў палёце! Я ў палёце!
Ту-ту-ту-ту!
Чох-чох-чох!
Прывязу на самалёце
Маме сена цэлы стог.
Я лячу ў блакітнай шыры.
Ту-ту-там!
І ту-ту-тут!
Ту-ту-ту! Ту-сто-чатыры.
Вось які ў мяне маршрут!
Я вязу на самалёце
Маме сена цэлы стог.
Я ў палёце!
Я ў палёце!»
*(Імітуе перабоі ў маторы.)*
Ой бяда — матор заглох...
Што ж рабіць мне?..
Каваля
Зараз я гукну здаля.
*(Адбягае ў бок кавалёвай майстэрні.)*
Гэй, ці чуеш ты мой кліч?
Малатка свайго пазыч!

Убягаюць, куляючыся, Л а с у н і П я с т у н. Дужаюцца нейкі час, потым коцяцца ў розныя бакі.

П я с т у н *(адпыхкаўшыся)*

Што я бачыў сёння ў сне —
Вось дык гэта сіла.
Маці цэлы дзень мяне
На руках насіла.

Л а с у н

Э, прысніў сягоння я
Дзіва, большае ўдвая...
Знаю, быў бы гэткі цуд
І табе па густу:

На кустах усюды тут
Вырасла капуста...

П я с т у н

Дзе яна? Паказвай мне!

Л а с у н

Я ж табе сказаў —
У сне!

Пястун натыкаецца на галінку, пакінутую Кемным.

П я с т у н *(хапае галінку)*
Вось знайшоў капусту я.

Л я с у н

Не чапай! Не руш! Мая!

П я с т у н

Выбачай, браточак, не!
Сам казаў:
Твая — у сне...

Л а с у н

Ты — спрытнюга, безумоўна...
Але ці не лепш, браток,
Падзяліць яе пароўну:
Мне — лісток,
Табе — лісток...
*(Вышчыкнуў лісток.)*

П я с т у н

Э, няма дурных! Не дужа...

Л а с у н *(накідваецца на галінку)*

Што ж, тады трымайся, дружа!

Пачынаюць тузаць у розныя бакі галінку. Урэшце раздзіраюць яе на шматкі.

П я с т у н

У ты, скнара барадаты!

Л а с у н

Ах, абжора!

П я с т у н
Жываглот!

К е м н ы *(прыскакаў)*

Стой! Разбойнікі, піраты!
Паламалі самалёт...

П я с т у н

Самалёт? Адну хвілінку...

Л а с у н

Дзе ж ён?

П я с т у н

Дзе ж ён, сапраўды?

К е м н ы *(паказвае рэшткі галінкі)*

Вось... Абломкі...

Л а с у н

То ж галінка.

П я с т у н *(спагадна)*

Ты не плач... Такой бяды.

К е м н ы *(заняты сваім, падбірае рэшткі галінкі)*

Ці чакаў я гэткай страты?
Мы ж лягалі вышай хмар...
*(Паэтычна.)*
Дык бывай, мой птах крылаты,
Сябар самых лепшых мар!
Не, цябе я не забуду...
Ну, бывай!

Л а с у н

Дзівак...

П я с т у н

Дзівак...

Л а с у н

Ён усюды бачыць цуды!..

З хаткі выходзіць К а з а. Пляскаючы, запрашае дзяцей дамоў.

П я с т у н *(да Кемнага)*

Гэй, пайшлі!.. Чаго размяк...

Казляняты бягуць да маці, абступаюць яе, яна ім шэпча нешта, тлумачыць. Высоўваецца з-за дрэў В о ў к, сочыць за імі, прыклаўшы лапу да вуха.

В о ў к *(сам сабе)*

Што за шэпты?
Што за змова?
Не магу пачуць ні слова.
Можа я зусім аглух?
У, казліны шкодны дух!

К а з а *(уголас)*

...Не высоўваць носу з хаткі!..
Зразумелі, хлапчаняткі?

К а з л я н я т ы *(усе разам)*

Зразумелі. Добра, мама!

К а з а *(да Ласуна)*. Ты

*(да Пестуна)* І ты...

К е м н ы

І я — таксама!

Бягуць у хатку.

В о ў к *(да Казы, лісліва)*

Добры дзень, кума...

К а з а

Прывет!

В о ў к

Што, на службу?

К а з а *(холадна)*

Так, сусед.

В о ў к

Не глядзі ты гэтак злосна,

Бо ад позірку твайго
У мяне на сэрцы млосна...
Сам не ведаю чаго...

К а з а

Вельмі хутка ты забыў,
Колькі шкоды нарабіў.

В о ў к

Я ж зусім не той цяпер —
Перавыхаваны звер.
Я цяпер... наадварот —
Не бяру мяснога ў рот,
Перайшоў, як кажуць гэта,
Ну, на посную дыэту.
А мяне ўвесь лес кляне...

К а з а

Што ж ты хочаш ад мяне?

В о ў к

Ды нічога... Ды нічога...
Зразумей — я быў бы рад
З'есці лепш сябе самога...
Але ж быў такі загад...
Ці ж я мог тады іначай —
Гэткая пара была.
Ах, павер, я ледзь не плачу —
Так шкада твайго казла...
Быў бы ён не ўпарты гэткі...
Я ўсё думаю ў журбе.
Але ж, бач, якія дзеткі
*(крадком смакуе)*
Падрастаюць у цябе.
Дык чаго ты крыўду тоіш?
Трэба ведаць і мяжу!

К а з а

Што ты ўсё адно і тое ж —
Я нічога не кажу.
Раз пакаяўся — і годзе.

В о ў к

Значыць, будзем жыць у згодзе?

Я твой друг — не забывай...

Каза

Я спяшаюся — бывай.

Воўк *(наўздагон)*

Вер, суседка, мне, як другу,
Слова гонару, не лгу:
Я табе зраблю паслугу —
Пільнаваць твой дом магу.
Будзем ладзіць, бачыць неба,
Як сапраўдныя сябры.

Каза *(здалёк)*

Мне тваіх паслуг не трэба,
Лепш сядзі ў сваёй нары...
*(Знікае.)*

Воўк *(спявае і няўклюдна прытанцоўвае, набліжаючыся да казлінай хаткі)*

«Я нікому больш не любы.
Я — стары пенсіянер.
Нават зубы,
Нават зубы
Прытупіліся цяпер.
Як падстрэленая птушка,
Сэрца б'ецца і дрыжыць.
Ах, як цяжка,
Ах, як цяжка
Без сяброў і блізкіх жыць!
Столькі легла бед на плечы...»
*(Перастае спяваць, жаласлівы тон змяняецца на стрыманы ваяўнічы.)*
Хто ад іх Ваўка пазбавіць?
Во! Я ведаю!.. Старэчу
Казляняткі пазабавяць.
*(Падбягае да хаткі, абыходзіць вакол, прынюхваецца. Зноў жаласліва.)*
Як самотна мне на свеце.
*(Прытворна выцірае вочы.)*
Вось і горкая сляза...
Хто мне скажа зараз, дзеці,
Дзе схавала ключ Каза?

Ну, хутчэй жа... За падказку
Вам зраблю таксама ласку:
Кошык воўчых ягад дам.
Ах, як соладка! Ням-ням...
Можна з іх зрабіць варэнне,
А яшчэ кампот і квас...
Баіцеся?.. У, стварэнні!
Абыдуся і без вас...

*(Дастае з-за пазухі вялізны аркуш паперы, кнопкамі прышпільвае яго на дзвярах казінага доміка, потым надзяе акуляры, моўчкі прабягае вачыма па паперы і затым стукаецца ў дзверы і пачынае чытаць грубым голасам.)*

Казляняткі, хлапчаняткі,
Як вы тут адны без маткі?
Адкрывайце, адмыкайце
Ды матулю сустракайце!

Казляняты выглядаюць у акно.

Лясун

Ой!

Пястун

Ой!

Кемны

Ой! Адкрыта брама...

Лясун

Гэта мама ці не мама?

Пястун

Ме!

Ласун

Ме!

Кемны

Ме!.. І што рабіць?

Пястун

Ці адкрыць, ці не адкрыць?

В о ў к *(крадком збоку заглядвае ў акно, сам сабе)*
Вунь яна — мая катлета!..
*(Да казлянят.)*
Я на холадзе ахрып.

К е м н ы

Не, не мамчын голас гэта!

В о ў к

У мяне... страшэнны грып...

К е м н ы

Пакажы ў акенца лапу!

В о ў к *(злосна, сам сабе)*

У, смаркач, развесіў зяпу!
Каб не даў я маху трошку,
Дык з цябе б зрабіў акрошку!
*(Злосна пагразіў перад акном кулаком і пабег.)*

На прасцэніуме.

В о ў к

Як мне ўсё ж уладзіць справу?
Ох, не варыць галава!
Ну а што, калі заяву
Бухнуць проста да ільва?
Як-ніяк, а я калісьці
Лепшы быў галаварэз —
Страх наводзіў на ўвесь лес...
Напішу — а што карысці?
*(З пачуццём годнасці.)*
Толькі сам сабе паможаш!
Кажам мы — гаспадары.
Там, дзе сілай браць не можаш,
Значыць, розумам бяры!
Ну, а розум дзе жыве?
*(Паказвае на свой лоб.)*
Вось у гэтай галаве!
*(Насцярожыўся.)*
Хто ідзе, здаецца... Ціха...
А, ды гэта Кавáліха!
*(Да Кавáліхі, якая нясе мех.)*

Добры дзень, мая суседка!
Вельмі рад сустрэць я вас.
Штосьці рэдка, вельмі рэдка
Бачымся ў апошні час.

Каваліха

Розных спраў хапае. Дома
Прападаю, як заўжды...

Воўк

Ну, вядома, ну, вядома...
Ну, а вось цяпер — куды?

Каваліха

Ды на млын.
Тут жыта трошкі —
На зацірку і ляпёшкі.
*(Апускае на дол мех.)*

Воўк *(з уяўнай спагадай)*

Вы... адна.. з такою ношай?
З гэткім грузам на плячы?
Як жа тут не памагчы
Мне суседачцы харошай!
Палічу за гонар я...
Мы ж усе — адна сям'я!
Быць карысным —
Так прыемна.
Так. Вось так!
*(Ніяк не можа падняць мех.)*
Пакіньце мех!

Каваліха *(кпліва)*

Не турбуйцеся дарэмна...
Збожжа тут курам на смех.

Воўк

Не, не, не! І не кажыце,
Справа тут зусім не ў жыце.
Мае сэнс для нас не вага,
А ўзаемная павага!
*(Хістаючыся ад натугі, ускідвае і нясе мех.)*

К а в а л і х а

Хоць на выгляд пень стары,
Рыцар, што ні гавары!

Кузня. К а в а л ь завіхаецца ля кавадла.

К а в а л ь *(прытанцоўваючы, спявае бадзёрым рэчытатывам)*

«Ходзіць кузня, як ад шторму,
Ад udараў малатка.
З чыгуну любую форму
Можа выкаваць рука.
Я ўжо ведаю выдатна
Твой упарты нораў, сталь,
Ты заўжды ўпірацца здатна,
Ды сагне цябе каваль.
У мяне —
Запал рабочы.
У мяне —
Кавальскі дух.
Скачам мы з відна да ночы
З малатком на пару ўдвух.
Нашай працаю сагрэты
На зямлі любы куток,
Знае ўсіх дзівос сакрэты
Мой таварыш малаток».

В о ў к *(непадалёку ад кузні, стаіўшыся, слухае песню Каваля)*

Вось і добра! Зараз тут
Мне таксама зробіш цуд!
*(Падыходзіць да кузні.)*
Добры дзень, шаноўны дружа,
Дарагі сусед Каваль!

К а в а л ь *(працягваючы працаваць)*

Добры дзень!..

В о ў к *(любуецца працай Каваля)*

Ты гэткі дужы —
Волат казачны амаль!
Вельмі слаўна,
Вельмі міла!

Ах і молат —
Проста сіла.
Як грукоча, як дзяўбе...
Гэта праўда, што табе
Па плячы любая праца?
Я хацеў бы запытацца...

Каваль

Ну, любая — не любая.
Згодна правіла майго,
Так скажу я:
Той, хто дбае,
Дамагаецца свайго!

Воўк *(раптам)*

Як суседу мне, як другу,
Можа б ты зрабіў паслугу?
Я табе, павер, за гэта
Быў бы ўдзячны без мяжы!..

Каваль

Што ж, я слухаю. Кажы.

Воўк

Добра. Толькі — па сакрэту,
Бо баюся я, што плёткі
Разнясуць сарокі-цёткі.
Як вядома, я цяпер
Перавыхаваны звер.
Але мне ніхто не верыць!
Чым маё няшчасце змераць?
Ах, я бедны і стары...

Каваль

Што ты хочаш? Гавары!

Воўк

Памажы мне, браце любы,
Буду вечны твой даўжнік...
Голас мой страшэнна грубы.
*(Гырчыць.)*
Перакуй ты мне язык!
*(Паказвае вялізны язык.)*

Бо мяне баяцца людзі
Вось з-за гэтай драбязы.
*(Горача.)*
Галасок хай тонкі будзе,
Як, напрыклад, у Казы
*(спахапіўся)*
Ці ў лісы... Так, у лісы!
Вось дык гэта галасы!

К а в а л ь

Рэчаў розных, кум, нямала
Гэта вось рука скавала.
Шмат гадоў працую...

В о ў к *(перабівае Каваля)*

Так,
Ты, Каваль, на ўсё мастак.

К а в а л ь

Але гэткага заказу
Не выконваў я ні разу.
*(Разводзіць рукамі.)*
Гэта ўсё ж язык — не сталь,
Што паробіць тут каваль?
А за тое, што не ўмею,
Ці ж узяцца я пасмею?

В о ў к *(жаласліва)*

Мы гаворым так прыгожа,
Што, маўляў, мы ўсе браты...
А ў бядзе мне хто паможа?
Адцураўся нават ты...
*(Прытворна ўздыхае.)*

К а в а л ь

Зразумей ты, справа чэсці!
Не хачу цябе падвесці...
Я ж каваль, а не партач,
Не магу, сусед, прабач.
*(Працягвае працу — стукае молатам.)*

В о ў к *(закалаціўся)*

Не суняць... ніяк... дрыготку...

Я ў нястачы ды у гразі...
Хоць вазьмі ды з гора глотку
Сам сабе перагрызі.

К а в а л ь

Супакойся ты... Не трэба!
Што калоцішся, як ліст?

В о ў к *(з пафасам)*

Я ж без працы як без хлеба,
Я ж вядомы актывіст!
Спраў кіпучых сэрца просіць,
Бачыш, я яшчэ здароў.
Я хачу карысць прыносіць
Як дружбак усіх звяроў.
Гэткі сум душу скрабе.
Ці ж я дбаю пра сябе?
Добрых маю шмат намераў,
Іх усіх не злічыш, брат,
Я б — у хор пенсіянераў
Або —
            нянькай у дзетсад...
Так люблю маленькіх дзетак —
Казлянятак і ягнят.
*(Адвярнуўшыся, аблізваецца.)*
Мне без працы цяжка гэтак,
Што жыццю свайму не рад.
Я малю цябе, хоць рэж ты...

К а в а л ь *(у роздуме)*

Што ж рабіць з табой?
А зрэшты,
Пачакай...

В о ў к *(насцярожыўся)*

Ды ты куды?

К а в а л ь

Прынясу пайду вады.
І тады што-небудзь, можа,
Зробім разам...

К а в а л ь выходзіць.

Воўк

Дай жа божа.
*(Набліжаецца да кавадла, выцягвае язык, з цяжкасцю ўзнімае молат.)*
Што ён глупства мне балбоча?
Гэта ж лёгка так... А ну!
Я ж адразу бачу — хоча
Сам сабе нагнаць цану!

Каваль *(каля кузні ўбачыў Каваліху, якая нясе з млына муку)*

Вось дык гэта навіна!
Без мяне — на млын?..
Адна!..
Так магла і надарвацца.
Бач, які паўнюткі мех.

Каваліха *(жартаўліва)*

Што ты, хіба гэта праца,
Тут мукі — курам на смех.
*(Таямніча.)*
Да таго ж адкрыць павінна
Я табе адзін сакрэт:
Несці гэты мех да млына
Дапамог мне наш сусед.

Каваль

Хто ж твой рыцар, знаць цікава?

Каваліха

Воўк — паверыш ты ці не.
Так пачціва і ласкава
Удружыць стараўся мне.
Не чакала я такога,
Так змяніўся — проста цуд!
Не пазнаць зусім старога.

Каваль

Ён, дарэчы, зараз тут.

У гэты час раздаецца стук кавальскага молата — Воўк, не вытрымаўшы, паспрабаваў сам перакаваць свой язык. Пранізліва закрычаў.
Каваль і Каваліха бягуць на крык.

К а в а л і х а

Што за немач, што за ліха!

В о ў к

Не пытайся, Каваліха...
*(Стогне.)*
Ой, ад болю я нямею!

К а в а л ь *(узіраецца дапытліва, бярэ молат)*

А, цяпер я разумею,
З-за чаго тут крык і шум.

К а в а л і х а *(да Каваля, строга)*

Памаўчы!
*(Да Ваўка, лагодна.)*
Расказвай, кум,
Па парадку ўсё.

В о ў к

Дык, значыць...
Як тут лепей растлумачыць?
Вам вядома, што цяпер
Я зусім культурны звер!

К а в а л і х а

Так, вядома, проста люба
Паглядзець, сусед, на вас.

В о ў к

Але ж слухай
*(гырчыць):*
Гру-гру-груба
Гавару... грры-мотны бас!
Гэта мне страшэнна шкодзіць!
Людзі ў страху абыходзяць...
Ім бы я — хоць перад сконам —
Шмат яшчэ зрабіў дабра.
І таму прыйшоў з паклонам
Да твайго гаспадара.
Думаў: ён жа — чараўнік,
Можа, зменіць мне язык...
Ды ў адказ пачуў я: не!

Адмахнуўся ад мяне.
І падаўся з кузні, значыць,
Даў адчуць: не хоча бачыць!
Ну, а я тады крадком
Пляснуў гэтым малатком...
*(Заскуголіў.)*
Гарр — гаррыць, нібы ад перцу...
Паліць як... Вады глыток!..

Каваліха *(паспешліва поіць Ваўка, да Каваля, асуджаючы)*

У цябе ў грудзях не сэрца,
А жалезны малаток!

Каваль

Не глядзі з такім дакорам,
Я ж усё не знаў спярша...

Каваліха

Як, скажы, табе не сорам!
Эх ты! — чэрствая душа!
Памажы — і неадкладна!
Чуеш, зараз жа!

Каваль

Ды ладна,
Згода, згода... Так і быць,
Я гатоў усё зрабіць.
*(Да Ваўка.)*
Ды глядзі мне — каб ні гуку.
Уздымаць не ўздумай крык!

Воўк *(ахвярна)*

Я сцярплю любую муку!

Каваль

Хопіць слоў — давай язык.
У агонь кладзі — сюды.

Воўк *(сам сабе)*

Ох, як страшна, сапраўды!
*(Храбрыцца.)*
Ды нічога!..
Ат, са страхам

Парашу адзіным махам.
*(Сунуў язык у агонь і загырчаў.)*
Ой, пячэ, пячэ, пячэ!

Каваль

Пацярпі крыху яшчэ...
Каб работа ў нас, дарэчы,
Паспяховаю была,
Твой язык у гэтай печы
Мы напалім дабяла...
*(Надзімае кавальскі мех.)*

Воўк *(скуголіць)*

Ой, як паліць!.. У-гуґу!
Я ўжо болей не магу.
*(Тонам мальбы.)*
Ты б не дзьмухаў так заядла...

Каваль

Даставай!

Воўк *(кідаецца да вады)*

Вады глыток!

Каваль

Стой! Куды ты? На кавадла!
*(Цягне Ваўка да кавадла.)*
Ну, за працу, малаток!
*(Б'е па языку Ваўка. Кожны ўдар малатка суправаджаецца ўскрыкам Ваўка, голас якога гучыць усё танчэй, нарэшце робіцца падобны да казінага.)*
За турботаю — турбота.
Трапны будзь, узмах рукі.
Ох, і цяжкая работа
Перакоўваць языкі!

Воўк *(вырываецца, мімаволі запяяў тонкім галаском)*

«Мае дзеткі — казляняткі,
Дарагія хлапчаняткі...
*(Раптам запамятаў, нейкі час успамінае.)*

Я... прынесла вам... арэхаў...
Падбягаїце па чарзе...»

Каваліха *(у жаху)*

Божа! Бедны з глузду з'ехаў.
Што такое ён вярзе?

Воўк *(скача)*

Прэч цяпер усе напасці!
Гэта я скачу ад шчасця.
Так! Нібы вар'ят, гарцую,
Бо ўявіць у думках рад,
Быццам нянькаю працую —
Забаўляю казлянят...
Больш не будзе ўжо наводзіць
Страх на іх
Маё выццё!
Паглядзіце,
Як выходзіць
Воўк у новае жыццё.

Воўк танцуе, а Каваль і Каваліха спяваюць дуэтам.

Каваліха

«Як хораша,
Што ў дом прыходзіць казка.

Каваль

Я веру
Толькі чарам малатка.

Каваліха

Галоўнае на свеце —
Гэта ласка.
Яна расчуліць
Нават і ваўка!

Каваль

Усе, хто марыць
Аб сапраўдным цудзе,
Сябруюць з кузняй:
Ён, і я, і ты...

К а в а л і х а

Вы бачыце,
Выходзіць Воўк у людзі,
Бо зведаў
Цудадзейнасць дабраты.

К а в а л ь

Любога непрыручанага звера
Перакуе майстэрская рука!

К а в а л і х а

А я ў спагаду і ў сардэчнасць
Веру —
Яны ачалавечаць і ваўка!»
*(Да Ваўка.)*
Вы, суседзе, малайчына!

К а в а л ь

Вы цяпер —
Інакшы звер!

К а в а л і х а

Просім з гэткае прычыны
Зазірнуць да нас цяпер.
У харомы нашай хаткі —
На зацірку і аладкі.

В о ў к *(убок)*

У, дурніца, знаць павінна:
Я да іншых страў прывык!
Падавай мне свежаніну:
Адбіўную ці шашлык!
*(Да Кавалíхі.)*
Палічыў бы я за шчасце
Пагасціць, суседка, ў вас.
Ды цяпер не маю часу —
Можа, лепш — у іншы раз!
*(Пазірае на гадзіннік, сам сабе.)*
Часу — проста у абрэз!
Трэба джгаць хутчэй у лес.
Бо — прапалі ўсе намеры —
Застануся без вячэры.

К а в а л і х а

Як шкада!

К а в а л ь

Шкада!..

В о ў к

Шкада!
Толькі гэта не бяда!
*(Прыўзнята.)*
Я ніколі не забуду
Вашай ласкі, дружбакі!
Я навек удзячны буду...
*(Мяняючы тон.)*
Можа, прыгаршчы мукі
Мне пазычылі б...
Уранку
Згатаваў бы я мачанку.

К а в а л і х а

Калі ласка!

К а в а л ь

Ну, вядома!

Каваліха насыпае Ваўку муку ў кішэні.

В о ў к *(з прытворнай расчуленасцю)*

Дзякуй шчырае, кума...
Бо, калі мукі няма,
Што тады згатуеш дома?
*(Раптам іртануўся бегчы,*
*потым спахапіўся.)*
Я ад шчасця ледзь не плачу,
Ажно іскаркі ўбачу...
Чым я вам, сябры, аддзячу?
Як за ўсё вам адплачу?

К а в а л ь

Ты ж, браток,
Сусед усё-ткі...

В о ў к

О, за вас, як за братоў,

Калі што...
Любому глотку
Перагрызці я гатоў!

Каваліха

Бывай!

Каваль

Бывай!

Каваліха

І заходзь — не забывай!

Махаюць рукамі ўслед Ваўку.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

Каля доміка Казы. Крадком, азіраючыся па баках, да дзвярэй падбіраецца Воўк. Гучыць трывожная музыка. Раптоўна штосьці з гулкім трэскам падае. Воўк хапаецца за галаву, перапалоханы, адхінаецца.

Воўк

Я жывы яшчэ ці не?..
Хтосьці — каменем мяне...
*(Убачыў поруч яловую шышку, паднімае.)*
Гырр! Не страшна мне ні кррышку!
*(Спыняецца ля дзвярэй, прыслухоўваецца, дастае з кішэні муку. Абваляў ёю лапу, некалькі разоў папляваўшы.)*
Ох, і лапка — не пазнаць!
Час і песню пачынаць...
*(Занепакоіўся.)*
Ой, забыў усё!
Склероз...
*(У залу.)*

Смешна вам, а я ўсур'ёз.
*(Хуценька дастае з кішэні ліст, таропка прабягае вачыма, зноў хавае, заспяваў тоненькім рэчытатывам.)*
«Мае дзеткі — казляняткі,
Дарагія хлапчаняткі!»
*(Запнуўся, зноў імгненна выхопліваае з кішэні шпаргалку, убок.)*
Я засвоіў звычку змалку —
Спадзявацца на шпаргалку.
*(Працягвае песеньку.)*
«Як адны вы без мяне
Сумавалі тут ці не?
Я паслася на лугу,
На зялёным мурагу.
А з гаючае крыніцы
Напілася я вадзіцы.
Вам прынесла з хмызнячка
Два вядзерцы малачка».
*(Ля акенца паказвае лапу, якую толькі што пабяліў, абваляўшы мукой.)*
Ну, здаецца, усё ў парадку.
Зараз я пранікну ў хатку.

Казляняты бягуць з падскокам да дзвярэй, бадзёра спяваючы.

Пястун

«Націскаем дружна клямку —
Сустракаем нашу мамку.

Ласун

І з пузатага гляка
Мы нап'ёмся малака.
Любім слодыч.

Пястун

Любім ласку!

Ласун

Любім ласавацца ўсе!

Кемны

Ну, а мне матуля казку
Зараз з лесу прынясе».

Разам націскаюць на клямку. Дзверы адчыняюцца, на парозе — В о ў к. Перапалоханыя казляняты кідаюцца ў розныя бакі.

К а з л я н я т ы

— Ой, ратуйце!
— Хто куды!
— Уцякайма ад бяды!
— У казліны рог сагне!
— З'есць!
— Зарэжа!
— Праглыне!

В о ў к *(тонам дабрадзея, якога не зразумелі)*

Ну і ну! Якога ліха
Гэтак енчыць! Ціха, ціха!
Глупствы розныя часамі
Распускаюць пра мяне...
Але вы зірніце самі:
Ці ж разбойнік я?
Ды не!
Гэта ўсё зласліўцы брэшуць!
Я да вас, да малышоў,—
Пазабавіць і пацешыць,—
Як сапраўдны друг, прыйшоў.
Я вам свой, а не чужы!

К е м н ы *(высоўваючы галаву з закутка, з выклікам)*

А чаму тады, скажы,
Ты да нас прыйшоў крадком
З гэткім тонкім галаском?
І чаго спяваў таксама,
Як спявае наша мама?

В о ў к

Ха! Ды гэта ж жарты проста,
Я — вясёлы жартаўнік...
Я такі з малога ўзросту —
Вельмі востры на язык.
Нездарма завуся Шэрым...
Што, не верыце?

Казляняты *(усе разам)*

Не верым!

Воўк *(сароміць іх)*

Непрыгожа, непрыгожа!
*(Па-дзелавому.)*
Паказаць тады я рад,
Як стары свавольнік можа
Пазабавіць казлянят.
Што спрачацца так без толку?
Ці не лепш згуляць у сполку
З вамі ў хованкі?..
А ну?
*(Замыкае дзверы.)*
Ну, вылазьце! Не крану...

Усе трое казлянят цікаўна вытыркнулі галовы з розных куткоў.

Пястун

А не маніш?

Ласун

А не хлусіш?

Кемны

А не брэшаш?

Воўк *(з ласкавым дакорам)*

Эх, сябры!..

Кемны

Даць спачатку слова мусіш,
Што нікога з нас не ўкусіш.

Воўк

Я ж зусім ужо стары...
І калі схацеў бы з'есці,
Дык не змог бы — слова чэсці!
У мяне зубоў няма —
І дрыжыце вы дарма...
Я клянуся — не маню!
*(Паўза.)*
Дык пачнём хутчэй гульню!

Казляняты нясмела вылазяць са сваіх схованак.

В о ў к *(заахвочваючы казлянят)*

Так, так, так...
І без аглядкі!
Весялей, карантышы!
Зараз з вамі, хлапчаняткі,
Пагуляю ад душы!
*(Хоча пагладзіць лапай Кемнага, які выйшаў на сярэдзіну пакоя.)*

К е м н ы

Стой! Бліжэй не падыходзь
Ні на крок!

В о ў к

Цішэй бы хоць!..
Дурань ты! Цябе, гарэзу,
Я пагладзіць меў намер.
Раз не хочаш —
Я не лезу...
А? Шкадуеш сам цяпер?
*(Зноў намыкаецца пагладзіць Кемнага.)*
Падыдзі, не бойся, дзетка,
Пончык мой, мая катлетка...

К е м н ы

Не чапіся, гавару!
Бо... да смерці забару!..
Закалю цябе рагамі,
Растапчу цябе нагамі!
*(У гераічным адчаі кволымі рожкамі тапырыцца на Ваўка.)*

Л а с у н *(спалохана)*

Ой, малы зусім здурнеў.

П я с т у н

Наклікае воўчы гнеў!

В о ў к *(дзіка зарагатаў)*

Гэта ён мяне растопча!
*(Зноў рагоча.)*

Насмяшыў мяне ты, хлопча.
*(Раптам.)*
Малайчына! Мне за гэта
Падабаешся ўдвая.
Ты —
Відаць па ўсіх прыкметах —
Завадатар, як і я...
Ха! *(Імітуе Кемнага.)*
«Рагамі закалю...»
Ты па густу мне — хвалю!
За гульню, сябры, за справу!
Пазабавімся на славу...
Дык у хованкі?

К а з л я н я т ы *(усе разам)*

Ага!

В о ў к

А каму вадзіць чарга?
Ах, так, так, прыпамінаю...
Ціха стойце — пачынаю!
Між казлінымі ілбамі
Хтосьці ляскае зубамі,
Хтосьці лічыць:
— Раз!
— Два!
— Тры!
Гэта, пэўна, будзеш ты!
*(Пападае на Кемнага.)*
Ну, вадзі, чаго стаіш?
Хвост вышэй трымай, малыш!
*(З гарэзлівым выклікам*
*кідаецца наўцёк.)*

К е м н ы *(уладна)*

Цур, ні з месца! Ты куды?

В о ў к

Што напучыў вочы?

К е м н ы

Па ўсіх правілах заўжды
Мы гуляць ахвочы.

Воўк *(рагоча)*

Я даўно маленькі быў.
Ну і правілы забыў...
*(Засланяе далонямі вочы,*
*паварочваецца да сцяны.)*
Уцякайце, уцякайце,
Як бяды, мяне чакайце.
Хто ў глухі куток схаваўся,
Той, напэўна, ўратаваўся!
Хто стаіць каля мяне,
Той бяды не абміне.

Кемны

Раз,
    два,
        тры,
            чатыры,
                пяць...
Я ужо іду шукаць!

Ласун, Пястун і Воўк разбягаюцца. Хаваюцца.
Воўк адразу ж высоўвае са сваёй схованкі пашчу, цікуе.

Воўк *(сам сабе)*

Што ж, згуляем мы прыгожа.
Толькі б шум не ўзняць, крый божа.
Бо наклікаць можна ліха!
Абы ціха. Абы ціха.
Я вас, хлопчыкі, таму
Зараз з'ем па аднаму!
А з каго ж пачаць?
Спярша
Праглыну я малыша!
*(Увесь вылазіць са схованкі.)*

Кемны *(яшчэ раз лічыць)*

Раз,
    два,
        тры,
            чатыры...

Воўк пад словы Кемнага, нібы пад каманду, ступае, набліжаючыся да яго. Нечакана Кемны адкрывае вочы — ва ўпор глядзіць на Ваўка.

А ты — куды?!

В о ў к *(разгублена)*

Ды я... ды я...
Не варыць мазгаўня мая.
Хацеў я запытацца,
Куды мне лепш схавацца...

К е м н ы

Эх, ты... Стары хвалько! Ды тут
Залезці можна ў гэткі кут,
Што не знайсці ніколі...

В о ў к

Ой, штосьці... ў горле коле...
Дык вось, паслухай мой намер.
Хавайся, хлопча, ты цяпер.
А я заплюшчу вочы —
Я пастаяць ахвочы.
Бо ці ў мае, сынок, гадкі
Употай лазіць у куткі?

К е м н ы

Ну, добра. Што з табой рабіць.
Давай, няўмека! Так і быць.
І — цур — каб быў парадак,
Глядзі мне, без падглядак!

В о ў к

Ну, што ты!
Як падумаць мог...
Я ўраз аслепну — далібог!

Воўк заплюшчвае вочы, адварочваецца да сцяны. Кемны мігам ускоквае на прыпечак, залазіць у печку, закрываецца засланкай. Воўк паварочваецца ад сцяны, спрабуючы падгледзець, але позна: Кемнага ўжо не відаць.

Уцёк, хітрун!
Прапаў і след...
Ну, пачынаць пара абед!
Дык хто ж на першае ў мяне?
Ласун!
*(Мацае жывот.)*

А змесціцца ці не?
*(Кідаецца пад лаву, дзе схаваўся Ласун. Праз нейкі час вяртаецца з успушаным жыватом, цяжка сапе.)*
Ух, як булькоча ў жываце!
*(Паўза.)*
Ды апетыт усё расце...
А на другое хто ў мяне?
Пястун!
*(Мацае жывот.)*
А змесціцца ці не?
*(Кідаецца за шафу, за якой схаваўся Пястун. Праз нейкі час вяртаецца, ледзьве цягнучы свой жывот, які яшчэ больш уздуўся.)*
Цяпер абодва ў жываце —
Які абед прыемны!
Ды апетыт усё расце.
Куды ж падзеўся Кемны?
*(З лянотай сытага заглядвае па кутках.)*
Ах, ліха з ім! Такой бяды...
Хай патлусцее трошкі,
Бо ён яшчэ зусім худы:
Не мяса — шчэць ды рожкі!
*(Пакідае хатку, лянiва і нязграбна прытанцоўваючы, спявае песеньку сваёй ваўчынай удачы.)*
«Я шнырыў недарэмна,
Стараўся я ўсур'ёз.
І вось цяпер прыемна
Сапу, як паравоз.
Іду хадой цяжкою
Між сосен і ракіт.
Мне не дае спакою
Мой воўчы апетыт.
Шырокі, як вароты,
Мой ненажэрны рот.
Адны ў мяне турботы —
Напоўніць свой жывот.
Здаецца мне, за тыдзень
Я з'еў бы цэлы свет.
На жаль, ніякі злыдзень

Не кліча на банкет.
Я толькі ў сілу веру,
Гарцую між кустоў.
Любога, хто не Шэры,
Я праглынуць гатоў.
Я пільна выглядаю
У цішыні лясной:
Ну, хто яшчэ згуляе
У хованкі са мной?»
*(Рухі Ваўка ў танцы робяцца ўсё больш марудныя і вялыя, пакуль, нарэшце, ён зусім не застывае ў пэўнай паставе, нібыта патрапіўшы ў цягучую багну.*
*Беспасяхова намыкаецца дрыгаць непаслухмянымі лапамі пад абрывістыя гукі музыкі.)*
Што такое?
Што такое?
Варухнуцца не магу,
Не магу махнуць рукою,
Не магу падняць нагу.
Ой, правальваецца глеба!
*(Прыслухоўваецца.)*
Ой, ой, ой!
Жывот трашчыць...
Во! Я знаю, што мне трэба.
Трэба зараз адпачыць!
*(Падаецца ў свой бярлог.)*

К е м н ы *(вылазіць з печы, азірае са здзіўленнем пустую хатку)*

Воўк, куды падзеўся ты?
Абзавіцеся, браты!
*(Гукае.)*
Эге-ге-й!.. Няма... О божа!
Хто цяпер мне дапаможа?
*(Здагадаўся.)*
Ён іх з'еў! А я — жывы.
*(У залу.)*
Гэта ведаеце вы.
Што рабіць? Куды ісці?
Мамку трэба мне знайсці!
*(У роспачы заплакаў.)*

Ох, яна мне скуру злупіць...
*(Пасля паўзы.)*
Хто тады другую купіць?
*(Раптам натапырыўся.)*
Я? Спалохаўся бяды!
Храбрым трэба быць заўжды!
І не вешаць нос ніколі...
*(У залу.)*
Гэтак вучаць вас у школе?
*(Робіць ваяўнічы выгляд.)*
Гэй, малыш, смялей у бой!
Дзеці ўсіх звяроў — з табой!
*(Бяжыць.)*

З'яўляецца К а з а, з жахам глядзіць на адчыненыя дзверы.

К а з а *(спуджана)*
Дзверы насцеж!
Насцеж дзверы!
Божа мой, вачам не веру...
*(Хутка ўбягае ў хатку.)*
А! Жартуюць шалапуты,
Ну, а мне — ізноў пакуты —
Знаю вас, балаўнікі!
Пахаваліся ў куткі.
Пачакайце! Ваша мама
Пасмяецца з вас таксама.
Знаю, чым прынадзіць вас,—
Пазбягаецеся ўраз.
*(Дастае ласункі.)*
Вось яны — мае ласункі,
Аж цякуць салодка слюнкі:
Малако, тварог, і сыр,
І смятана, і кефір...

Ніхто не адгукаецца. Трывожна.

Дзеткі, дзе вы?
Што такое?
*(Ліхаманкава абшнырвае хатку.)*
Божа! Іх няма ў пакоі!
*(Пачынае галасіць.)*
Ах, мае вы казляняткі,
Дзе мне вас шукаць цяпер?
Не паслухаліся маткі —

Можа з'еў вас люты звер?
Не дагледзела з маленства!
Так балюча на душы,
Ваша ўсё непаслушэнства,
Эх, дурныя малышы!
Ну, а я сама!.. Даўбешка...
Бо заўсёды гэта спешка...
Як бы вас адлупцавала,
Неразумных пестуноў.
*(Усхліпвае.)*
Як бы вы знайшліся зноў!
*(Выбягае з хаткі, азіраецца, прыслухоўваецца. Даносяцца пералівісты храп і свіст Ваўка, які салодка спіць пасля банкета. Храп і свіст такой сілы, што аж дрэвы калоцяцца, хатка Казы пачынае хадзіць ходырам, як ад буры. Каза спачатку не разумее, што гэта такое.)*
Ой, у зрэнках чэрці скачуць!
Вось дык свіст — на цэлы свет!
Што б магло ўсё гэта значыць?
*(Заўважыла Ваўка.)*
А! Ды гэта мой сусед!
Галава мая дурная...
Ух, зрабілася лягчэй.
Можа ён што-небудзь знае
Пра маіх сыноў?.. Хутчэй!
*(Пахістваючыся ад ваўчынага свісту і храпу, як ад моцнага ветру, бяжыць да Ваўка, тармосіць яго, спрабуючы пабудзіць.)*
Гэй, сусед! Таварыш Воўк!

Воўк не абзываецца.

*(Са злосцю.)* На хвілінку хоць бы змоўк!
Ды прачніся ж! Чуеш, дружа?
Ты мне, кум, патрэбен дужа!
*(Тармосіць.)*

В о ў к *(перастаў храпці, сонна перавярнуўся, махнуў на Казу лапай)*

Пачакай!
*(Лёг на другі бок і зноў захроп.)*

К а з а

Прашу цябе,
Я ў няшчасці, я ў журбе...

В о ў к *(зноў перавярнуўся на другі бок)*

Пачакай!

К а з а *(трацячы цярпенне)*

Чаго чакаць?
Трэба мне дзяцей шукаць!
Мае бедныя сыны...
Можа знаеш, дзе яны?
Мае родненькія дзеткі!
*(Заплакала.)*

В о ў к *(усхапіўся, злосна)*

Фу, ты сон прагнала гэткі!
*(Пацягваецца.)*
Гэткі сон салодкі... Сіла!
Бачыў я, што ты сама,
Паважаная кума,
Мяне ў госці запрасіла...
Ды на стол наклала ты
Столькі рознай смакаты...
Ах, як пахла — водар рэдкі!
Толькі я нацэліў зуб
На духмяныя... катлеткі,—
Ты мяне трасеш за чуб:
«Уставай! Прачніся, кум!..»
Ну чаго ўзнімаеш шум?

К а з а

Зніклі некуды сыны.
Ці не бачыў, дзе яны?

В о ў к *(разгублена)*

Што?!. Сыны?!. Тваe?!.
*(Пагладзіў сябе па жываце.)*
Бяда!
Не, не бачыў іх... Шкада...
Увесь час я, далібог,
Спаў, забраўшыся ў бярлог.

К а з а *(глядзіць на яго ўздуты жывот)*

Слухай, што ў цябе, суседзе,
З жыватом? Зусім распух...

В о ў к *(выкручваецца)*

Прастудзіўся, пэўна, недзе...
*(Хапаецца за жывот.)*
Ой, ой, ой! Вох, вох! Вух! вух!
Захварэў!.. Баліць, кума...
Аніякіх сіл няма!

К а з а

Дык чаго стагнаць і хныкаць?
Трэба доктара паклікаць.
Сваёй трубкай навылёт
Ён прасветліць твой жывот.
І, прагледзеўшы вантробы,
Знойдзе ўсе твае хваробы...
*(Памыкаецца ісці.)*

В о ў к

Стой! Няварта! Не, не, не!
Трошкі лепей стала мне.
Пройдзе ўсё без дактароў —
Я амаль ужо здароў!

К а з а

Ну як хочаш... Калі гэтак...

В о ў к

Гэтак, гэтак — не ілгу!
Я табе, суседка, дзетак
Пашукаць дапамагу.
*(Бярэ Казу пад руку.)*
Старажыл я ўсё-ткі тут,
Знаю ў лесе кожны кут.

К а з а

О бяда мая, бядота!
Дзеткі, хлопчыкі мае...

В о ў к
Што ты возьмеш з іх —
блазнота...

Каза

Сіл ніякіх не стае!

Воўк

Супакойся, знойдзем іх —
Мілых хлопчыкаў тваіх.
Недзе скачуць, шалапуты
*(памацаў жывот)*,
Пахаваўшыся ў кусты.
А для маці — зноў пакуты.
Ну чаго раскісла ты?

Каза і Воўк ідуць, яны размаўляюць, суправаджаючы гаворку жэстамі, але слоў ужо не чуваць, іх глушыць музыка, якая перадае рытм хады, пошуку, трывогі. З другога боку сцэны ўбягае Кемны.

Кемны *(у роспачы)*

Анідзе яе няма.
Абскакаў наўкол дарма.
*(Забег у хатку, вяртаецца.)*
Дзе ж яна, мая матуля?
Дрэвы, птушкі і звяры,
Э-ге-гей! Ці вы паснулі?
Адгукніцеся, сябры!

І — о цуд! — недзе з глыбіні лесу ў адказ Кемнаму даносіцца шматгалосае водгулле, у якім паступова вылучаюцца асобныя галасы. Здаецца, гэта дзяцел штосьці хоча сказаць:
— Тук-тук-тук!
А ўслед за ім і зязюля:
— Ку-ку! Ку-ку!
Іх галасы паўтарае ў сваім вымаўленні рэха:
— Тут-тут-тут!
У тым баку!

Кемны *(па падказцы рэха заўважыў Казу і Ваўка)*

Ма-ма!
*(Спахапіўся.)*
Ой, што я раблю...
Сам сябе я загублю!
Калі Воўк мяне заўважыць,
Нас дваіх адразу спляжыць:
І матулю, і мяне

Ён у момант праглыне.
Што рабіць мне? Сілы мала.
Росту трошкі не стае.
*(Робіць ваяўнічую позу.)*
Ды нічога!
Што б ні стала,
Мушу вызваліць яе!
*(Падаецца ўслед за Ваўком і Казой. Хаваючыся, перабягае ад аднаго дрэва да другога. Раптам спыняецца, страціў з поля зроку Казу і Ваўка.)*
Дзе ж яны? *(Зноў заўважыў.)*
Ага... А зрэшты,
Мне іх гэтак не дагнаць:
Тут прыдумаць трэба нешта,
Трэба тактыку мяняць!
*(Прыслухаўся: здаля чуваць стук кавальскага молата.)*
Ух, падкошваюцца ногі.
Без памочнікаў, на жаль,
Не дабіцца перамогі.
Хто ж паможа мне?

Стук кавальскага молата.

Каваль!
*(Бяжыць на стук молата.)*

Зноў з'яўляюцца В о ў к і К а з а.

К а з а
Ох, у сэрцы перабоі —
Расступаецца зямля.
*(Раптам.)*
Слухай! Мы яшчэ з табою
Не былі у Каваля!

В о ў к
Што? У кузні? Ах, так, так...

К а з а
Дык пайшлі хутчэй!..

В о ў к
Аднак
Вось што... Лепш за ўсё, суседка,

Я адзін туды пайду —
Хлапчукоў тваіх знайду...
Ты ж — як высахлая кветка.
Так змарнела, далібог,
Што аж вецер валіць з ног.
У спакоі, у зацішку
Паляжы, паспі хоць крышку.
Я жадаю аднаго...

К а з а *(пакрыўджана)*

Ды ты што? Ды ты з чаго
Волю даў такім абразам?
Пойдзем разам, толькі разам!
Як жа смееў такое ты?..

В о ў к

Гэта я ад дабраты.

Ідуць.
Кузня. К а в а л ь і К е м н ы.

К е м н ы *(заканчвае свой расказ)*
...І цяпер адна надзея —
Гэта — вы. Прашу я вас...

К а в а л ь

Так. За ўсё трымаць адказ
Мы прымусім ліхадзея!
*(З самадакорам.)*
Ах, манюка, ах, паганец!
Дробны хлус і ашуканец...
Як жа спрытна і мяне
Абкруціў ён вакол пальца.
Я паверыў сатане,
Што схаваў пад маскай джальца.
*(Да Кемнага.)*
Нельга траціць ні хвіліны —
Зможам мы паспець яшчэ...

К е м н ы *(храбра)*

Мы яго злавіць павінны!

К а в а л ь

З нашых рук ён не ўцячэ.
Ну, гайда!

А ты як след
Помніш, дзе ягоны след?

К е м н ы

Помню добра. Да драбніцы.
Праз хмызняк...
Наперарэз...
Збочыў ён каля крыніцы,
За якою —
Цёмны лес...
*(Задумаўшыся.)*
А ці зможам мы з табой
Выйграць гэты цяжкі бой?

К а в а л ь

Зможам, хлопча! Вышай хвост!
*(Дапытліва ўглядаецца ўдалеч.)*
Пойдзем мы вось так —
Наўпрост...
Падавацца можам храбра
У любы лясны куток!
*(Хітравата падміргнуўшы, бярэ свой кавальскі молат.)*
Бо са мной жалезны сябар —
Мой таварыш малаток!
*(Нібы па Ваўку, б'е па кавадле.)*
Атрымоўвай, злыдзень,— на!

Уваходзіць К а в а л і х а.

К а в а л і х а

Ах, якая навіна!

К а в а л ь *(працягвае сваё)*

Не збярэш ты нават косці...
*(Зноў стукае малатком.)*

К а в а л і х а

Хоць бы ты на момант змоўк.
Слухай!
К нам ідуць у госці —
Знаеш хто? — Каза і Воўк!

К а в а л ь *(схамянуўся, занепакоена)*

Хто? Каза і Воўк?

Каваліха

Ну, так!
Вунь! Шыбуюць праз хмызняк.
*(Глядзіць удалеч.)*

Каваль *(з'едліва)*

Так, так, так... Візіт прыемны...

Каваліха

Што з табою? Ты ў журбе?

Каваль

Ты схавацца мусіш, Кемны...
*(Заклапочана.)*
Але дзе схаваць цябе?

Каваліха *(толькі цяпер заўважыла Кемнага)*

Вось хто ў нас! Маё дзіцятка!
Ах ты, лапачка мая!
*(Гладзіць Кемнага.)*
Зараз будзе тут і матка,
Так сказаць, уся сям'я...

Каваль *(заняты сваім, да казляняці)*

Вось сюды! Залазь хутчэй!
Скеміў, хлопча? Згінь з вачэй!

Кемны *(вызваляецца з абдымкаў Каваліхі)*

Разумею... Веру цуду!
Невідзімкай зараз буду.
*(Хаваецца ў скрыню.)*

Каваліха *(з недаўменнем)*

Слухай, што ўсё гэта значыць?
Ці не мог бы растлумачыць?

Каваль

Потым, потым.

Каваліха

Вось загадка!

К а в а л ь

Потым. Зараз не магу.
А гасцям пра казлянятка
*(паказаў на скрыню, у якой схаваўся Кемны)*
Разумееш — ні гу-гу...

К а в а л і х а *(з крыўдай)*

Разумею.

К а в а л ь

І дарэчы,
Будзь гатова да сустрэчы!

З'яўляюцца К а з а і В о ў к.

К а з а

Выбачайце, але я...
У мяне прапалі дзеткі. *(У роспачы.)*
І сама я не свая!
Дзякуй вось — сусед са мною.
*(Паказвае на Воўка.)*
На падтрымку стаў сцяною,
Што было б, калі б не ён!

В о ў к

Мы ж — адна сям'я лясная.
Чуласць к бліжнім — мой закон.

К а з а *(да Каваля)*

Выбачайце, што трывожым.

В о ў к

Што ты! Нам Каваль — як брат.

К а в а л ь

Твайму гору мы паможам,
Веру, знойдзем казлянят.

К а в а л і х а

Я таксама ў гэта веру...

К а в а л ь *(па-дзелавому)*

Глянь, сусед, у гэты кут,
Бачыш, я скаваў сякеру.

В о ў к *(спалохана адскочыў)*

Што?! А я пры чым жа тут?
Я... Ды я на ўсю акругу.
Ды на ўвесь звярыны свет...

К а в а л ь

Мне маленькую паслугу
Можа б ты зрабіў, сусед?
Вунь, глядзі, кавальскі мех
Сапсаваўся, як на грэх.
Дык падзьмухай на вуголлі,
Каб шугалі, як касцёр...

В о ў к *(з палёгкай)*

Зразумеў усё. Даволі...
А нашто табе тапор?

К а в а л ь

А! Ды гэта па заказу!
Аднаму гаспадару...

В о ў к

Так бы ты сказаў адразу.

К а в а л ь

Толькі зараз — навастру.

В о ў к *(зноў скоса зірнуў на тапор)*

Ну, давай! Шаноўны дружа...
*(Пачынае дзьмухаць, слаба і з апаскай.)*

К а в а л ь

Э, ды ты ж зусім нядужы.
Дзьмеш, сусед, нібы сто год
Ты не браў нічога ў рот.

В о ў к *(самалюбіва)*

Я нядужы? Глянь тады!
*(З усіх сіл дзьме.)*

К а в а л ь

Зараз лепей, сапраўды.
Пакажы, на што ты здатны.

Так, так, так,
Амаль выдатна!
*(Падміргвае Кавалісе.)*
Сіла ў дзеянні расце...

Воўк

Ой, кальнула ў жываце!

Каваль

Трошкі вытрымкі і волі!

Воўк, выбіваючыся з апошніх сіл, дзьмухае — і нібыта парывы моцнага ветру ўзбіваюць высокае полымя з вугалля, якое спярша ледзь тлела.

Больш напору! Маладзец!
Чуеш, як гудзе вуголле?
Вось і блізіцца канец.

Воўк

Ой, ой, ой! Праймае пот!
Каравул! Трашчыць жывот!

Выбухаюць трэск і шум — і на нейкі момант сцэнай завалодвае цемра. Са змроку ў промні пражэктара выскакваюць па чарзе казляняты — Ласун і Пястун. Зноў — поўнае святло.

Каза *(утрапёна)*

Вар'яцею, розум трачу
Я ад гэткай навіны!
Ды няўжо? Каго я бачу?

Казляняты

Мы! Мы! Мы! Тваё сыны!

Каваль *(да казлянят)*

Гора мамчына суцешце...

Каза *(абнімае казлянят)*

Мае дзеткі! Вы!.. Нарэшце!
*(З ласкавай пагрозай.)*
У, разбойнікі — браты!
Накруціць бы вам хвасты.
Я ж казала — быць бядзе.
*(Раптам.)*
Божа мой!

У гэты момант прачыняецца скрыня, з якой намагаецца вылезці Кемны.

А Кемны дзе?!
*(У роспачы садзіцца на скрыню, зачыняючы яе.)*

К е м н ы *(са скрыні)*

Тут я. Тут. Ты чуеш, мама?

К а в а л ь

Так, і Кемны тут таксама.

К а з а *(недаўменна)*

Дзе ж ён тут, калі няма?
*(Азіраючыся.)*
Выглянь хоць, адкуль гукаеш!

К е м н ы *(са скрыні)*

Не магу я, бо сама
Ты мяне не выпускаеш!

К а в а л ь *(падыходзіць да Казы)*

Проста мы адкрыем цуд!

Памагае Казе злезці са скрыні, адкрывае века — і адтуль высоўваецца галава К е м н а г а.

Бачыш — ён і праўда тут.
*(Да Кемнага.)*
Туды — вунь там ступенькі!..

Кемны, не слухаючы Каваля, выскаквае са скрыні, абнімае Казу.

К а з а

Мой хлопчык... Мой маленькі...

К а в а л ь

Маленькі гэты — ого-го!
І моц у ім — лясная.
Калі б не кемлівасць яго,
Дык што было б, не знаю.
Я нават сам, стары дзівак,
Даў маху. Э, ды што там.
Вам падрабязна, што і як,
Ён сам раскажа потым.

К а з а

Я бачу зноў вас, трох сыноў.
Мы разам, як раней, ізноў...

К а в а л ь

А што, сябры, з Ваўком рабіць?
Жывым пакінуць ці забіць?

В о ў к *(узмаліўся з закутка)*

Ах, столькі гойсаў у бядзе
Я без кавалка хлеба.
А чуласць дзе? Спагада дзе?
Мяне выхоўваць трэба.

К а з а

Што, задрыжалі жылкі!

В о ў к

Я прызнаю... памылкі...

К е м н ы

Цяпер адплата не міне
Злачынца і прыблуду.

В о ў к

Ах, пашкадуйце вы мяне —
Клянуся — больш не буду!
Гатоў служыць вам удвая —
Маім суседзям любым.
Паверце мне — клянуся я
Сваім апошнім зубам.
Я сам сябе прыгаварыў
Да пажыццёвай мукі.
Паверце ў добры мой парыў —
Вазьміце на парукі!

К а в а л і х а

Ён шчыра каецца, відаць,
Што страціў з намі дружбу.
А можа ўсё ж яго аддаць
У заапарк на службу?

К а в а л ь

Ці ў цырк?..
Там змогуць астудзіць

Запал ваўчыны людзі!
Ён там, як міленькі, хадзіць
На задніх лапках будзе.
*(Да казлянят.)*
Вы згодны?

К а з л я н я т ы *(усе разам)*

Не!

К е м н ы

Пасля ўсяго,
Што нарабіў злачынца,
Не хочам бачыць мы яго
Ні ў цырку, ні ў звярынцы.

К а в а л ь *(працягвае развважаць)*

Тады яго ў глухі гушчар
Прагонім назаўсёды...

К а з а

Ды каб адтуль не збег, махляр!

К а в а л ь

Ну?

У с е
— Згода!
— Згода!
— Згода!

К а в а л ь

Няхай сабе ў лясной глушы
Жыве да самай смерці,
Дзе ні адной жывой душы —
Лесавікі ды чэрці!

Каваль усім, хто на сцэне, дае па аднаму чырвонаму сцяжку, а можа — факелу. Нашы героі выстройваюцца ў шарэнгу. Узнімаючы сцяжкі-факелы, наступаюць на Ваўка, замыкаюць яго ў вогненнае кола. Воўк у роспачы кідаецца то ў адзін, то ў другі бок, нарэшце, знайшоўшы праход, бяжыць у лес.
Усё на нейкі момант сціхае і замірае. Раптам здаля даносіцца выццё Ваўка — ні то жаласлівае, ні то пагрозлівае.
Гучыць фінальная песня.

Усе

Перад бядой рука ў руку
Пастанем мы заслонай.
Не месца хціваму Ваўку
На вуліцы Зялёнай.
Мацнее наш сяброўскі круг,
Не страшны нам грабежнік.
Хай разам будзе з другам друг,
З драпежнікам драпежнік.

Кемны

Калі ў ваш дом у нейкі час
Пастукаецца Шэры
Наймацца нянькаю да вас...

Казляняты *(усе разам)*

Не адкрывайце дзверы!

Каваль

Звон малатка майго чуваць
Усюды і заўсёды.
Ды вось не змог перакаваць
Ваўчынае пароды.

Кавалiха

Не марна ходзіць між людзьмі
Вядомая памоўка,
Што як ваўка ты ні кармі,
Збяжыць у лес ізноўку.

Каза

Не зменіш воўчага нутра
Ні дабратой, ні ласкай.

Усе

На гэтым нам, сябры, пара
Расстацца з нашай казкай.

*Канец*

# ДАЙ ВАДЫ, КАЛОДЗЕЖ!

**Драматычная паэма казка**
**ў пяці карцінах**

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Алеся
Ганка
Зося
Бацька
Майстар, ён жа Качар
Барабаха
Месяц
Маці Месяца
Сонца
Маці Сонца
Вецер
Маці Ветру
Шар
Віхор
Голас Ветру
Голас Калодзежа

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Сялянская хаціна. Узбоч — калодзеж. На страсе — вялізнае Сонца.
За кроснамі — дзяўчына.

Алеся *(тчэ і пяе)*

Ад усходу сонца
Да заходу сонца
Мой чаўнок нястомны
Цягне валаконца.
Тчыце, мае кросны,
Стукачыце, кросны.
Ткуць са мною зімы,
Ткуць са мною вёсны.
Белы і зялёны
Ткуць узор бясконца —
Ад усходу сонца
Да заходу сонца.

З калодзежа даносіцца шум, які паволі пераходзіць у таямнічую мелодыю.

Алеся *(спыняе працу, прыслухоўваецца)*

Што за голас?.. Таямніча
Да сябе кагосьці кліча.

Голас Калодзежа

Я — Калодзеж...
Я — Калодзеж...
Што ка мне не падыходзіш?
Пакаштуй маёй вады —
Будзеш ты здароў заўжды.

Алеся *(заінтрыгавана)*

Дзіва... Хто пяе? А ну,—
Падыду ды зазірну...
*(прыслухоўваецца)*
Так звініць, нібыта бляха...
Ці не злая Барабаха
Заварыла зноў бяду?
*(пасля вагання)*
Усё роўна — падыду!

*(Нерашуча, з аглядкай падаецца да калодзежа. Але яе раптам спыняе гогат Гускі. Алеся хуценька сядае за кросны і тчэ з падкрэсленым стараннем.)*

На двары з'яўляецца Ганка, якая пугай паганяе Гуску.

Ганка

Гэй, пайшла, непаслухмянка!
Бач, вунь статак каля ганка...
*(да Алесі)*
Ну, а ты ўсё тчэш, сястра;
Адпачыць табе пара...
Хіба можна так да ночы?
Папсуеш, дзяўчынка, вочы...

Алеся

Ці забыла — мы ж павінны
Заўтра ўранку здаць даніну.

Ганка

Зноў даніну... колькі ж можна!

Алеся

Гавары — ды асцярожна.
Бо табе напомніць мушу,
Што і сцены маюць вушы...

Ганка

Кінь, сястра, наводзіць страхі.

Алеся

У вядзьмаркі Барабахі
Ёсць такі нязвычны цуд:
Там уключыць — чуе тут...

Ганка

А татуля дзе і Зося?

Алеся *(паказвае ўдалеч)*

Дзе ж яшчэ — на сенакосе!
Знаеш, што да ночы з поля
Не вяртаюцца ніколі.

Г а н к а

Гнуць спіну ўвесь дзень без хлеба...

А л е с я

Згатаваць вячэру трэба.

Г а н к а

Ды ні кропелькі вады
Няма дома.

А л е с я *(азіраецца)*

Сапраўды...
Зараз... толькі вось датку
Ды падамся за раку —
Да крыніцы.

Голас з-за сцэны.

Хто там дома?
Знемагаю... Валіць стома...

Г а н к а

Хто ўзнімае там трывогу?

З о с я *(з-за сцэны)*

Гэй, сюды! На дапамогу!

А л е с я

Гэта — Зося!
Гэта — Зося!
*(Бяжыць.)*
Што такое адбылося?
Тата! Бацька! Ты ці не?..
Абапрыся на мяне.

Дочкі ўводзяць бацьку, які амаль у непрытомнасці.

Г а н к а

Тата! Што з табою, тата?
Не маўчы ты так зацята...

З о с я *(слёзна)*

Ён зусім не чуе...

Г а н к а

Зося,
Што ж усё-ткі адбылося?
Каля воч яго — падцёкі...

З о с я

Аслабеў, відаць, ад спёкі.
Падбягаю — ён ачах.
Прастагнаў: «Кругі ў вачах».
З поля я яго тады
Павяла дамоў...

Б а ц ь к а

Вады!

А л е с я *(у роспачы азіраецца)*

Вінавата я сама —
Ані кропелькі няма...

Г а н к а

Што стаім мы? Нацянькі
Трэба бегчы да ракі...
*(Калодзеж пяе сваю песеньку.)*

А л е с я

Сёстры любыя мае!
Ці вы чулі? Зноў пяе!..
*(Бярэ вядро, рашуча накіроўваецца да калодзежа.)*
Хай сабе пайду ка дну,
А вадзіцы зачарпну!

Г а н к а

Стой! Здурнела!
Што ты робіш?
І сябе і нас угробіш,
Падавайся па ваду
Да ракі хутчэй...

А л е с я

Іду!

Выходзіць з вядром.

Г а н к а

Татку, вам крыху лягчэй?
*(Бацька не адказвае.)*

З о с я *(усхліпвае)*

Не расплюшчвае вачэй...

Г а н к а

Сціхні! Што ты слёзы множыш.
Плачам гору не паможаш!
Хутка ў нас вадзічка будзе —
Асвяжыць татуля грудзі.
Зараз вернецца Алеся —
Паратунак прынясе...

З о с я

Ох, далёка так да ўзлесся!
Бачыш, як яго трасе...
*(Чуецца музыка калодзежа.)*

Г о л а с К а л о д з е ж а

Пакаштуй маёй вады —
Будзеш ты здароў заўжды.

Г а н к а *(аўтаматычна паўтарае)*

«Будзеш ты здароў заўжды...»
*(Раптам усвядоміла сэнс сказанага.)*
Можа, так і сапраўды?
*(Рашуча.)*
Паспрабую!

З о с я

Не! Не! Не!

Г а н к а

Можа, усё-ткі ўдасца мне?

З о с я

Гэта ж — як самазабойства!
Страшна мне...

Г а н к а

А ты не бойся!
Не дрыжы... І лепш у хатку
Пamaжы праводзіць татку.

З о с я

Божа мой! Гарыць, як печ...

Сёстры, падтрымліваючы з абодвух бакоў, праводзяць у хату бацьку.

Г а н к а *(выходзіць з вядром, храбрыцца)*

Страхі ўсе, адгэтуль прэч!
*(Асцярожна падыходзіць да калодзежа, намагаецца зачарпнуць вады.)*
Не выходзіць... як шкада...
Выліваецца вада...
Вось сакрэт...
У чым прычына?

Г о л а с К а л о д з е ж а

Палюбі мяне, дзяўчына,
Прысягні на вернасць мне.
Чуеш ты мяне ці не?

Г а н к а *(палахліва азіраецца)*

Хто гаворыць? Ну і цуд!
Не відаць нікога тут...
*(Асмялеўшы.)*
З кім дамовіцца павінна?

Г о л а с К а л о д з е ж а

Палюбі мяне, дзяўчына,
Паспяшай са мной згадзіцца,
Калі хочаш мне дабра.
А інакш мая вадзіца
Уцячэ з твайго вядра.

Г а н к а *(з выклікам)*

Бач, дае парады мне!
*(Рашуча зачэрпвае вядром ваду, але нічога не атрымліваецца.)*
Зноў... уся вада на дне...
Міма ўсё і ў гэты раз —
Я марную толькі час.
*(Расчаравана адыходзіць ад калодзежа.)*

З о с я *(выбягае з хаты)*
Ганка, татку дрэнна стала!
Ці вадзіцы ты дастала?..

Г а н к а

Не дастала. Не магу...
Я па зёлкі пабягу...

Выходзіць.

З о с я

*(Амаль калоціцца ад страху,*
*зазірае ў калодзеж.)*
Ой, як цёмна там — на дне...
*(Бярэ вядро.)*
Ну, а можа, удасца мне?
*(Набліжаецца да калодзежа.*
*Загучала яго мелодыя —*
*дзяўчына спалохана адхінаецца.)*
Страх... навылет прабірае...
*(Паглядзела на хаціну.)*
Але ж татка памірае.
*(Храбрыцца — рашуча падыходзіць*
*да калодзежа, засланяе адной рукой*
*вочы, апускае вядро.)*

Г о л а с  К а л о д з е ж а

Не хавай, дзяўчына, вочы,
Пакажы свой твар дзявочы.
Дам табе вады вядзерца —
Мне ж аддай руку і сэрца.

З о с я

Ой, татуля дарагі!
*(У жаху адхіснулася, вядро выпала*
*з рук, пакацілася з бразгатам.)*
У вачах маіх — кругі...

Сцэна нейкі час пустуе. Потым зверху чуецца свіст, які ўсё ўзмацняецца. На своеасаблівай мятле (спераду — прапелерчык, ззаду — хвост), як на варталёце, прызямляецца Б а р а б а х а. Яна ў яркім зіхотным плацці, на якім намаляваны чорныя павукі.

Барабаха *(пераможна азіраецца)*
Хто пабачыць Барабаху,
Сам паваліцца на плаху!
*(Робіць некалькі танцавальных рухаў, прыстукваючы чароўным кійком.)*
Я паддаць умею перцу —
Аж заскачуць высь і дол!
*(Раптам спынілася — хапаецца за грудзі.)*
Ой! Ізноў схапіла сэрца!
Ой! Танцуе ўсё наўкол!
*(Дастае з-за пазухі зёлкі, нюхае.)*
А цяпер — пара за справу!..
Стукну ўлева, стукну ўправа...
Тры разы кіёчкам — лясь!
*(Стукае па калодзежы.)*
Хлоп, з калодзежа вылазь!

Чуецца шум вады, з'яўляецца Качар.

*(З'една.)*
Як табе — адказвай мне —
У калодзежы на дне?
*(Качар не адказвае.)*
Ці не вернешся на службу?
У цудоўны замак мой?
Грошы будзеш мець і дружбу
З Барабахаю самой...
Так, са мной... Але, але!
Будзем лётаць на мятле...
«Так» ці «не»? Скажы хоць слова...
Гэта шанс апошні...
*(Рэзка.)* Ну?

Качар
Не вярнуся.

Барабаха *(лагодна)*
Я гатова
Дараваць тваю віну...

Качар *(горача)*
Мне — віну? Але якую?!

Барабаха
Фі! Ды самую цяжкую!

Ці забыў ты словы тыя,
Што казаў мне ва двары?
Хто аздобы залатыя
Меў рабіць мне? Гавары!
Ці не я цябе наймала
І прывезла з кірмаша
У свой замак?..

Качар

Вельмі мала
Пра цябе я знаў спярша...
Дрэнна мне тады было —
Спакусіўся як назло...
Ды з галечы — не з раскошы...

Барабаха

*(з прытворнай расчуленасцю)*
О вядома, ты — харошы!
Я ж была табе як маці!..

Качар

Не сказала мне тады,
Скуль бярэш свае багацці...
А яны — з людской бяды!

Барабаха *(успыхнула)*

Фі — ты!

Качар

Толькі без пагрозы.

Барабаха

Лепш бы ты зусім заціх.

Качар

Кроў і слёзы... Кроў і слёзы
На каштоўнасцях тваіх!
Дык якое маеш права!..

Барабаха *(перабівае)*

Дурань, што табе за справа?
Скуль, і дзе, і што бяру?!

Качар маўчыць.

Ну, каму я гавару?
Ладзіць ці сварыцца будзем?
*(Убок.)*
Фі — ты! Чорт цябе вазьмі...

Качар

Не табе служыць, а людзям
Я хачу... Заўжды — з людзьмі...

Барабаха

Балбатня пустая — людзі:
Кожны да сябе грабе!
Хіба хто падставіць грудзі,
Калі моташна табе?
Пра твае пакуты знаюць,
А калодзеж абмінаюць.
Дзе спагада іх людская?
Памудрэць табе пара...
Хіба знойдзецца такая,
Што палюбіць Качара?..
*(Паказвае на хату.)*
Поруч, вунь яны, дзяўчаты —
Што для іх твая бяда?..
*(З чаканнем глядзіць.)*
Ну, а ты сядзі, закляты,
Тут, дзе холад і вада...
*(Рашуча.)*
Гавару ў апошні раз!
Думай жа! Яшчэ ёсць час...

Качар *(пасля паўзы)*

Лепш навек застацца птушкай,
Чым тваім рабом і служкай!
Я загінуў бы хутчэй...

Барабаха *(нецярпліва перабіваючы, тройчы махае кійком)*
Надакучыў. Згінь з вачэй!

Качар знікае.

Закружу! Перакручу!
Будзе так, як я хачу!
Па маёй вядзьмарскай волі!

*(Грозіць пальцам калодзежу.)*
Запішы на ўпартым лбе,
Што цяпер ніхто ніколі
Больш не выручыць цябе.

Заводзіць маторчык сваёй мятлы-верталёта, адлятае.
Убягае Алеся з вядром вады. З акна выглядае Зося.

З о с я

Ой, хутчэй! Хутчэй, сястра!

А л е с я ўваходзіць у дом.

Дай глынуць яму з вядра...

Праз нейкі час з дома выходзіць паніклая А л е с я, за ёю — З о с я.

*(Да Алесі.)*
Ты куды?

А л е с я *(паказвае на калодзеж)*
Пайду... туды...
Ён не п'е рачной вады...
Разумееш, што тут трэба?

З о с я

Не гнявi, сястрычка, неба,
Не хадзі: ўсё дарма —
Спрабавала я сама...
Страх душу загнаў у пяткі...

А л е с я

Лепш вяртайся ты да таткі.

З о с я

Там нячысты дух на дне.

А л е с я

Ты не бойся за мяне.

З о с я неахвотна ідзе ў хату.
Алеся набліжаецца да калодзежа, спрабуе зачарпнуць вады.

Чуеш ты, напітак срэбны?
Нам дамовіцца пара!..

Ты для хворага патрэбны —
Не ўцякай з майго вядра...

Голас Калодзежа

Дам табе вады вядзерца —
Мне ж аддай руку і сэрца!

Алеся

Калі ты дасі вады,
Буду ўдзячна я заўжды...
*(З радасным здзіўленнем*
*зачарпнула ваду.)*
Бач, здаецца, і набрала?..

Голас Калодзежа

Мне адной падзякі мала.
Трэба мне тваё каханне.
Дай хутчэй мне абяцанне,
Паспяшай са мной згадзіцца,
Калі хочаш мне дабра.
А інакш мая вадзіца
Уцячэ з твайго вядра...

Алеся *(вагаецца)*

Што рабіць мне? Хто парадзіць?
Не магу з сабою зладзіць...

Голас Калодзежа

Лёд магу расчуліць,
Камень улагоджу,
А з табой, дзяўчына,
Мовы не знаходжу.

Алеся *(тонам спакойнай ахвярнасці)*

Што ж, я згодна, так і быць...
Невідзімку палюбіць...

Голас Калодзежа

Дзе ні буду, кім ні буду,
Пойдзеш ты са мной усюды?
Пакляніся! Дай мне слова!

Алеся *(пасля паўзы)*

Я клянуся... Я гатова!

Голас Калодзежа

І яшчэ — запомні гэта —
Ты клянешся па сакрэту.
Ані сёстрам, ані дому,
Ні сябрам — нідзе нікому...

Алеся

Не, не выдам я гаворкі.

Голас Калодзежа

А калі заззяюць зоркі,
Зноў прыходзь. Абавязкова.

Алеся

Добра. Я стрымаю слова.

Ідзе ў хату з поўным вядром.

Голас Калодзежа

Словам абяцання
Вернай будзь давеку,
Верне мне каханне
Воблік чалавека.

На ўскраі двара з'яўляецца Ганка з зёлкамі, слухае голас калодзежа.

Ганка *(сама сабе)*

Абяцанне... Абяцанка...
Гм... Цікава...

Калодзеж змаўкае, з хаты выходзіць Зося.

Зося

Ганка! Ганка!
Дзе ты гэтак доўга ходзіш?

Ганка *(механічна)*

Ды па зёлкі... да сяброў...

Зося

Даў сваёй вады калодзеж,
Бацька наш ужо здароў.
Стаў, зірнуў у паднябессе...

Г а н к а *(шматзначна)*

Зачарпнула ўсё ж Алеся
У калодзежы вады?

З о с я

Так! І нас усіх з бяды
Мігам вывела, павер...
Але ж дзе яна цяпер?

Зося паказвае на хатку, куды яны абедзве накіроўваюцца.
На мятле прызямляецца Б а р а б а х а, нейкі час шнырыць, падкрадваецца да хаткі, прыкладвае вуха да дзвярэй, прыслухоўваецца. Раптам пачуўся стук крокаў за дзвярыма — Б а р а б а х а адхінулася, хаваецца. Ступаючы на дыбках, выходзіць А л е с я.

А л е с я *(азіраецца)*

Цішыня. Наўкол нікога...
*(Глядзіць, як успыхваюць зоркі.)*
Зоркі!.. Колькі зорак многа!..
Час падацца да вады...

Г а н к а *(высоўвае галаву з дзвярэй)*

Стой, Алеся! Ты куды?
Што ад страху жмурыш вочы?
Як жа так? Адна — уночы?

А л е с я *(з пачуццём)*

Не пытайся лепш, сястра,
Калі хочаш мне дабра...
*(У яе ў руках клунак з адзеннем.)*

Г а н к а

Ах, дык вось як!.. А ці мала
Я сабой ахвяравала,
Калі ты была ў бядзе?
А твая удзячнасць дзе?

Алеся маўчыць.

*(З лагодным тонам.)*
Скажаш мне, якая справа?
*(Прачула.)*
Памагчы табе хачу!..
*(Няўпэўнена.)*

Я на гэта маю права...
*(Раптам ваяўніча.)*
Дык запомні — не пушчу!..

А л е с я

Ты заўжды мне памагала,
Але зараз — я пайду...

Г а н к а *(лагодна)*

Што, прызнайся, абяцала
За гаючую ваду?
Што табе казаў калодзеж?

А л е с я *(пасля ваганя)*

Мне пытаннямі пашкодзіш...

Г а н к а

Я табе пашкоджу? Што ты!..

А л е с я

Шчыра дзякуй за турботы!..

Паўза.

І вяртайся ў дом цяпер —
Гэтак будзе лепш, павер...

Г а н к а *(пакрыўджана)*

Не патрэбна я... Вядома...

А л е с я

І яшчэ прашу я — з дому
Не выходзь... Інакш загубіш...
Ты ж мяне, сястрычка, любіш?

Г а н к а *(згаджаючыся)*

Што ж, бывай, сястра мая —
Замінаць не буду я.

Ганка падыходзіць да нацягнутай вяроўкі, ледзь не натыкаючыся на Барабаху, тая адскоквае, хаваецца.
Ганка развешвае сушыць адзенне — спадніцу, кофтачку, хусцінку, Барабаха паглядвае за ёю.

А л е с я *(падыходзіць да калодзежа)*

Добры вечар, мой калодзеж!

Маўчанне.

Гэй, чароўная вада,
Што на стрэчу не выходзіш?
Ці табе мяне шкада?

К а ч а р
*(з'яўляецца на сцэнцы калодзежа)*

Помніш, што мне абяцала?

А л е с я
Слова я сваё стрымала.

К а ч а р
Але ж, бач, я птах, не хлопец.

А л е с я
Што дзеля цябе зрабіць?

К а ч а р

Ці ў цябе цярпення хопіць,
Каб заклятага любіць?
*(Патэтычна.)*
Нас пільнуе вораг грозны,
Нас чакаюць шрот і град.

Паўза.

І пакуль яшчэ не позна,
Можаш слова ўзяць назад.

А л е с я *(драматычна)*

Хто ты, тайны валадар?

К а ч а р

Быў я майстар — гаспадар,
Ды ў мяне забралі твар...

А л е с я

Божа! Млосна мне ад жаху...
Хто? За што?..

К а ч а р

Ды Барабаха...
Не хацеў служыць вядзьмарцы
У махлярскай гаспадарцы.

Бо страшней за ўсе хваробы
Абдзіраць сваіх сяброў...
Ці ж я мог каваць аздобы,
На якіх — людская кроў?
Прынімаць не меў я сілы
Рабаванага дабра...
І мяне ператварыла
З чалавека ў качара...

А л е с я *(з абурэннем)*

Ах, нягодніца старая!
Божа, сэрца замірае...
Як жа можна! Як жа можна!

К а ч а р

Ціха! Трэба асцярожна...

А л е с я

Боль і гнеў душу скрабе...
Як мне выручыць цябе?
*(Наіўна.)*
Гэта ж трэба — твар украсці!..
*(З пагрозай.)*
Пачакай ты, сатана!..

К а ч а р *(спакойна)*

Памагчы майму няшчасцю
Можаш толькі ты адна...

А л е с я

Што ж рабіць мне?

К а ч а р

Што рабіць?
Вернай слову быць — любіць!
Мне любоў — як чары лекаў.
Паказацца — не ілгу —
У абліччы чалавека
Я адной табе магу...
І яшчэ прашу, дарэчы,
Як у роднае сястры...
Тайну нашае сустрэчы
Ты захоўвай да пары...

Паўза.

А калі ад угавору
Ты адступіш — будзе гора!
За тры моры крылы-страхі
Панясуць мяне тады...
У палацы Барабахі
Застануся назаўжды.

А л е с я *(з запалам)*

Не кажы так — веру цуду!
Мы парвём сіло маны.
Я тваёй сяброўкай буду —
Не пакіну да труны...
Назаўсёды злучым сцежкі!

К а ч а р *(разважліва)*

Гэта чуць я вельмі рад...
А не страшна, што насмешкі
Будуць біць цябе, як град?..
Пагалоскі, чуткі, плёткі
Паліюцца, як з вядра!
«Ха! Здурнела дзеўка ўсё-ткі!
Пакахала Качара...»

А л е с я

Не баюся я нічога!
За цябе адна трывога...
І душа ў адной журбе,
Як закляцце зняць з цябе?..

Шуміць вада — і перад дзяўчынай з'яўляецца хлопец у блакітным адзенні.

Ці не здань перад вачыма?

М а й с т а р

Не палохайся, дзяўчына!
Як завуць цябе?

А л е с я

Алеся.

М а й с т а р

Не шкадуеш, што прыйшла?

Алеся

Мне здаецца, нібы ў лесе
Сцежку я цяпер знайшла...
На святло адкрыла дзверы.

Майстар

Я табе, Алеся, веру,
Выдаеш вачыма ты
Сэрца дзіўнай дабраты...
Веру, нашы ўсе бядоты
Прамінуць, нібыта ў сне,
Дотыкам сваёй пяшчоты
Вернеш ты свабоду мне...
Ты мяне пазбавіш згубы —
Уваскрэсне той, хто знік...

Алеся

Паглядзі на неба, любы!..
Як нам свеціць маладзік...

Майстар *(рэчытатывам)*

Цішыня якая...
З нашага двара
Маладзік знікае — ну, і мне пара.

Алеся *(трывожна)*

Адыходзіш?

Майстар

Так, пара.
Бач, святлее ўжо зара.
Трэба знікнуць мне да ранку...

Алеся *(летуценна)*

Мне ад сонечных варот
Мець бы ключык — і світанку
Не ўпусціла б я сто год!

Тым часам адчыняюцца дзверы хаткі, адна за адной крадком выходзяць Зося і Ганка, штосьці раптам хруснула ў іх пад нагамі.

Майстар *(заўважыў)*

Я загінуў!

Алеся
Зося? Ганка?

Ганка
Вось яшчэ неспадзяванка!

Майстар
О, нашто я чары скінуў!
Я загінуў... Я загінуў...

Алеся *(у роспачы)*
Я ж прасіла, я ж прасіла...
Не дайшла мальба мая.

Ганка і Зося
*(апраўдваючыся)*
Мы ўсядзець не мелі сілы.

Зося
Непакоілася я...

Алеся
Што ты, Ганка, нарабіла...

Майстар
Загубіла. Загубіла.

Ганка
Я ж цябе, сястра, вучыла...

Алеся
І прасіла ж я дабром...

Майстар
Усяго тры дні, дзяўчына,
Меўся быць я качаром...
А цяпер мне — гора, гора,
Мушу зноў ляцець за мора.
Майстар зноў становіцца Качаром.

Зося
Што я бачу, што я бачу?
Божа мой, прытомнасць трачу!
Ганка вядзе Зосю ў дом.

А л е с я

*(з пачуццём да Качара)*
Птах мой любы, птах мой мілы,
Як цябе мне ўратаваць?

К а ч а р *(безнадзейна)*

Не людскія гэта сілы...
Больш мяне не раскаваць.

А л е с я

Мілы, я на ўсё гатова!
Што рабіць? Шапні хоць слова...

К а ч а р

О, такіх ахвяр вялікіх
Не знясе ніхто ў жыцці!
У жалезных чаравіках
Трэба свет увесь прайсці...
Ну, і ў гэты шлях даўжэзны
Трэба ўзяць кіёк жалезны.
З ім лягчэй прагнаць знямогу.
Будзеш стукаць ім бясконца,
Каб паказвалі дарогу
Вецер, месячык і сонца...
Так, адольваючы страхі,
Да палаца Барабахі
Дабярэшся — і мяне
Голас твой жывы гукне...
Я пачую — і тады
Скіну чары назаўжды...

А л е с я

Я знайду цябе, мой мілы!

К а ч а р *(здаля)*

Тваім словам веру я!

А л е с я

У цяжкой дарозе сілы
Дасць мне песенька твая...

Гучыць мелодыя калодзежа.

К а ч а р *(з-за сцэны)*

Гэту песеньку не згубіш,
Калі любіш...
Калі любіш...

Алеся *(засланіла далонямі вочы)*

Як жа гэтак? Таямніцу
Захаваць я не змагла?..

Барабаха *(з'яўляецца)*

Асляпіў, нібы дурніцу...
У вачах тваіх імгла...

Алеся

А табе чаго тут трэба?
Хто ты і адкуль?

Барабаха

Ды з неба...
Ха-ха-ха! Але, але!
Прыляцела на мятле....
Што? Не знаеш Барабаху?
Дык на носе засячы —
Прада мной дрыжаць ад страху
Каралі і сілачы...
Пнуцца ў норы, як краты...
Як жа ты — мурашка — ты
Кінуць выклік мне пасмела?
Ха! Зусім дзяўчо здурнела...
*(Заўважыла, што пагрозы не дзейнічаюць.)*
На цябе мне чмыхнуць варта —
Разляцішся ў пух і прах!
Што глядзіш ты так упарта?

Алеся *(са спакойнай упэўненасцю)*

Ты дарма наводзіш страх.
Можаш чмыхаць, можаш дзьмухаць —
Я ж не маю часу слухаць.
*(Алеся рашуча ідзе.)*

Барабаха

Неразумнае дзіцятка!
Пачакай... Пастой... Вар'ятка!

Алеся пайшла.

Вам усім, непаслухмяным,
Хто служыць не хоча мне,
Свет захутаю туманам —
Хай вас цемра паглыне.

Цямнее.

Натапыру ў змроку рожкі,
Пераблытаю дарожкі.
Сцежкі ўсе перакручу.
Будзе так, як я хачу.
Па маіх загадах тужаць,
Верай мне і праўдай служаць
Месяц *(паказваецца і знікае месяц)*,
Сонца *(паказваецца і знікае сонца)*
І Віхор!

Зашумеў і сціх Вецер.

Ну, вязі мяне, матор!

Узлятае.

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Музыка цяжкой дарогі. Хістаючыся і спатыкаючыся ўваходзіць на авансцэну Алеся. Ледзь ступае ў гулкіх жалезных чаравіках, абапіраючыся на жалезны кіёк.

Алеся *(перадыхнуўшы)*

Ох, як цяжка... Лес даўжэзны...
Хіліць долу кій жалезны.
Як адужаць шлях вялікі?
Колькі дзён яшчэ міне?
На нагах не чаравікі —
А каменні у мяне...
Цемра — там... І цемра — тут...
О, які няўтульны кут!
*(Пяе.)*

Маладзік двухрогі,
Не хавай дарогі.
Засвяці хутчэй
Для маіх вачэй.
Мне ў начной імжы
Сцежку пакажы,
Уратуй ад згубы,
Дзе цяпер мой любы!

Святлее. Узнікае домік, дах якога свеціцца срэбным бляскам. Акно і дзверы зачынены. У акне выразы ў выглядзе двухрогага маладзіка, праз якія сочыцца срэбнае святло.

Хто тут дрэмле ў цішыні?
Ці не Месяц? Адчыні!
*(Асцярожна стукае.)*
Чуеш? Гэта я, Алеся!
Столькі дзён блукаю ў лесе...

Лёгка штурхнула рукой дзверы — яны адчыніліся. Відаць нутро доміка: сівая жанчына, валасы якой свецяцца срэбным святлом, у дрымоце схілілася над кроснамі, на якіх срэбная тканіна.

Спіць... Змарылася жанчына...
*(Падыходзіць да кроснаў, кратае тканіну.)*
Пэўна ткала цэлы дзень...
*(Гладзіць тканіну.)*
Божа, як зіхціць тканіна!..
Быццам месячны прамень...

М а ц і  М е с я ц а *(абудзілася)*

Ой, заснула... Гэта ж вочы
Самі зліпліся...
*(Выцірае вочы.)* Імгла...
*(Хутка тчэ.)*
То ж не хопіць сыну ўночы
Серабрыстага святла...
Застанецца без кашулі...
Ці паспею? Ці змагу?

А л е с я *(дзелавітым тонам)*

Не хвалюйцеся, матуля,
Я вам зараз памагу.

Маці ўступае Алесі месца за кроснамі, дзяўчына тчэ.

Мацi Месяца

Сапраўды працуеш спраўна.
Малайчына. Міла. Слаўна.
Ах, як бегае рука!
*(Раптам спахапілася.)*
Але, стой! Чакай, дачка!
Ці мне сніцца?
Што за цуд?
Ты адкуль, уласна, тут?
Сюды Сонца не дасвеціць,
Не дамчыцца вольны Вецер,
Нават пташка трапяткая
Не праб'ецца з-за мяжы...

Алеся

Я каханага шукаю.

Мацi Месяца

Хто ж каханы твой, скажы?

Алеся

Гора з ім, з маім каханым.
Ён за морам-акіянам.
Да яго па свеце шляху
Я шукаю столькі дзён...
Злая цётка Барабаха
Узяла яго ў палон.

Мацi Месяца *(ашаломлена)*

Барабаха?.. Калі так,
Дык каханы твой — бядак.
У нячыстай дух круты...
Лепш дамоў вяртайся ты.
Так! Дадому лепш ідзі,
Гнеў вядзьмарчын не будзі...
Чараў з любага не скінеш
І сама дарма загінеш.

Алеся

Не, дамоў я не вярнуся,
Паважаная матуся.
Ці загіну, ці яго
Я ўратую...

Маці Месяца

Ого-го!..
На сябе бярэш ты многа.
Што ты кеміш у жыцці?

Алеся

Лепш скажыце, як дарогу
Мне да Месяца знайсці?

Маці Месяца

А нашто табе мой сын?

Алеся

Можа толькі ён адзін
Паказаць мне шлях да Сонца.
Я прашу цябе бясконца...

Маці Месяца

Ладна. Я пагавару,
Толькі б гэта ўсё к дабру...
Бач, яшчэ нябёсы зоркі
Не ўранілі на пагоркі.
Шмат яшчэ бадзяцца сыну.
Дык ці зможаш, гавары,
Гэту срэбную тканіну
Ты закончыць на зары?

Алеся *(сцвярджальна ківае галавой)*

Мой удзячны вам паклон!..

Маці Месяца

Бо раскідваць любіць ён
Свае срэбраныя сцежкі
На палеткі і на ўзмежкі...

Алеся працягвае ткаць.

Зіхатлівы промень кіне
То на луг, то на ваду...

Алеся

Па адной такой сцяжыне
Я да Сонейка дайду!..
*(Тчэ і пяе.)*

Тчыце, мае кросны,
Стукачыце, кросны,
Ткуць са мною зімы,
Ткуць са мною вёсны...
Вось і ўсё. Канец работы.

Маці Месяца

Шчыра дзякуй за турботы.

Алеся

Што яшчэ, матуля, трэба?

Маці Месяца

Днее. Сходзяць зоркі з неба,
Хутка сын мой будзе тут.
Ты схавайся ў гэты кут...
*(Падміргнула.)*

Алеся

О, я ў здань ператваруся!

Алеся хаваецца. Маці здымае з кросен срэбнае ззянне. Цямнее. Уваходзіць Месяц. Гэта юнак, на галаве ў выглядзе маладзіка свеціцца ўбор.

Месяц

Добрай раніцы, матуся!

Маці

Добрай раніцы, сыночку.
Як, расказвай, бавіў ночку?

Месяц

Сто маланак і грамоў!
Ледзь дабраўся я дамоў!
Хмары леглі без канца,
Я між іх даваў нырца.
Так куляўся ў захапленні,
Што абдзёр сабе калені...
Абскакаў усе падворкі...

Маці *(прыкладвае лекі да кален сына)*

Што шукаў ты на зямлі?

Запрасіў бы ў сполку зоркі,
Можа б, і дапамаглі...

М е с я ц *(гаворыць, войкаючы ад лекаў)*

Што шукаў? Ой, ой! Нічога.
Ды дзяўчыну... Ой — пячэ!
Я знайду яе яшчэ.

М а ц і

Ах, дык вось у чым прычына!
А нашто табе дзяўчына?

М е с я ц

Эт, ды так сабе...

М а ц і

А можа,
Ты раскажаш мне ўсур'ёз?
Аж да ранку ў бездарожжа
Ты вадзіў яе за нос.

М е с я ц

Так... І тут няма сакрэту...

М а ц і

А не думаў ты, хлапчук,
Колькі праз забаву гэту
У кагосьці будзе мук?
Ну, вядома! Дзе там! Не,
Не шануеш ты мяне!..

М е с я ц

Сто маланак і грамоў!
Не вядзі такіх размоў,
Я цябе не паважаю.
Крыўдна гэта чуць да слёз —
Кажаш так, нібы чужая...
Паглядзі, што я прынёс?
*(Паказвае руку,
у якой нешта серабрыцца.)*

М а ц і

Серабрыцца як! О, божа!
Зорны пыл... Такі прыгожы...

Месяц

Капялюшык свой аздобіш
Ды яшчэ карункі зробіш,
Каб свяціліся адзнакай...

Маці *(расчулена)*

Дзякуй, сыне, шчыра дзякуй...
Добра ты... Але ж гарэза.
*(Ласкава грозіць пальцам.)*

Месяц

Што ты, мама! Я — з жалеза.

Маці

Лёгка так цябе падбіць
Іншым шкоды нарабіць.
Знаю, гэта Барабаха
Хоча збіць цябе са шляху.
Толькі ёй не па плячы.

Месяц *(пяшчотна)*

Годзе, мама, не бурчы...

Алеся чхнула.

Гэта хто? Тут недзе — блізка...
*(Шукае.)*

Маці

Ат, ды вецер! Так, вятрыска...

Месяц

Чхнуў вятрыска? Не кажы,
Хтосьці ў доме ў нас чужы.

Маці

Ты не злуйся толькі...

Месяц

Мала,
Што мяне ўсю ноч матала,
Мае нейкі госць намер
Сапсаваць настрой цяпер...
Чуеш? Гэй, вылазь без слоў

Ды каціся стрымгалоў!..
Хто б ні быў, якога чыну...

Маці *(перапыняе)*

Ці б ты змог прагнаць дзяўчыну,
Што тваёй матулі — мне
Памагала?

Месяц

Вядома, не!

Маці

Я прыстала ў працы, сынку,
Ды заснула на хвілінку...
А яна сама з ахвотай
Села ткаць — ганяць чаўнок...
Паглядзі — такой работай
Залюбуешся, сынок.
Лепш, чым я — няма размоў.

Месяц

Сто маланак і грамоў!

Маці

Заглядзеўся? А, прыгожа!

Месяц

Лепш, чым ты, ніхто не можа.

Маці

Не палотны — самацветы...

Месяц

Пачастуй яе за гэта!
*(Разглядае.)*

Маці

Для твайго, сынок, убрання
Незвычайная краса...

Месяц *(раптам)*

Стой! Здаецца, што на ззянне
Легла кроплямі раса...

Мацi

Не раса, а слёзы гэта,
Крыўды горкае прыкмета.

Месяц

Сто грамоў i сто маланак!
Пакажы мне тых паганак,
Што пакрыўдзiлi яе!
*(Гукае.)*
Дзе вы, ворагi мае?
На зямлi цi ў паднябессi?

Мацi

Гэй, выходзь хутчэй, Алеся!

Алеся выходзiць.

Тут я!

Месяц *(услухоўваецца, як грукае Алеся чаравiкамi)*

Ноч прыгод вялiкiх!
Ах, дык гэта, значыць, ты —
У жалезных чаравiках
Уцякала ў змрок густы?..
*(Сам сабе.)*
У, змарыўся я дарэшты...
*(Зноў да Алесi.)*
Але зараз не ўцячэш ты!..
Да блуканняў будзь гатова!

Мацi

Вось як ты трымаеш слова...
Выганяеш прэч, выходзiць,
Чалавека, што ў бядзе?

Месяц

Добра... Ёй не буду шкодзiць,
Але хай сама iдзе...

Мацi

Дзiўная ў цябе душа!
Лепш бы выслухаў спярша...
Яе хлопца Барабаха
Чарамi змянiла ў птаха.

М е с я ц

Значыць, тое ўсё мана,
Што казала мне яна?..

М а ц і

Колькі раз даваў ты маху,
Калі слухаў Барабаху,
На яе кручок ізноў
Клюнуў ты...

М е с я ц

О, сто грамоў!
Не, цяпер у бок ёй трасца,
Абкруціць мяне не ўдасца!

М а ц і

Ты ж усё на свеце можаш
І дзяўчыне дапаможаш.

М е с я ц

Але ж я адно ўначы
Ёй магу дапамагчы.
*(Глядзіць у акно.)*
Бач, світае, як на грэх...
*(Раптам да Алесі.)*
Вось што... На! Трымай арэх...
Не губляй яго нідзе —
Ён да Сонца давядзе.
Ну, а ў чорную гадзіну
Кінь арэшак на сцяжыну.
*(Таямніча-павучальна.)*
Не забудзь маёй навукі —
Будзе шмат спакус наўкол.
Не давай нікому ў рукі —
Кінь сама арэх на дол.
І бяда цябе пакіне...

М а ц і

Добры ты і чулы, сыне.
*(Ласкава.)*
Хоць на выгляд часам строгі...

А л е с я

Дзякуй, месячык двухрогі,

За твой дар. І вам таксама
Шчыра дзякуй... Дзякуй, мама.
Вашай шчодрай дабраты
Не забуду...

Мацi

Ой, ды ты
Ледзь стаіш — хістае стома.
Адпачні з гадзіну дома —
Набярыся крышку сілы...

Алеся

Дзякуй, матухна мая.
Ды калі ў бядзе мой мілы,
Ці ж магу марудзіць я?

Месяц

Што ж, шчаслівае дарогі.

Алеся

Мяне злечыць ад знямогі
Твой арэшак, маладзік,
Дзякуй, добры чараўнік!

Месяц

Выбачай, што быў я грубым...
Ліхам-злом не памінай.

Мацi

І назад вяртайся з любым.

Алеся

Дзякуй вам!

Месяц

Бывай!

Мацi

Бывай!

Закрываецца заслона. Алеся праходзіць па авансцэне.
Як толькі яна знікае, з'яўляецца на мятле Барабаха.

Барабаха

Прайдзісветка! Праслізнула,—
Ашукала... Падманула...

*(Кусае пальцы.)*
Выгіналася лазою.
Слалася, нібы мятла...
Хто б падумаць мог? Слязою
Гэтых дурняў праняла.
*(Грозна.)*
Ды нічога! Больш не ўдасца,
Больш яна не прашмыгне.
*(Хітравата падміргнула.)*
Знаю я, куды падкрасца...
Мой матор, вязі мяне!

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

З-за суперзаслоны прасвечвае залатое ззянне. Даносіцца з-за сцэны песня Алесі. «Словам абяцання вернай будзь давеку...» Уваходзіць Алеся — цяжка трукаюць яе жалезныя чаравікі, стукае жалезны кій, на які яна стомлена абапіраецца. Засланяе вочы ад ззяння.

Алеся

Божа мой, як слепіць вочы!
О мой горкі лёс дзявочы...
Груз нясцерпны, груз вялікі
Мулка цісне мне на плечы.
Паляць, паляць чаравікі,
Быццам вогненныя печы.
*(Гучыць песня-просьба Алесі.)*
Будзь ласкавым, Сонца,
Не пячы бясконца!
Не вядзі да згубы —
Пакажы, дзе любы!

Узнімаецца заслона — у сонечным бляску паўстае хатка.
Дах яе залаты. У аканіцах шчыліны ў выглядзе Сонца. З іх сочыцца залатое святло.

Што за домік — проста цуд!
Хто ж жыве, цікава, тут?
*(Жалезным кійком стукае ў дзверы.)*

Адчыні гасціна,
Добрая хаціна!
Ці не ўсе паснулі?

Адчыняецца акно, выглядае Маці Сонца.

Добры дзень, матуля!

Маці Сонца *(нездаволена)*

Не было яшчэ бяды...
Як ты трапіла сюды?
Сюды Месяц не дасвеціць,
Не дамчыцца вольны Вецер...
Чую сэрцам я трывогу...

Алеся

Паказаў сюды дарогу
Мне срабрысты маладзік,
Сонца яснага двайнік...
Цешу тым сябе, што, можа,
Мне і Сонца дапаможа...

Маці Сонца *(бурчліва)*

Ах, так, так... табе вядома...
Забываючы на стому,
Грэе Сонца ўсіх людзей.

Алеся

Як дзівосны чарадзей,—
Як дружбак жыцця зямнога.

Маці Сонца

Але ж гэта ўжо замнога.
Ачмурэла галава —
Зараз вернецца з жніва.
Сын мой доўгі дзень у поце
Там згарае на рабоце,
Памагае жнеям жаць...
Гэта трэба паважаць!
Хто такая, што трывожыш
Сына светлага майго.
*(Катэгарычна.)*
Выбачай!
Як-небудзь зможаш
Абысціся без яго?!

Лепш ідзі адгэтуль, дзетка...

Алеся

Нават лісцік, нават кветка,
Нават зерне ў баразёнцы
Не разгорнецца без сонца...
Веру я, што і мяне
Ласкаю не абміне.

Маці Сонца

Дык, па-твойму, мне, выходзіць,
Свайму сыну трэба шкодзіць?
Сапсаваць яму спачын?
Ты, маўляў, працуй і ўночы,
Не заплюшчваючы вочы...
Зразумей ты — ён мой сын!
*(Спахапілася.)*
Ой, работа ж!
*(Пачынае ткаць.)*
Ну, ідзі!
Час, дзяўчына, не крадзі...
Мушу выткаць я заранку,
Калі грукне сын на ганку,
Каб развеяла смугу...

Алеся

Я даткаць вам памагу.

Маці Сонца

Бач ты, спрытная якая!
Толькі праца тут цяжкая...
Паляць промні, нібы джальцы,
Апячэш, дзяўчына, пальцы...

Алеся

Муку я сцярплю любую —
Дык дазвольце, паспрабую.

Маці адчыняе шырэй дзверы, высвятляюцца кросны з залатой тканінай. Алеся падыходзіць, адчуваецца, як ёй балюча.
Але яна, адольваючы боль, пачынае ткаць. Маці прадзе нітку.

Маці Сонца

Тчэш выдатна і... цярпліва.
Проста дзіва! Проста дзіва!

**А л е с я** *(пяе)*

Хоць не ўзяць у пальцы нітку,
Пражу вогненную вытку.
Залатая гэта пража
Шлях да мілага пакажа...

**М а ц і  С о н ц а**

Утрывала... Малайчына!
Вельмі мужная дзяўчына.
Дужы гэтак невымерна
Толькі той, хто любіць верна...
Папрашу свайго я сына,
Каб памог табе, дзяўчына.

**А л е с я**

Дзякуй, маці, вам за слова...
*(Паказвае на пражу.)*
Вось... Заранка ўжо гатова.

**М а ц і  С о н ц а**

*(глядзіць удалеч з-пад рукі)*
Зарумянілася неба...
Хутка сын мой будзе тут.
І табе схавацца трэба.
Ну... Залазь у гэты кут.

Алеся хаваецца. М а ц і выходзіць з хаткі, узіраецца ўдалеч, якая святлее, чакае прыходу сына. У гэты час з другога боку падкрадваецца Б а р а б а х а, падбіраецца да кросен.

**Б а р а б а х а** *(з'едліва)*

Слаўна ткала ты, паненка,
Вось і будзе мне сукенка.
*(Хапнула рукой за тканіну,— імгненна назад ірванулася, войкнула ад болю.)*
Вой, вой, вой! Нясцерпны боль!
Вой! Нібы на рану — соль...
Так пячэ...
*(Сцяўжы зубы, змоўкла.)*
Ды што я гэта?
Не заўважыла б кабета...
*(Пагрозна.)*
Каб цябе скруціла трасца!

Ну, далей табе не ўдасца
Барабаху абысці —
Нізашто! Нідзе ў жыцці!

Сцяўшы зубы, змаўкае. Праз акно выскоквае. Са сваёй схованкі выходзіць А л е с я.

А л е с я

Бабка, ты?
*(Азірае пакой — нікога няма.)*
Нібыта ў сне...
Ці здалося гэта мне?

Зноў хаваецца. Святлее. З'яўляецца ю н а к у залатым убранні, вочы ў яго свецяцца дабрадушна, у руках каласы, як промні.

С о н ц а

Мой паклон сыноўні, матка.

М а ц і С о н ц а

Добры дзень, маё дзіцятка!
Як настрой, мой яснатвары?

С о н ц а

Даў я ўсім, папраўдзе, жару.
Колькі жыў, яшчэ не помню,
Мама, гэткага жніва.
Ух, і грэлі ж мае промні —
Ажно высахла трава...

М а ц і С о н ц а

Ты змарыўся, сынку?..

С о н ц а

Глеба
Урадзіла. Будзе хлеба!..
Мігацяць сярпы ўваччу...
*(Зморана хістаючыся,*
*ідзе ў кут, дзе Алеся.)*
Адпачыць цяпер хачу...
Мама, гэта што такое?
Хтосьці ў нас чужы ў пакоі...
Знаеш — ледзь заплюшчыў вочы —
І канец кароткай ночы...
Выбачай, смыліць плячо...

Мацi Сонца

Тут — сiротка. Тут — дзяўчо...
Ты даруй мне. Вінавата,
Што яе пусціла ў хату...
Так было яе шкада!

Сонца

Хай начуе — не бяда.

Мацi Сонца

Не прагоніш — так і знала.

Сонца

Толькі — каб не замінала,
Не чмурыла галавы...

Мацi Сонца

Ды яна цішэй травы...
Праўду, сынку, гавару.
Глянь на новую зару?
*(Сонца разглядае.)*
Даспадобы?
*(Сонца ківае галавой.)*

Сонца

Мне таксама.
О, ды ты саткала, мама,
Проста ўзоры прыгажосці!

Мацi Сонца

То ж не я, а наша госця...

Сонца

Быць не можа. Малайчына.

Мацi Сонца

Вельмі слаўная дзяўчына,
Мужна ўсе сцярпела мукі —
Да крыві спаліла рукі.

Сонца

Не чакаў я — вось дык на!
Хай пакажацца яна...

Маці Сонца
Гэй, выходзь сюды, Алеся!

Сонца
*(коласам-промнем шнырыць па кутках)*
Не хавайся ў цёмны цень!

Алеся выходзіць.

Алеся
Я — Алеся, што з Залесся.

Сонца
Калі гэтак — добры дзень!

Алеся
Добры дзень!

Сонца
Залессе знаю — вёска гэткая лясная...
А на ўскраі вёскі — хатка,
У якой гадуе татка —
З добрым позіркам такі —
Тры прыгожыя дачкі...

Алеся *(усхвалявана)*
Бацька, сёстры... як у сне...
І ці помняць пра мяне?

Сонца
Супакой сваю трывогу.
Бачыў, як яны ў журбе
Ўсе выходзяць на дарогу,
Выглядаючы цябе...
Значыць, помняць!

Алеся
Дзякуй, Сонца!
Мой шаноўны абаронца!
Проста — як гара з плячэй.
Будзе мне цяпер лягчэй.

Сонца
Стой! Але з якой прычыны
Ты бадзяешся, дзяўчына!
І чаго шукаеш ты?

**А л е с я**

Чалавечай дабраты...
Толькі ты цяпер мне зможаш
Памагчы.

Паўза.

Ты мне паможаш?

**С о н ц а**

Памагу... Але не сёння...
Бо валюся ад бяссоння.
Гаснуць вочы, змора гне...

**А л е с я**

Сонца, выслухай мяне!

**М а ц і  С о н ц а**

Выслухай яе, сынок!

**С о н ц а** *(успыхвае зноў)*

Гавары! Я — слых і зрок.

**А л е с я**

У дрымучым лесе шляху
Я шукаю столькі дзён.
Майго хлопца Барабаха
Чарамі ўзяла ў палон...
Я зрабіць усё павінна,
Каб вярнуўся да людзей...

**С о н ц а**

Ах, зласліўка — сык змяіны
Я ж ёй верыў...

**М а ц і  С о н ц а**

Дабрадзей...

**С о н ц а** *(пляскае сябе па галаве)*

О бязглуздая даўбешка!

**А л е с я**

Памажы да Ветру сцежку
Адшукаць у цёмным лесе...

Сонца

Памагу табе, Алеся...
Вось арэшак залаты.
*(Уручае Алесі.)*
Знойдзеш з ім дарогу ты.
Ды табе запомніць варта —
З гэтым Ветрам не да жарту...
*(Пайшэптам.)*
Служыць ён на Барабаху,
Можа збіць цябе са шляху...
Нораў у яго круты...

Алеся

За мяне не бойся ты.
*(Разглядае арэшак.)*
Як зіхціць! Якія промні!..

Сонца

І яшчэ адно запомні:
Калі дрэнна будзе, ты
Кінь арэшак залаты.
Беды ўсе ён і дакукі
Як рукою адвядзе...
І глядзі, нікому ў рукі
Не давай яго нідзе...

Алеся

Дзякуй, Сонца! Дзякуй, матка!
*(Збіраецца ісці.)*
Маці Сонца
Можа, лепей ты, дзіцятка,
Заначуеш тут?

Алеся

Не, не!
Не было ніколі мне
Светла гэтак у жыцці!
Самы час далей ісці...

Маці Сонца *(абнімае Алесю)*

Ты, дачка, разумнай будзь,
Слоў ягоных не забудзь.

## КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

З-за сцэны даносіцца песня Алесі «Словам абяцання вернай будзь давеку». Выбіваючыся з апошніх сіл, выходзіць босая, у лахманах, без кійка Алеся. Гудзе Віхор, ірве плацце на дзяўчыне. Гучыць песня-стогн Алесі, якая знямогла садзіцца.

Алеся

Шлях цяжкі і шлях вялікі:
Я іду-брыду здалёк,
Пашматала чаравікі,
Паламаўся мой кіёк.
*(Перастае пець, намагаецца ўзняцца.)*
Як жа мне далей ісці?
Вецер, вецер, не круці!
Нельга ж так, без перапынку —
Адпачні хаця б хвілінку!

Раптам сціхае Віхор, святлее — віднеецца хатка. Страха ў яе ўскудлачана ветрам, дзверы і вокны замкнёныя, але скрыўленыя, нібы іх расхістаў вецер.

*(Падыходзіць да дзвярэй.)*
Шум і звон у галаве...
*(Стукае ў хатку.)*
Ці не вецер тут жыве?
*(Аглядае домік.)*
Бач, віхура расхістала...

Чуецца скрып і скрыгат — адчыняюцца дзверы і вокны.
Паказваецца кабета ў расхрыстанай суконцы.

Маці Ветру

А ты як сюды папала?
Сюды птах не далятае,
Сонейка не заглядае
І двухрогі Маладзік
Ані разу не пранік...
*(У здзіўленні.)*
Скуль жа ты ў маёй старонцы?

А л е с я

Паказала сцежку Сонца
Мне цераз лясныя нетры.

М а ц і  В е т р у *(недаверліва)*

Сонца?

А л е с я

Я шукала Ветру...

М а ц і  В е т р у *(з'едліва)*

Сонца, што ж, хіба не знае,
Дзе віхор штодзень гуляе,
Кружыць — гойсае на волі...
*(Зарагатала.)*
Дык шукай жа Ветру ў полі,
Сына буйнага майго...

А л е с я

Пачакаць дазволь яго...

М а ц і  В е т р у

На табе, гляджу, паненка,
Лахманы, а не сукенка...
Шалапутны мой Віхор
Носіць гэтакі ж убор.
Ці не лазіш ты таксама
На парканы і на брамы?
Ды ўзбіраешся на стрэхі
Для забавы і пацехі?

А л е с я

Не, матуля... У блуканні —
Чаравікі я і ўбранне
Пашматала — на бяду...
Вельмі ўжо здаля іду.
І прыстала — валіць стома.

М а ц і  В е т р у

Дык чаму, дзяўчына, дома
Не сядзіш?.. А, як віхор,
Гойсаеш, дзярэш убор?
Ці нуда ў цябе якая?

Алеся

Любага свайго шукаю.

Маці Ветру

Ты шукаеш тут, а ў хаце
Недзе там чакае маці.
Выглядае дні і ночы,
Пэўна, выплакала вочы.
А табе тут — булі-гулі...

Алеся

У мяне няма матулі.

Маці Ветру

Сёстры, бацька ёсць?

Алеся *(сумна)*

У-гу...

Маці Ветру

Што табе зрабіць магу?

Алеся

Пазаві дадому сына —
З ім пагутарыць павінна,
Калі ён прымчыць у хатку...

Маці Ветру

Пазаву, але спачатку...
Бачыш кросны вунь? Датку
Шалапутнаму сынку
Палатно — для новай світкі.

Алеся

Я магу вам памагчы...

Маці Ветру

Раскудлачыш толькі ніткі.
*(Алеся памыкаецца нешта пярэчыць, маці не дае ёй сказаць.)*
Знаю. Лепей памаўчы.
Блытаў іх не раз сынок,
З-пад яго рукі чаўнок
Аж пад столь скакаў, як мяч...

Алеся *(настойліва)*

Я не зблытаю. Пабач.
*(Сядае за кросны. Тчэ.)*

Маці Ветру *(здзіўлена)*

Бач ты! Праўда, тчэш цудоўна.
*(Любуецца.)*
І кладуцца ніткі роўна.
Ходзяць рукі спрытна, дбала,
Лёгка бегае чаўнок...
*(Спахапілася.)*
Што я бачу? Нітак мала!
*(Шукае ў пакоі.)*
Дзе ж падзела я маток?
*(Да Алесі, нібы просячы ў яе парады.)*
Вось такая паласа —
Ну, нібы твая каса?..
*(Шукае.)*
Не знаходжу... Дзе ж ён гэта?
А... Сыночак пашматаў...
Нітак бабінага лета
Не хапіла для забаў.

Алеся *(спыняецца)*

Ах, бабуля, тут нямнога
Трэба нітак...

Маці Ветру

Ды нічога,
Напраду... Пускаю ў ход
Свой рыпучы калаўрот.
*(Прадзе на калаўроце.*
*Алеся стукае кроснамі.*
*Глядзіць на Алесю.)*
Як сапраўдная ткачыха!
Так працуе, бы пяе...
*(З сумам, бурчліва.)*
Вось бы мой сынок хоць крыху
Быў падобны на яе.
А то ўсё раскідаў дома,
Паразносіў...
*(Пазяхае.)*
Хіліць стома.

Пахіляецца ўсё ніжэй — пантаміма змагання са сном.
Маці Ветру засынае. Алеся тчэ. Праз акно заглядвае, а потым узбіраецца і пранікае ў хатку Барабаха, падкрадваецца да Маці, крадзе ніткі.

Барабаха

Тут і пража, тут і ніткі —
*(крадзе, хавае за пазуху)*
Будзе мне выдатны ўбор.
Ха-ха-ха! Цяпер без світкі
Застанецца кум Віхор!
*(Пераможна.)*
Ну, дзяўчына і хлапец,
Вам двaім цяпер канец.
*(Знікае.)*

Алеся *(перапыняе работу)*

Матка, нітак! Нітак мала.
*(Убачыла, што Маці спіць.)*
Задрамала... Задрамала...
Што рабіць? Будзіць ці не?
Не аблаяла б мяне...
А чакаць няма ўжо сілы —
У няволі тужыць мілы.
*(Пальцамі камечыць, перабірае сваю касу, глядзіць на яе — мільганула думка.)*
Во! Я знаю... Выйсце знаю.
*(Бярэ ножны, сцінае касу.)*
Мая коска ільняная...
*(Зноў загрукала кроснамі.)*

Маці Ветру *(абудзілася, пазяхае)*

А-а! Заснула неўзаметку...
А ты ўсё працуеш, дзетка?
Стой, стой, стой! Што бачу я?
Божа, дзе каса твая?

Алеся

Не хапіла нітак мне —
Вунь яна, у палатне...

Маці Ветру *(асуджаючы)*

Хараство сваё сцяла?
Што ж мяне не падняла?

**А л е с я** *(збянтэжана)*

Так, сцяла... Ды неахвотна
Добры мела я намер...

**М а ц і В е т р у**

Як пакажаш твар маркотны
Свайму міламу цяпер?..
У сябе прыгоства ўкрала!..

**А л е с я** *(апраўдваючыся)*

Я... Я... вас пашкадавала...

**М а ц і В е т р у** *(перапыняе)*

Ах, мяне пашкадавала!
А каса?
Твая каса!
Небывалая краса...
*(Выцірае хусткачкай вочы.)*
Гэткі скарб — зарука ўдач...
І дурніца ж ты... Прабач...

**А л е с я**

Што краса, калі мой любы
Не ўратуецца ад згубы...
За яго на ўсё, павер...

**М а ц і В е т р у**

Дзе ж ён, любы твой, цяпер?

**А л е с я**

Яго баба Барабаха
Чарамі змяніла ў птаха...
Так... І я яго павінна
Вызваліць цаной любой.

**М а ц і В е т р у** *(разважліва)*

Калі так, паклічу сына,
Хай пагутарыць з табой.
Але мне прызнацца горка —
Будзе цяжкая гаворка...
Пырхне, дзьмухне, залапоча —
Нават выслухаць не схоча...

Алеся *(тчэ і пяе)*

Тчыце, мае кросны,
Стукачыце, кросны.
Ткуць са мною зіму,
Ткуць са мною вёсны.
Дыхай, свежы вецер,
Дай мне новай сілы,
Пакажы куточак,
Дзе цяпер мой мілы!
*(Скончыла ткаць.)*
Вось... Гатова...

Маці Ветру *(разглядвае тканіну)*

Вельмі міла.

Алеся

Калі Віхру дагадзіла,
Калі будзе ўбор якраз,
Вецер выслухае нас?

Маці Ветру

Так і будзе.
Дай жа божа!
*(Задумалася.)*
Вельмі ты пяеш прыгожа.
Вецер, сын мой, любіць слухаць
Песенькі...
Пабачыш ты...
*(З сумам.)*
Сам жа ўмее толькі дзьмухаць
Ды свістаць да хрыпаты.
*(Па-дзелавому.)*
А цяпер пакуль што — прэч.
Лезь туды, дзяўчо,— за печ.

Алеся

Добра... *(Хаваецца.)*

Маці Ветру *(выходзіць з хаты)*

Вецер, прылятай!
*(Углядаецца і ўслухоўваецца.)*
Дзе ж падзеўся ты, гультай?

Чуецца шум і свіст, гром і бліскавіца. Рыпяць вокны і дзверы. Улятае на сцэну Вецер-Віхор. Ён у падранай, разлахмачанай кашулі і дзіравай шапцы.

Вецер

Я цябе вітаю, мама!

Маці Ветру

Я цябе, сынок, таксама.
І які ж ты ўвесь абдзёрты!
Божа, дзе твае штаны?

Вецер *(дурасліва)*

Ха-ха-ха! Ды гэта шорты!

Маці Ветру

Як у чорта, лахманы...

Вецер *(здароўкаецца, трасе руку маці)*

Рад тваю пацiснуць лапку!

Маці Ветру

Гора мне з табой... Бяда.
Глянь — твая падобна шапка
Да грачынага гнязда.

Вецер

Проста я адзет па модзе.

Маці Ветру

У мазгах тваіх — скразняк.

Вецер

Перастань, матуля, годзе,
Намахаўся я і так.

Маці Ветру

Адпачнеш — паспіш на сене.

Вецер

Што ты! Колькі маю спраў...
Не пасеяў я насення,
Не абтрос расінак з траў...

Мацi Ветру
Што ж тады рабiў, гультай?

Вецер
Лепш, матуля, не пытай!
Выдавалi гэткi свiст...

Мацi Ветру *(горка)*
Свiст... Глядзi, якi артыст...

Вецер
Чаго клiкала, скажы?

Мацi Ветру
Ты спяшаешся?
*(Пакрыўджана.)*
Бяжы!
Не трымаю.

Вецер *(круцiцца, убачыў тканiну)*
Бачу ўжо!
Будзе свiтка мне! Няўжо!

Мацi Ветру
Падабаецца адзенне?

Вецер
Каласальна!.. Заглядзенне!..

Мацi Ветру
Ззяе, быццам залатое...
*(Вецер круцiцца, не гледзячы на тканiну.)*
Дзе ты скачаш — вунь яно!

Вецер
Або гэта, або тое —
Падзярэцца ўсё адно.
Не марудзь. Хутчэй давай.

Мацi Ветру
Не твая. I не чапай.

Вецер *(вырывае ў маткi ўбор. Дражнячыся, уцякае крокам танца)*

Як жа гэтак — не мая,
Калі ўжо трымаю я?..

Маці Ветру

*(гоніцца за сынам з верацяном)*
Аддавай! Пастой! Уроніш!

Вецер

Так!.. Аддам... Калі дагоніш.

Маці Ветру

Аддавай, няўлоўны гном!
Укалю верацяном...

Вецер

Я скачу, як на кані —
Паспрабуй жа секані...

Маці Ветру *(нарэшце даганяе сына)*

Атрымоўвай, сынку, на —
Пакаштуй верацяна!..

Вецер

Ой, ой, ой, не бі! Пячэ...

Маці Ветру

Мала біла — на яшчэ!

Вецер *(ухіляецца ад удараў, схапіў матку, круціць яе ў дзікім танцы)*

Булі-гулі...
Раз і два...
Кругам, кругам галава!
*(Хрыпла пяе.)*
Скок-паскок, і так і сяк.

Маці Ветру *(задыхаючыся)*

Не магу! Паветра брак...

Вецер *(спыніўся)*

Ну, нішто сабе. Гульнулі?
Не трымай, пусці, матуля!

Маці Ветру

Не глядзі з такой мальбою,
Бо не вырвешся, малыш!
Танцавала я з табою —
Ты са мною пастаіш!

Вецер *(спрабуе вырвацца)*

Мне ж на працу час якраз.

Маці Ветру

Знаю, зноў змарнуеш час.

Вецер круціцца па сцэне. Маці ўтрымлівае яго за вопратку.

Вецер *(раптам нюхам адчуў)*

Гэта што, ты мне скажы,
Дома хтосьці ў нас чужы?
Ці мне мроіцца ўваччу?
Адпусці — я палячу.
Бо мяне ты ашукала...
Тут — дзяўчына!..
Хто яна?

Маці Ветру

Для цябе яна наткала
На адзенне палатна...

Вецер

А, падумаеш — наткала!
Адпусці! Мне справы мала...

Маці Ветру

Ды паслухай ты, віхор!
Каб табе даткаць убор,
Валасы сцяла свае...

Вецер

Гм... А хто прасіў яе?
А табе яе шкада?
*(Вырываецца.)*
Вось і вышмыгнуў! Гайда!
Не дагоніш!

**Мацi Ветру**

Сынку, сынку,
Пачакай адну хвілінку...

**Вецер**

Ні хвіліны!

**Мацi Ветру**

Гэй, Алеся!
Песню, песню!

Чуецца мелодыя.

**Вецер**

Што за песня?

**Алеся** *(пяе, выходзячы)*

Не ўцякай, Вятрыска,
Пачакай, не дзьмухай.
Чуеш, песня блізка,
Ты яе паслухай!
*(Вецер прыпыніўся і заслухаўся.)*

**Вецер**

Беспадобна! Цуд, не песня!
Вось бы так спяваць і мне,
Калі я лячу па ўзлессі
Ці бягу па дзірване...

**Мацi Ветру**

Так спявае, як і тчэ...
Шчодры дар!

**Вецер**

Давай яшчэ!

**Алеся** *(працягвае пець)*

На ўсім белым свеце
Ціша, ціша, ціша...
І на дрэвах вецце
Вецер не калыша.
Але зноў засвеціць
Ранкам золак весні

І пачуе Вецер
Подых гэтай песні.
Помні, помні, помні
Абяцання словы...
Сонечныя промні
Дзень абудзяць новы.

В е ц е р *(хрыпла падпявае)*

Па ўсім белым свеце
Ціша, ціша, ціша...

М а ц і  В е т р у

Не псаваў бы лепей песню —
Не свістаў да хрыпаты...

В е ц е р *(узлавана, да Алесі)*

Растлумач ты ёй, Алеся —
Я ж спяваю, як і ты...
*(Насвіствае зноў.)*
«І на дрэвах вецце
Вецер не калыша...»
*(Да Алесі.)*
Ну, а зараз — па сакрэту:
Падары мне песню гэту.
*(Зноў насвіствае мелодыю.)*

М а ц і  В е т р у *(убок)*

Голас — быццам бразгат бляхі...
*(Да сына.)*
А паможаш ёй, скажы?
Да палаца Барабахі
Шлях дзяўчыне пакажы...

В е ц е р

Барабахі! Не, не, не!
Не чапайце лепш мяне!
Не хачу пра гэта слухаць —
Я мятлу ёй мушу рухаць.
Гэта цётка — во якая!
Скарбы тайныя шукае,
І па свеце — не хлушу —
Я, Віхор, яе нашу...
*(Імітуе палёт на мятле.)*

Маці Ветру *(узлавана)*

Ах, дык ты вазіў вядзьмарку —
Вось чаму ты, верхагляд,
Не дагледзеў гаспадарку
І не высеяў зярнят...
І няўжо, сынок, не бачыш,
Пад чыю ты дудку скачаш?
Для цябе ж я клапачу...

Вецер *(перабівае)*

Ат!.. Раблю я, што хачу!
Слухаю сябе самога —
Пан я сам сабе ў жыцці...

Маці Ветру

«Што хачу...» Тады дарогу
Паказаць ёй захаці...

Вецер *(да Алесі)*

Пакажу. Але спачатку
Ты мне песеньку аддай...

Алеся запытальна глядзіць на маці.

Што ты так глядзіш на матку?

Алеся *(вагаецца)*

Добра... Згодна я, бадай...

Вецер

Не, ты мне скажы дакладна...

Алеся

Аддаю. Я згодна. Ладна...

Вецер *(здаволена насвіствае мелодыю песні)*

Маю песню для пацешак.
*(Дастае дыяментавы арэшак.)*
Бачыш? На — трымай арэшак...
Не заблудзіш з ім нідзе —
Ён да мэты прывядзе.

Алеся

Дзякуй, Вецер!..

Вецер

Будзе гора,
Як арэшак аддасі...

Маці Ветру

Ці ж яна пяройдзе мора?
Ты яе перанясі...

Вецер

Не магу, матуся, я...

Маці Ветру

Значыць, гэткая твая
Дапамога?..

Вецер *(да маці, пакрыўджана)*

Проста спуску
Ты мне, маці, не даеш...
*(Да Алесі.)*
Дам табе, дзяўчына, Гуску —
За любы ляці рубеж...
*(Кліча.)*
Гуска, я цябе гукаю!..
*(З'яўляецца белая Гуска.)*

Алеся

Божа, белая якая!
Як у Ганкі...

Гуска

Га-га-га!

Вецер *(да гускі)*

Працаваць табе чарга...
*(Да Алесі.)*
Дык ляці, дзяўчо, з двара...
*(Адбягае.)*
І бывай! А мне — пара!
Да сустрэчы!..

Алеся

Дзякуй, вецер!
І заўжды гуляй па свеце...

*(Збіраецца ісці.)*
Час і мне...

Мацi Ветру

Я так смуткую,
Мне б, як ты, дачку такую.

Алеся

Не забуду я пра вас...

Мацi Ветру *(развітваецца)*

Дык бывай! У добры час!

Алеся ідзе, узмахваючы рукой.

## КАРЦІНА ПЯТАЯ

У чароўным садзе над возерам — палац. У пакоі палаца адна сцяна, аздобленая тканінай з залатымі павукамі. З другога боку — люстэрка на курыных ножках і цяжкі куфэрак з каштоўнасцямі. Бліжэй — з блакітным водсветам Шар — экран на трох нагах. Цёмна. Музыка пераходзіць у свіст ветру.

Барабаха *(з-за сцэны)*

Вышэй хмар
і вышэй гор
Ты нясі мяне,
віхор!
*(Бліжэй.)*
Ты нясі мяне,
Вятрыска,
Мой палац вядзьмарскі
блізка.

Свіст ветру узмацняецца, з'яўляецца Барабаха на мятле з прапелерам.

Дома я... Бывай, віхор!

Вецер хрыпіць, фыркае і сціхае за сцэнай.

Гм... Партачыць зноў матор.
*(Хапаецца за сэрца, глытае таблетку. Да мятлы.)*
Мне была ўначы і днём
Ты і возам і канём.
Адпачнём нарэшце тут,
Ці не чуеш, марш у кут.

Мятла паслухмяна падаецца ў кут. Барабаха падыходзіць да куфэрка.

Б а р а б а х а *(кійком стукае па куфэрку і прыгаворвае)*

Адчыніся, скарб, хутчэй...
Ясным сонцам для вачэй.

Вечка ўзнімаецца, пакой азарае яркае ззянне, Барабаха дрыготкай рукой перабірае каштоўнасці.

Як жывыя...
мае скарбы...
Хараства і сілы
фарбы...
*(Падыходзіць да Шара.)*
Пацямнеў...
маўчыш і ты,
Шар чароўны, залаты...

Скрыжавала над Шарам рукі — залатыя павукі на тканіне заварушыліся.

*(Да Шара.)*
Тут і днюеш,
і начуеш,
Як аддany вартаўнік.
Ты ўсё бачыш,
ты ўсё чуеш,
Мой відушчы чараўнік.
Ну, дзень добры,
прывітанне,
Адкажы мне
на пытанне —

Ты мне хочаш памагчы?
*(Прыспешвае.)*
Гавары ж ты, не маўчы!

Стукае тры разы кійком, Шар засвяціўся, тройчы гучыць музычны гук — пазыўныя.

Шар

Што табе,
мая васпані?
Задавай свае пытанні...

Барабаха

У турботах я вялікіх...
Дзе цяпер дзяўчына тая,
Што ў жалезных чаравіках?
Ну, адказвай — я пытаю!

Шар

Дзеўцы Месячык двухрогі
Серабрысты даў арэх,
Каб не збілася з дарогі...

Барабаха

Замаўчы ты, пустабрэх!
Знаю гэта і сама,
Што дружыла з ім дарма.
Паказаў мне дурань дулю —
Падбухторыла матуля...
Так: і Сонца, мне назло,
Галадранцы
памагло!..

Шар

А далей —
між росных траў
Вецер дзеўчыну спаткаў...

Барабаха *(акрылена)*

Кум Віхор!
Яго, як сына,
Я люблю...
О, ён дзяўчыну
Пакруціў і выгнаў прэч!

Ш а р

Так, так, так!
                    Ты не пярэч!
Не прагнаў...
                  Вятрыска строгі
Дыяментавы арэх
Даў, каб ведала дарогі...

Б а р а б а х а

Тары-бары!
                  Смех і грэх!

Ш а р

Лепш бы, пані,
                      ты не кпіла...

Б а р а б а х а

Дык былі ж мы з ім сябры!
Чым дзяўчо яго купіла?
Гавары мне!
                    Гавары!
Гавары мне або трэсні!
*(Замахнулася кійком.)*

Ш а р

Падарыла Ветру песню —
Песню любага свайго...

Б а р а б а х а *(здзіўлена)*

Песню, кажаш? Што? Чаго?
А якую?

Ш а р

            Вось... Паслухай...
*(Напявае песню «Словы абяцання не забудзь давеку».)*

Б а р а б а х а

Ды цішэй жа ты,
                          не дзьмухай.
Годзе! Мне нутро трасе...
Прабубніў мне вушы ўсе

Гэтай песенькаю Вецер,
Носячы мяне па свеце...
*(Імітуе, як гойсаў вецер.)*
Змоўкні!
Больш не гавары!
*(Стукае кійком — Шар гасне.)*
Адбяру ў яе дары...
Пра Алесю ўсе забудуць...
Мне служыць аддана будуць...
*(Узмахвае кійком.)*
Гэй, сюды, маё люстэрка!

Набліжаецца да Барабахі люстэрка на трох ножках.

Ці прыгожа я,
скажы,
Я — ўладальніца куфэрка,
Дзе багацця без мяжы?
Выглядаю я прыгожа?..
Ці ж са мной раўняцца можа
Гэта дзеўка —
галадранка,
Басаногая сялянка?

Паўза.

*(Грозіць.)*
Ну, Алеся абадранка,
Ты старалася дарма!
З Качара —
твайго каханка —
Чары я здыму сама!
І-ха-ха! Законным шлюбам
Абручуся з тваім любым!
Што так вырачыла вочы?

Паўза.

Мне аздобы ён к таму ж
Як слуга каваць не хоча. .
Будзе іх рабіць,
як муж.
*(З гонарам.)*
Барабаха ўсіх сагне!
*(Гукае.)*
Гэй, каштоўнасці, ка мне!

Куфэрак набліжаецца, адчыняецца, Барабаха ў шалёным запале прымярае пацеркі, завушніцы, бранзалеты.

Свет скару любой цаной!
Хто зраўняецца са мной?
Толькі скарбы —
шчасця мерка...
Прэч адсюль хутчэй,
Люстэрка!
Прэч, Куфэрак мой!
У кут!
Я адна царыца тут.

Люстэрка вяртаецца на месца, куфэрак таксама.

Плыві, Месяц,
з паднябесся!
Сонца, ззяй!
І, Ветрык, вей!
І з-за мора хай Алеся
Прыляціць сюды хутчэй!
Ха! Пакуль яна прыбудзе,
Качар маім мужам будзе!
Свет увесь перакручу —
Будзе так,
як я хачу!

Тройчы ўзмахвае кійком — святло гасне. Замак у змроку. У садзе святлее. Адсвечваюць зеленаватыя хвалі возера. На іх фоне — блакітны Качар. Ціха. З палаца выходзіць Барабаха. На ёй ззяюць залацістыя аздобы. Убачыўшы яе, Качар адхіснуўся.

*(З'едліва.)*
Што, шаноўны мой, у страху
Пакідаеш Барабаху?

Качар

Не баюся, бачыць неба!

Барабаха *(ліслiва)*

Так, баяцца і не трэба!
Прымірыцца нам пара.
Я ж табе хачу дабра,
І даўно я гаварыла...

К а ч а р

Ці не для майго дабра
Ты мяне ператварыла
З чалавека ў Качара?

Б а р а б а х а

Дурань мой!
Ад працы цяжкай
Я пазбавіла цябе...

К а ч а р

І зрабіла дзікай пташкай,
Каб маўчаў —
ні мэ, ні бэ.

Б а р а б а х а

О, ты варты лепшай долі:
Дык паслухай —
я ж з дабром.

К а ч а р

Быць тваім рабом!
Ніколі!
Лепш застацца Качаром...

Б а р а б а х а
*(з затоенай іроніяй)*

Гарачышся...
Разумею.
Абурэнне малайца...
Прымушаць цябе не смею,
Ды паслухай да канца.
Я хачу любві — не здрады!
Я шукаю лепшай рады...
Я сягоння варажыла,
На мятле сваёй кружыла...
Пра цябе,
паверыш, дбала...
Ясакар, што быў счарнеў,
Ніткай я перавязала —
Ён адразу расквітнеў:
Любата і прыгажосць!
Гэта знак, што рада ёсць...

К а ч а р

Што за рада?

Б а р а б а х а *(прытворна ласкава)*

Ты б лагодна...
Значыць, вось якая рэч —
Быць табе я жонкай згодна...
І з цябе ўсе чары прэч!..
Будзеш, стаўшы верным мужам,
Самым моцным,
самым дужым...

К а ч а р

Ах, дык вось чаго ты хочаш?
Толькі ты дарма клапочаш.

Б а р а б а х а *(угневана)*

Што глядзіш ты так варожа?
Ведай жа, цябе з бяды
Вызваліць ніхто не зможа!
Будзеш пташкай назаўжды.

К а ч а р *(з'едліва)*

Шчыра дзякую за клопат...
Можа, ўрэшце скончыш допыт?

Б а р а б а х а

Знаю я, з якой прычыны
Размаўляеш смела так,
Спадзяешся на дзяўчыну?
Але марна ўсё, дзівак...

К а ч а р

На дзяўчыну? На якую?

Б а р а б а х а

Ды такую...
трапяткую,
Што клялася свет прайсці,
Каб адно цябе знайсці.
Тары-бары!
Палюбіла,
Паклялася і забыла...

Качар

Маніш! Брэшаш!

Барабаха

Вось дык на!
Я? Брашу?
Дык жа згубіла
Песеньку тваю яна...

Качар

Не!

Барабаха *(спакойна)*

У крыку толку мала.
Прывяду сюды яе.
Папрашу,
каб заспявала.
Ды яна не запяе.

Качар

Запяе!..
Калі жывая...

Барабаха

Калі толькі заспявае
Тваю песню, дык ураз
Адпушчу на волю вас...

Качар

Пакляніся, што дзяўчыну
Ты адпусціш!

Барабаха *(хрысціцца)*

Вось мой крыж!
Згода?

Качар *(пасля паўзы)*

Згода.

Барабаха

Малайчына.
*(Убок.)*
Зараз, хлопча, пагарыш...

К а ч а р
*(ціха, драматычна)*

Згода... Што ж тваёй няволі
Не пазбыцца мне ніколі,
Калі песенькі мае
Дзяўчына не запяе...

Б а р а б а х а

Але вось якая ўмова.
Калі скажаш ёй хоць слова
Перш, як песню запяе —
Дык загубіш ты яе...
Ты ж сабе не хочаш зла?
Скеміў?
Клікаць я пайшла...

Знікае ў палацы. Чуецца гогат Гускі, на сцэне з'яўляецца А л е с я і Г у с к а й.

А л е с я

Гуска, Гуска,
што гагочаш?
Весці больш мяне не хочаш?
Ці прыстала?
Пот, як град...
Глянь, які паблізу сад...
Ціха гэтак,
дзіўна гэтак:
Ані пташак,
ані кветак...
Захінула ўсё смуга.
Праўда, Гуска?

Г у с к а

А-га-га!

А л е с я

О, адчула ты ваду!
Я з табой туды іду.
Акунеш у хвалях крылы,
Набярэшся свежай сілы...
*(Любуецца возерам.)*
Замірае проста сэрца —

І прыгожае азерца...
Вось... сама ідзе нага...
Ці не так?

Г у с к а *(з перасцярогай)*

Не-а-га-га!

Убаку стаілася Барабаха, Алеся робіць крок яшчэ — і бачыць Качара.

Божа!
Быццам сон нязбытны...
Мой Качар...
Качар блакітны...

Б а р а б а х а

Куды прэшся?
Стой, пастушка,
Бо схаплю цябе за вушка...
Лахманамі хочаш трэсці?
Ля палаца?
Многа чэсці!

А л е с я *(сама сабе)*

Надышла, відаць, чарга
Кінуць мой арэх...

Г у с к а *(ківае ў знак ухвалення)*
А-га!..

А л е с я

Ты, арэшак срэбны,
Мне цяпер патрэбны.
Памажы мне з ходу —
Адкінь перашкоду...
*(Кідае арэх — з лупін яго выпадае срэбная сукенка.)*

Б а р а б а х а

Ха! Апошняй моды крык!
Зіхаціць, як маладзік...
Сукня дзіўнай пекнаты...
Дай!.. Прадай!..
І зможаш ты

Тут пабыць...
Мой сад, як рай,
Будзеш рада...

А л е с я *(аддае)*
Забірай!

Б а р а б а х а *(бярэ плацце)*

Дазваляю — пасядзі...
Адпачні... Але глядзі,
Каб пясок не заслядзіла!
Невядома дзе хадзіла...
У сваіх лахмоццях шэрых
Не пасмей ступіць на бераг.

А л е с я

Вельмі лёгка я хаджу...
І пясок не заслянджу...
Дык дазволь пайсці туды —
Да блакітнае вады.

Б а р а б а х а

Не магу ніяк згадзіцца —
Там свянцоная вадзіца...

А л е с я *(ціха да Гускі)*

Зноў прыйшла, відаць, чарга
Кінуць мне арэх?

Г у с к а *(згодна ківае)*
А-га!

А л е с я

Мой арэшак залаты!
Мне цяпер паможаш ты.
Я пушчу цябе — і з ходу
Ты адкінеш перашкоду.
*(Кідае арэх —*
*ён з трэскам раскалваецца,*
*узнікаюць залатыя чаравічкі.)*

Б а р а б а х а

Вай! Якія чаравічкі!

Як два сонцы! Як дзве знічкі!
Дай іх мне! І да вады
Я пушчу цябе тады...

Алеся

Забірай.

Барабаха *(бярэ чаравічкі, з захапленнем разглядае іх, потым глядзіць на Алесю)*

Глядзі мне, ціха!
Я ж хачу табе дабра...
Бо наклічаш, дзеўка, ліха,
Калі спудзіш Качара.
Ён не церпіць мармытання.

Алеся

Ты дазволіш мне, васпані,
З Качаром пагаварыць.

Барабаха

Кінь ты голаў мне дурыць...
Ён мой птах, мой дабрадзей,
Вельмі злосны на людзей.

Алеся *(ціха)*

Кінуць зноў арэх чарга
Надышла, відаць?

Гуска *(згодна ківае)*

А-га!

Алеся дастае дыяментавы арэх.

Барабаха

Што дрыжыш? Чаго ківаеш?
Я заўважыла, на грэх,
Што ў сваёй руцэ трымаеш
Дыяментавы арэх...
Дай яго мне! І дазволю
З Качаром пагаварыць...

Гуска тузае Алесю за плацце.

Алеся

Не аддам яго ніколі!

Б а р а б а х а

Не ўпірайся — кінь дурыць!..
Пакажы — назад вярну...
Дай! Не будзь дурненькай... Ну!
*(Выхоплівае арэшак.)*

А л е с я *(у роспачы)*

Як жа можна! Хто так робіць?

Б а р а б а х а

Твой арэх мяне аздобіць...
*(На Гуску.)*
Змоўкні ты! Чаго гагочаш?
*(Да Алесі.)*
Панясу ў палац дары.
Ну, а ты, калі ўжо хочаш,
З Качаром пагавары.
*(Адыходзіць, сама сабе.)*
Споўню я сваё жаданне —
І няпраўда праўдай стане!

Гуска ў адчаі гагоча.

А л е с я *(да Гускі)*
Ціха! Пойдзем вунь туды —
Да азёрнае вады...
*(Набліжаецца да Качара,*
*цягнецца да яго рукой.)*
Любы мой!

Качар маўчыць.

Пазнаў ці не?
Лахманы цяпер на мне.
І парэпаныя ногі
Здзірванелі ад знямогі...
І абцятая каса,
І пабляклая краса...
Але гэта я — Алеся!..
Помніш домік каля ўзлесся?

Качар маўчыць.

Што маўчыш ты? Ці не рад,
Адкажы... Як друг... Як брат...

7 Зак. 2166

Качар маўчыць.

О, не чуеш пэўна ты?

Гуска ў смутку гагоча.

Мой каханы! Залаты!
У пакутах ты вялікіх,
У самоце і ў жальбе...
Я ў жалезных чаравіках
Шлях шукала да цябе.

Гуска спачувальна гагоча.

Як было ісці мне цяжка...
Ты ж, зняволеная пташка,
Вось дзе днюеш і начуеш...
Гавару, а ты не чуеш.

Барабаха

Што, не клеіцца размова?

Алеся

Ён аглух, відаць,— ні слова.

Барабаха

Я казала — цяжка з ім...
Бо не верыць ён чужым.
Але дам табе я раду —
Клюне, быццам на прынаду,
Ён на песеньку адну.
Слухай, зараз зацягну...
*(Барабаха заспявала*
*«Словам абяцання...».)*

Алеся

Божа, што я нарабіла?

Барабаха

Знаю, песеньку згубіла.
Паспрабуй жа, прыгадай.
І прыпомніцца, бадай.
Толькі песня, гэта песня
Уратуе Качара...
Заспявай яе, хоць трэсні!
А інакш — прэч з двара.

Алеся

Дыямент аддай! Даволі!

Барабаха

Вось куды дурнічка гне...
*(Рэзка.)*
Знай, не вернецца ніколі,
Што папала ў рукі мне!..

Алеся

Але ж ты дала мне слова!

Барабаха

Ха! Хіба мне слоў шкада,
Я дадаць яшчэ гатова,
Абяцанні — як вада...
А цяпер —
ідзі хутчэй!
Ці не чуеш?
Згінь з вачэй!

Алеся *(упарта)*

Не пайду я!

Барабаха

Ну, глядзі!
Майго гневу не будзі...
Прэч кацiся — бачыш, сцежка.

Алеся

Не пайду я без арэшка:
Ашукала... Падманула...

Барабаха *(змякчае тон)*

Хочаш, каб яго вярнула?
Добра. Споўню я ўгавор!
Ды ў арэшку спіць Віхор!
Буру я збуджу ў паветры,
Прылятайце, злыя Ветры,
З небывалых далячынь!
Згінь, дзяўчо, ад буры, згінь!

Нарастае шум Ветру.

Алеся *(з адчаем)*

Віхру, Віхру, бі мне ў твар!
Змарнавала я твой дар...

Барабаха *(пераможна)*

Так, твая пагібель блізка;
Згінь, дзяўчо, ад Віхру, згінь!

Алеся *(самаахвярна)*

Пакарай мяне, Вятрыска,
Але мілага пакінь...

Барабаха

Ха! Цацанка — спадзяванка:
Згінь, дзяўчына-галадранка...

Арэх трэскаецца. Хвіля цішыні, і чуецца голас Калодзежа.

Віхор *(голасам Алесі)*

«Словы абяцання
Не забудзь давеку...»

Барабаха
*(ашаломлена спрабуе перабіць песню)*

Значыць, песенька ў арэху?..
Стой, Віхор! Мне не да смеху...

Песенька працягвае гучаць.

Не жартуй ты так нязносна.
*(Хапаецца за сэрца.)*
Ой, матор псуецца... Млосна...

Хвалюецца возера. Качар лапоча крыллем. Пераўтвараецца ў майстра. Выходзіць на бераг, абмінаючы Барабаху, ідзе да Алесі.

Майстар

Ты, Алеся?

Барабаха

Тары-бары!

Алеся

О, ты скінуў злыя чары!
Ты жывы?

М а й с т а р

Жывы, Алеся —
Мая воля! Мая песня!

А л е с я

Родны мой! Мой брат! Мой дружа!

М а й с т а р

Я чакаў. Я верыў дужа.
Як цудоўна, што прыйшла ты.

Б а р а б а х а *(грозячы)*

Не ўцячы вам ад расплаты...
Прападзі, Віхор пракляты.
Тары-бары! Ура-ган,
Прылятай да гэтай хаты,
Скінь дзяўчыну ў акіян!

Загулі Вятры — ідзе іх паядынак.

*(да Алесі.)*
А? Трасе цябе трывога?
Шквал, ляці на іх сцяной!

А л е с я *(туліцца да Майстра)*

Не баюся я нічога,
Калі поруч ты са мной!

М а й с т а р
*(моцна абдымаючы Алесю)*

Ні віхурам, ні абразам
Не зламаць цяпер мяне!
Калі мы з табою разам,
Нас нішто не пахісне...

Б а р а б а х а

Свет увесь перакручу —
Будзе так, як я хачу!

Шум мацнее.

Г о л а с В е т р у

Ты, вядзьмарка, звар'яцела!
Вельмі многа захацела...
Захацела, каб на свеце

Лет не знаючы і зім,
Я, свавольны вольны вецер,
Лётаў лёкаем тваім!
*(З выклікам.)*
Ды не быць таму... Пабач!

Вецер закруціў у шалёным танцы Барабаху.

Б а р а б а х а

Стой, чупрыну не кудлач,
Не мяне трасі — дзяўчыну!

Г о л а с В е т р у

Не, цябе я не пакіну.

Вецер расчыняе вокны ў палацы. З акна выскоквае чароўны Ш а р і круціцца з Барабахай. Па сходках збягае на курыных ножках люстэрка і скача. Грукаючы, рухаецца куфэрак.

Б а р а б а х а
*(спрабуе загнаць куфэрак назад)*

Ці звар'яцеў ты, што з табой?
Куды ты? Стой у хаце!
*(Штурхае куфэрак — ён перакуліўся, пасыпаліся каштоўнасці.)*
Ратуйце! Гвалт! Прымус! Разбой!
Мой скарб! Маё багацце!

Алеся і Майстар жменямі кідаюць бліскучыя каштоўнасці ў залу, гледачам. Барабаха ў бяссільным адчаі беспаспяхова ловіць зіхотныя кропелькі свайго былога багацця.

Канцы маёй уладзе... Крах!
*(Закалацілася.)*
Бяда! Трасе гарачка!
Набытак мой пайшоў, як прах...
*(Жаласліва, амаль лямантуючы.)*
Хто я цяпер!.. Жабрачка!
*(Раптам авалодвае сабой.)*
Мятла, ка мне! Ка мне, кажу!
*(Падскоквае мятла.)*
Мой скарб пастушка ўкрала.
*(Сядае на мятлу.)*
Хутчэй — адгэтуль! За мяжу!
Дадзім з табою драла!

Паляцела на мятле за сцэну, за ёю люстэрка і Шар. У суправаджэнні моцнага свісту Ветру. Усё раптам сціхае.

Майстар

Ты паглядзі — які прастор!

Гуска гагоча.

Алеся

Бач, расхінула крылы,
Дамоў, да бацькі, да сясцёр
Нас запрашае, мілы!

Майстар

І прычакалі мы падзей
У высях паднябесся,
З няволі доўгай да людзей
Мы паляцім, Алеся!

Імітуючы палёт, рухаюцца разам з Гускай. З'яўляюцца Сонца, Месяц, Вецер. Яны праводзяць Алесю і Майстра. Гучыць песня.

Месяц, Сонца, Вецер *(разам)*

Любоў гукае і вядзе
І нам пабудку трубіць.
Мы не пакінем у бядзе
Усіх, хто верна любіць.

Месяц

Сярод паўночнае пары
Я пакажу ім сцежкі.

Сонца

А я сагрэю на зары
Цяплом сваёй усмешкі.

Вецер

Каб да рукі рука ішлі,
Я ім аддам дыханне.

Усе разам

Няхай жывуць на ўсёй зямлі
Сяброўства і каханне.

*Канец*

# НА ЎСІХ АДНА БЯДА



**Драматычная паэма-казка
ў чатырох карцінах**

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Ігнат
Дана
Мядзведзь
Змяя
Мартышка
Пан
Суддзя
Вартаўнік першы
Вартаўнік другі
Панскія слугі
Вартаўнікі
Звяры
Галасы

## ПРАЛОГ

За сталом — с у д д з я ў чорнай мантыі, з вялізным малатком. Збоку — за спецыяльнай загародкай І г н а т, каля якога два вартаўнікі. У супрацьлеглым баку — зала суда з крэсламі. У зале толькі адзін глядач. Гэта п а н.

С у д д з я
*(працягваючы вядзенне працэсу)*
...Дык суд пытае — адкажы,
Ці прызнаешся ў крадзяжы?
*(Ігнат маўчыць.)*
Хутчэй! У нас жа розных спраў
І без цябе багата...

І г н а т *(у роспачы)*
Не! Я не краў! Не краў! Не краў!
Не! Я не вінаваты!
Не краў ніколі і нідзе...
Жыў працаю з дзяцінства...

С у д д з я
А доказ дзе? А сведкі дзе?

І г н а т
Я не рабіў злачынства.

С у д д з я
А сведкі дзе? Ага, маўчыш?

П а н *(кідае з залы)*
Ха-ха! Як злоўленая мыш...
*(Суддзя стукае малатком — робіць пану заўвагу.)*

С у д д з я *(да Ігната)*
Ну, што? Сказаць няма чаго?
Як гэта растлумачыць?
*(да залы)*
Панове, ён маўчыць...

П а н
Яго маўчанне — згода, значыць...
*(Суддзя зноў стукае малатком.)*

Суддзя

Дык сведчыць мой судзейскі сан:
Падсудны гэткім чынам —
Вы чуеце — прызнаўся сам
У дзеянні злачынным
І, як загадвае Указ...

Ігнат

Ды я не краў, паверце...
*(Суддзя стукае малатком.)*

Суддзя

Прыгаварыць я мушу вас
Да пакарання смерцю!
І — справу нам закрыць пара.

Пан
*(пераможна запляскаў у далоні)*

Ура! Ура! Ура! Ура!
*(Суддзя стукае малатком,
суцішае пана.)*

Суддзя *(павучальна)*

Так мы абсеклі корань зла
З усім яго насеннем.
І — гляньце — зала прыняла
Прысуд з задавальненнем.
*(Да вартаўнікоў.)*
Выконвайце волю суда!

Пан

А ну!

Вартаўнікі накідваюцца на Ігната і валакуць яго. Але ў гэты момант у пакой урываюцца звяры: недзе, здаецца, проста са столі саскоквае Мартышка, праз акно слізганула Змяя. Праз дзверы павольнай хадою, перавальваючыся, уваходзіць Мядзведзь.

Мартышка

Стойце!

Змяя

Ч-чакайце!

Мядзведзь

Хвіліну адну!

Усе, апрача Ігната, спалохана кідаюцца хто куды.

Суддзя
*(хрысцячыся і залазячы пад стол)*

Ай-яй! Пасланцы самога сатаны.

Пан

Ай-яй! Павылазілі з клеткі.

Пан хапае крэсла, на якім сядзеў, засланяецца ім, спрабуе вышмыгнуць з залы, але выхад загароджваюць звяры.

Мартышка

Спакойна, панове!

Мядзведзь

Спакойна, паны!

Змяя

Мы — сведкі!

Звяры *(усе разам)*

Мы — сведкі!
Мы — сведкі!

Суддзя

Задушаць!

Вартаўнікі
*(калоцячыся і хаваючыся за Ігната)*

З'ядуць!

Пан

Ні за грош прападу!

Змяя

Ш-шаноўныя, ціш-шай!

Звяры *(усе разам)*

Мы зараз суду
Раскажам усё па парадку.

Суддзя, палахліва азіраючыся, вылазіць з-пад стала, бярэ малаток, стукае.

С у д д з я *(дрыготкім голасам)*

Хоць перад намі і звяры,
А сведкі — што ні гавары!..
*(Кланяецца ў бок звяроў.)*
І суд гатоў заслухаць вас,
Прашу. Дык хто пачне расказ?

Зацямненне

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Вялізная глыбокая яма. У ёй М я д з в е д з ь, М а р т ы ш к а і З м я я. Яны журботна, пабраўшыся за рукі, з вострым адчуваннем бяды, якая іх сабрала, паюць ціха і прачула.

З в я р ы *(усе разам)*

Мы — вельмі розныя звяры
І грозныя таксама.
Але мы ўсе цяпер сябры:
Нас падружыла яма.
На іншых ставіш ты сіло,
На іншых зубы точыш,
Але аднойчы, як назло,
У яму сам ускочыш.

З м я я

Каб стаць мацнейшымі ўдвая,
Нам трэба аб'яднацца.

М я д з в е д з ь

Дазволь, сястра мая Змяя,
Табе ў любві прызнацца.

З в я р ы *(усе разам)*

І як жа нам не ныць, не пець,
Усім нам будзе крышка.

З м я я

Ці я — Змяя.

М я д з в е д з ь

Ці я — Мядзведзь.

М а р т ы ш к а

Ці я, ці я — Мартышка...

З в я р ы *(усе разам)*

Мы вельмі розныя звяры,
Ды хараша і міла
Пяём і скачам, як сябры,
Нас яма падружыла.

М я д з в е д з ь

Які зацішны і цёмны кут...
О хоць бы маленькую кропельку мёду!

З м я я

Толькі цаною турэмных пакут
Вучымся мы шанаваць свабоду.

М я д з в е д з ь

Быццам пад векам цяжкой дамавіны.
Горш ад турмы, страшней ад турмы.

М а р т ы ш к а

Што б там ні стала, а ўсё-ткі павінны
З яміны гэтай выскачыць мы.

М я д з в е д з ь

Выскачыць... Лёгка сказаць, сястра.
Без дна і без верху гэта дзіра.

М а р т ы ш к а

Яшчэ раз усё-ткі я паспрабую.
Я ж брала калісь вышыню любую.
*(Робіць разгон, падскоквае — падае.
У роспачы.)*
Сіл не стае...
Крыл не стае...
О бедныя дзеткі — сіроткі мае!..

М я д з в е д з ь

Няхай бы ўжо ў яміне гэтай загінуў
Я — адзінокі старэнькі звер...
*(Задумаўся, летуценна.)*
Вось бы нам зверху нехта скінуў
Лесвіцу або вяроўку цяпер...

М а р т ы ш к а

Лесвіцу нам бы!.. Дзе яна, лесвіца?
Без лесвіцы я гатова павесіцца...

З м я я

Паспадзявайцеся на дабрадзея...
Марная мара, пустая надзея!..

М а р т ы ш к а

Калі нам лесвіцы не стае,
Дык — чуеце? — самі зробім яе!

З м я я

Мы самі зробім?

М я д з в е д з ь

Мы змайструем?

М а р т ы ш к а

Ой, што мы час дарэмна марнуем?
Хутчэй жа!
*(Уверх, слёзна.)*
О хто вас накорміць без маткі,
Родныя дзеткі — мартышаняткі?

З м я я

Мы самі зробім?..

М я д з в е д з ь

Ды толькі як?

М а р т ы ш к а

Няўжо не можаш уцяміць, дзівак...
*(Паказвае па чарзе на кожнага з прыстутных.)*
Разумееш?

Раз!
Два!
Тры!
Скок!
Падскок!
І мы ўгары!

М я д з в е д з ь

Зразумеў, ды толькі крышку...

З м я я

Стань вось гэтак, каб Мартышку
Мог узяць ты на спіну...
Ну, а я наверх махну.

Мядзведзь прыгінаецца, Мартышка нацэльваецца, каб ускочыць на яго.

М а р т ы ш к а

Міг — і выскачым з нары.
Раз!
Два!
Тры!
І мы ўгары!

М я д з в е д з ь

Значыць, вы з маіх плячэй
Скокнуць хочаце хутчэй?
Ну, а як? А як жа я,
Паважаная Змяя?
Застануся тут сядзець?

З м я я

О, ш-шаноўны брат Мядзведзь,
Пададзім табе мы рукі...
*(Чуецца ўверсе трэск, шум.)*

М а р т ы ш к а

Ціха! Ціха! Што за гукі?
Хтось нам хоча памагчы.

З м я я

Памаўчы — не балбачы...

Чуецца песня, неўзабаве з'яўляецца і яе выканаўца Пан, які па-гаспадарску аглядае ўладанні.

Пан

Я самы мудры ў свеце Пан,
Мудрэй цара і бога.
Перахітрыць, увесці ў зман
Я здолею любога.
Я моцны розумам сваім
І тым сябе праславіў,
Што вам усім, усім, усім
Тут пасткі я паставіў.
Усюды б'юць паклоны мне:
Я — самы, я той самы...
Ніхто, ніхто не абміне
Маёй пякельнай ямы!

Пан так захапіўся сваёй песняй і сабой, што не заўважыў, як апынуўся на краі ямы, з крыкам падае ў яму. Нейкі час пануе маўчанне.

Пан
*(галосіць амаль у непрытомнасці)*

Ратуйце! З мяне сыплецца смецце!
Дзе я? На тым ці на гэтым свеце?
Гэй! Хто жывы, адкажыце вы,
Я з галавой ці без галавы?
*(Нарэшце разгледзеў звяроў.)*
Не ешце!
Ой, не ешце!

Мядзведзь

Ды сціхні ты нарэшце!

Пан *(заікаючыся ад страху)*

Пакіньце мне жыццё маё!

Мядзведзь

Аб чым ты?

Змяя

Што вы?

Мартышка

Што вы?

П а н

Ды вы ж драпежнае звяр'ё!
Ды вы ж на ўсё гатовы!

М я д з в е д з ь

Так, мы звяры, мы не паны!

З м я я

Аб чым не забываем.
І ні за што, і без віны
Жывых не забіваем.

П а н
*(адчуўшы, што небяспека адыходзіць, зірнуў на сваё адзенне)*

О божа мой! Падраў жупан...
Навюткі... Толькі з крамы.
Я — па... Я — па...
Я — па-па-пан!
Я самы, я той самы.

З м я я

Ты ш-што, ш-шаноўны, аш-шалеў?

П а н

Я — я для вас кароль! Я — леў!

З м я я

Хто ж гэта бачыў, каб у льва
Была аслінай галава?..

П а н

Ну, ну! Калі хто з вас мяне
Хоць кіпцюром адным кране,
Я вас тады... на плаху!..

М а р т ы ш к а *(жартам)*

Ой, мы дрыжым ад страху...

П а н

Я нават і без галавы
Над вамі ўладу маю!
Калі мяне з'ядзіце вы,

Я вас перастраляю!
Я вас у клетку кіну ўраз
Адзіным рухам пальца...
Я вас... Я вас... Я вас... Я вас...
Не ча-ча-ча-ча-пайце!

М я д з в е д з ь

Дзівак, каму патрэбен ты?

П а н

Чаго разявілі раты?
*(Зноў наступальна.)*
Я маю чын!
Я маю сан!
Я маю ўсе выгоды!
Я пан, і ў яме нават пан,
Бо пан ёсць пан заўсёды.
І тут усё маё наўкол —
І гэтая бярлога...

З м я я

А можа, даць яму укол,
Каб сцішыўся нябога.
*(З шыпеннем наступае на Пана.)*

Пан падскоквае з дзікімі выгукамі, імкнучыся пазбегнуць змяінага ўколу...

М я д з в е д з ь

А можа, ад імя звяроў
Яго пагладзіць лапай,
Каб па-звярынаму не роў
Сваёю панскай зяпай...
*(Працягвае да Пана лапу.)*

П а н *(адступаючы)*

Не, не!
Не трэба гладзіць!
Гатоў я з вамі ладзіць...
Ужо я злосць сваю згубіў...
*(Ратуючыся ад Мядзведзя,
бегае па яме.)*

М а р т ы ш к а

А можа, для парадку

Прымусіць, каб са мной рабіў
Лячэбную зарадку?..
*(Робіць спрытныя акрабатычныя трукі, прымушае выконваць іх і Пана.)*

Пан *(засопся, у знямозе і адчаі заплакаў, завыў па-звярынаму — яму адказвае толькі рэха)*

Ну, што? Ці чуеце вы, звяры?
*(Рэха працягвае галёкаць.)*
Ага, задрыжалі, звяругі!
Гэта ж ідуць мае сябры!
Мае адданыя слугі!
*(Ад радасці скача.)*
Гэта мае ганцы-малайцы!
Свабода — мне, а вам канцы!
*(Зарагатаў.)*
Хутчэй! Збавіцелі вы мае!
Якая радасць! Якая ўцеха!

Змяя

Гэтак здурнеў, што не пазнае
Уласнага голасу, рэха...

Пан сціхае — чуецца зверху трэск сучча. Гэта да ямы набліжаюцца Ігнат і Дана. Яны ідуць у розныя бакі.
Лясная паляна. Дрэвы. Кусты. Нейкі час на сцэне нікога няма.

Голас Ігната

Дана, дзе ты, дзе, Дануся!

Голас Даны *(гарэзліва)*

Эге-гей! Мяне няма...
Болей я не адгукнуся —
Клічаш ты мяне дарма!

Голас Ігната *(упрошвае)*

Прападзеш у гушчары...

Запыхаўшыся, убягае Дана.

Дана *(у залу)*

Дзе я?.. Добры дзень, сябры!

*(Па-змоўніцку да гледачоў.)*
Тут мяне Ігнат шукае...
Так... У нас гульня такая!
Ці паможаце вы мне?
Калі ён «ку-ку» гукне,
Дык і вы «ку-ку» ў адказ
Закрычыце дружна ўраз.
Зразумелі? Добра? Згода?
Будзе смешная прыгода!
*(Хуценька дастае шнурок,*
*прывязвае яго за галінку куста.*
*Цягнучы з сабой шнурок,*
*накіроўваецца да другога куста,*
*хаваецца за ім.)*

Убягае Ігнат. У пошуку мітусліва азіраецца.

Ігнат

Знаю, дзе яе тут схова.
Больш гарэза не ўцячэ.
Ку-ку!

Дана

Ку-ку!..
*(Зала падхоплівае.)*

Ігнат

Ну скажы хоць слова —
Адгукніся ж ты яшчэ!
*(Узлавана.)*
На табе! «Ку-ку!», «Ку-ку!»
А ў якім яно баку?

Дана тузае за шнурок, куст варушыцца.

Што за шолах? Што за хруст?
Ой, ажыў, здаецца, куст!
*(Кідаецца да куста.)*
Гэй, ні з месца! Не ўцякай!
*(Імгненна абхоплівае рукамі куст —*
*нікога няма.)*
Ну, а дзе ж ты? Пачакай...

Тым часам Дана крадком на дыбках набліжаецца да Ігната, далонямі закрывае яму вочы.

*(З прытворным спалохам.)*

Ой, апамятацца дай!
Хто ты? Хто ты?

Дана *(робячы грубы голас)*

Ад-га-дай!

Ігнат *(працягваючы гульню)*

Божа, гэткі голас грубы!
Я прапаў! Няўжо мядзведзь?

Дана *(тым жа грубым голасам)*

Не ўцячэш цяпер ад згубы —
З'ем цябе я, з'ем...
*(Уласным голасам.)*
Мой любы...
*(Апускае рукі.)*

Ігнат

Ой, ды я жывы ледзь-ледзь...
Гэта ты?

Дана

Вядома — я!
Я — збавіцелька твая.
Я прагнала прэч мядзведзя!
Збег... Вунь там схаваўся недзе...

Ігнат *(туліць Дану да сябе)*

Дзякуй... Я — ізноў на волі!
Абавязан галавой
Я табе. Таму ніколі
Не забуду подзвіг твой.
*(Паэтычна.)*
Імем сонца, імем неба!..

Дана *(перапыняе)*

Ціха! Гучных слоў не трэба...

Ігнат *(раптам)*

Дана, будзь маёю жонкай.

Дана

Жонкай? Дзе ж мы будзем жыць?
Дзе твой дом?

Ігнат
Ды пад сасонкай...

Дана
Але ж там Мядзведзь ляжыць.
І ў бярлог звярыны — веру —
Ён нас пусціць на кватэру.

Ігнат
Я ўсур'ёз — ты чуеш, Дана?

Дана
Мы ж не маем ні граша.

Ігнат
Вось мой скарб — мая душа,
Што табе навек аддана.

Даносіцца прыглушаны лямант.

Голас пана
Не ўцякайце! Не бяжыце!
Выручайце! Памажыце!

Мядзведзь
Чаго ты разявіў рот да вушэй?

Змяя
Цыц!

Мартышка
Памаўчы ты!

Мядзведзь
Кажу я — цішэй.

Пан *(лямантуе)*
Я — чалавек, і вы мне паверце,
Паверце мне, а не ім...

Мартышка
Перапалохаеш тых, хто наверсе.

Змяя
С-сыкам сваім.

Мядзведзь

Рыкам сваім.

Пан

Не ўцякайце! Не бяжыце!
Выручайце! Памажыце!

Ігнат і Дана прыпыняюцца — робіцца ціха.

Клянуся самім сабою —
Я вызваліцелю
Не пашкадую грошай!
Пяць рублёў! *(Уверх.)*
Ну, чуеце? Пяць!
Шэсць! Дзесяць!
Гультаі! Хіба не чуеце?
Дваццаць! Спяшайцеся па
Сваё шчасце! Зараз цэлая зграя
Наляціць!
Перагрызуцца, як сабакі
З-за косткі... Ну, дзе вы?
Сто рублёў!
*(Нічога не чуваць.)*
Абібокі!
Лянуюцца ўзяць сто рублёў!
Ды я б па адну капейку пабег
на ўскрай зямлі,
На карачках папоўз бы...

Мядзведзь

Чаго ж ты стаіш? Бяжы!

Змяя

Паўзі!

Мартышка

Цяпер згніеш у гэтай гразі!

Пан

Не ўцякайце! Не бяжыце!
Выручайце! Памажыце!

Ігнат *(гукае)*

Ты адкуль крычыш?

П а н

Ды з ямы.
З ямы! Тут я, тут, на дне.
Я твой пан! Твой самы, самы...
З ямы выцягні мяне!

Д а н а

Ворагам яе капаў,
Але — бачыш — сам упаў.

П а н

За паслугу, за ратунак
Атрымаеш падарунак...
Возьмеш тое, што захочаш.

З м я я

Сціхні ты! Чаго лапочаш!

П а н *(уверх)*

Я цябе азалачу!

З м я я

Ц-сс! Маўчок!

П а н

Маўчу! Маўчу!

Ігнат раскручвае вяроўку.

Д а н а

Ды хутчэй!

І г н а т

Паслухай, Дана...
Можа — хай сядзіць на дне?
Колькі год служу аддана,
Ну, а чым ён плаціць мне?
Ні падзякі, ні пашаны...
Толькі лаянка ды здзек.

Д а н а

Як ты можаш, мой каханы,
Ён жа ўсё-ткі чалавек?..

Ігнат

Я ж не маю нават дома,
У які прывесці б мог
Сваё шчасце на парог...

Дана

Гэта мне даўно вядома.
Але ж сам вучыў мяне:
З мілай — рай і ў будане.

Пан

Уратуй! Малю ў жальбе,
Буду ўдзячны век табе!

Дана *(да Ігната)*

Апускай хутчэй вяроўку —
Што марудзіш ты, Ігнат?

Ігнат

Пазнаю маю сяброўку —
І выконваю загад.
*(Апускае ў яму вяроўку, стоена чакае.)*

Пан *(хапаецца за вяроўку)*

Вось ратунак мой! Нарэшце...
Рух адзін — і я ўгары...
*(Да звяроў.)*
Вы ж саміх сябе тут ешце,
Ненавісныя звяры!..
Я кажу вам, як памершым...

Змяя

Стой! Чакай, ш-шаноўны пан...
А ч-чаму вылазіць першым
Хоч-чаш-ш ты?
*(Прытрымлівае Пана.)*

Пан

Пусці жупан.
Па-па-рвеш! Ён толькі з крамы...

Мартышка *(цярэбячы лахманы, якія засталіся ад панскага адзення)*

Ён навюткі — сапраўды.

З м я я

Першым выберацца з ямы
Той, хто перш папаў сюды...

Звяры адціснулі Пана ад вяроўкі.

П а н

Не пасмееце, звяругі!
Я — ваш пан! А вы мне слугі...
Я... Я вас зжыву са свету
І павешу на суку!

З м я я *(працягваючы сваё)*

Галасуем. Хто за гэта,
Папрашу падняць руку.
*(Усе, акрамя Пана, галасуюць.)*

П а н

Я — супраць! Я супраць!

М а р т ы ш к а

А большасць — за!

П а н

Я — супраць!

З м я я

Твой голас адзін — драбяза.

П а н *(роспачна)*

Дастукаўся! Быдла дае дырэктыву
Мне, пану! Далей няма ўжо куды...

М а р т ы ш к а

Выконвай волю ўсяго калектыву,
Нашай з'яднанай грамады!

П а н

Хто ж гэта бачыў, дзе і калі,
Дзікім жывёлінам волю далі!

М я д з в е д з ь

Цяжка знаходзіць мову з панамі.

М а р т ы ш к а

Ну, дык вылазь жа, дзядзька Мядзведзь.

З м я я *(да Пана)*

Табе ж давядзецца, ш-шаноўны, з намі
Яшчэ хвілiначку пасядзець.

М а р т ы ш к а

Прымаем цябе ў звярыную сполку.

З м я я

Чым меней крыку — тым болей толку.

Тым часам Мядзведзь вылез з ямы — пакланіўся Ігнату і Дане.

М я д з в е д з ь

Шчырае дзякуй вам, добрыя людзі!
Вашае ласкі лес не забудзе.

Д а н а *(у жаху адхінулася)*

Ой! Напужалася да смерці!
Ды ў гэтай яме, мусіць, чэрці!

І г н а т *(падтрымліваючы Дану)*

Бач, ты зусім ужо аслабла!..

Д а н а

Ідзём жа... Прэч адсюль хутчэй.
Ідзём... бо тут прыстанак д'ябла...

І г н а т *(вагаючыся)*

Ідзём...

Д а н а

Чакай! Мне ўжо лягчэй.

П а н *(зноў залямантаваў)*

Ой-вой-вой! Не пакідайце!
Дружбакі! Паспагадайце!
Гэта — я, ваш пан, ваш брат!
Вы паспелі акурат...
Я малю вас — вы ізноўку
Апусціце ўніз вяроўку!

Ігнат

Ну, не! Пайшлі адсюсь! Гайда!

Дана

Ён гэтак просіць нас... Шкада...

Ігнат *(узлавана)*

Ах, калі так — ратуй сама!
*(Працягвае дзяўчыне вяроўку.*
*Спалоханая Дана адступаецца.)*

Дана

А ты спужаўся?..

Ігнат

Сіл няма!..
*(Апускае вяроўку ў яму.)*
Хутчэй вылазь, чарговы звер!

Змяя

Чыя чарга?

Пан

Ды я ж цяпер!

Мартышка

Чакай! Цяпер чарга мая.

Змяя

Так, праўда. Пацвярджаю я.

Пан *(у роспачы заплакаў,*
*плач паволі пераходзіць у выццё)*

Браткі! Магчыма, я паганы
І маю хібы і заганы...
Але хіба ўжо горшы я,
Чым гэта малпа і змяя?

Змяя тым часам памагае вылезці Мартышцы.

Мартышка *(Ігнату і Дане)*

За паратунак дзякуй шчыра!
Жадаю вам любві і міру!
*(Кланяецца Ігнату і Дане,*
*робіць сальта, знікае.)*

П а н

Я вас прашу, малю вас — зноўку
Вы апусціце ўніз вяроўку!
За паратунак гэты вам
Я на вяселле грошай дам!
І за цябе, і за сяброўку
Тут я ўсявышняга малю...

Д а н а

Ну, апускай хутчэй вяроўку!..

І г н а т

А ты чуллівая — хвалю...
*(Апускае вяроўку, цягне.)*

П а н

Дапамагчы?

І г н а т

Не трэба. Штосьці
Нязвыкла лёгкім стаў мой пан...

Д а н а

Ён пахудзеў, відаць, ад злосці...

І г н а т

А можа, гэта зноў падман?

Выслізнула Змяя — танцавальнымі рухамі робіць рэверанс у бок хлопца і дзяўчыны.

Д а н а

Бяжым, бяжым адсюль... Змяя!

З м я я

Ш-шляхетна вам удзячна я.
І не палохайцеся, людзі —
Хай вам заўсёды добра будзе!
*(Заспявала.)*
Спагада — сумленных і смелых адзнака.
Падзяка! Падзяка! Падзяка! Падзяка!

З м я я знікае.

Ігнат

Цьфу ты! Нячыстая паганка!

Дана

Даволі! Пойдзем!

Ігнат

Пойдзем, Данка!
Ну, проста смех!

Дана

І страх да болю.
Пранесла, дзякуй богу.

Ігнат

Не!
Абрыдла! Болей не дазволю
Так галаву марочыць мне.
*(Ідуць.)*

Пан *(крычыць)*

Мой брат Ігнат! Мае сябры!
Ужо на волі ўсе звяры —
І я адзін цяпер на дне.
Ты чуеш? Выцягні мяне!
Ды не знікай! Куды ты крочыш...
Аддам табе я, што захочаш!

Ігнат
*(махнуў рукой, вяртаецца,*
*апускае ў яму вяроўку)*

Ну, апошні раз цяпер.

Пан

Так, гаспадар я твой, не звер...
*(Хапаецца за вяроўку.)*
З табой адной вяроўкай звязан,
Табе жыццём я абавязан!
З табой мы у адным хаўрусе...
*(Ігнат, намагаючыся, цягне.)*

Адчуўшы, што Ігнату цяжка, Дана хапаецца разам з ім за вяроўку.

Не тузайце... Бо я сарвуся...

І вось пана выцягнулі.

Ігнат

Паклон наш нізкі панскай чэсці!

Пан *(пасля паўзы)*

А? Дзякуй!
*(Мацае жывот.)*
Есці! Есці! Есці!
Акраец хлеба! Бачыш ты,
Што мой жывот зусім пусты...

Дана *(таропка)*

Я зараз нешта падшукаю...
Бо што за пан без жывата?

Пан *(зірнуўшы на Дану)*

Глядзі! Разумніца якая!
Не дзеўчаня, а любата...

Дана

Прашу вас, Пане,— хлеба луста.

Ігнат

І выбачайце, што не густа...
*(Пан накідваецца на хлеб.)*

Пан

Так, выбачаю...
*(Дажоўвае хлеб.)*
Дай напіцца...

Ігнат дастае біклагу.

Для свайго пана, для мяне,
Ты мог бы і не паскупіцца...
Кілбаскі даць. А хіба не?

Ігнат

Адкуль мне ўзяць?

П а н *(іранічна)*

Заткні каробку.
Ох, сервілату зараз мне б...

І г н а т

Адкуль мне ўзяць? Майго заробку
Ледзь-ледзь хапае і на хлеб...

П а н

Дык, значыць, скаргі на жыццё?
Навошта гэтае ныццё?
Хіба табе я нешта вінен?
*(Павучальна.)*
Даўно ўжо варта знаць было б:
У захапленні быць павінен
Ты ад таго, што мой халоп!
*(Пачынае гарачыцца.)*
Быць служкай мне — вялікі гонар!
Але, але! Ага, ага!
Мне кроў сваю аддаць, як донар,
Павінен кожны мой слуга!..
*(Пан запнуўся, акідвае позіркам Ігната і Дану.)*

Д а н а

Так, так... І я... І ён... Мы згодны.

П а н

О, зрок які ў цябе лагодны!
*(Да Ігната.)*
А ты чаму маўчыш злачынна?

Д а н а *(да Ігната)*

Ты што знямеў? Кажы, Ігнат!

П а н

Ты вельмі слаўная дзяўчына,
І я, вядома, вельмі рад...
*(Разглядае Дану, яна збянтэжана адступаецца, хаваючыся за Ігната.)*
Зусім мяне змарыла яма...
*(Да Ігната.)*

Праводзь цяпер дамоў мяне.
*(Хістаецца.)*
Трымай пад бок.

Ігнат бярэ Пана пад руку.

*(Пан да Даны.)*
І ты таксама.
Зусім знядужаў. Змора гне.

Дана асцярожна бярэ Пана пад руку, вядуць яго.

Я не люблю, калі пярэчаць...
Ваш абавязак забяспечыць
Маё здароўе і спакой.
*(Да Даны.)*
Ты прытулі мяне рукой...
І не саромся! Я ж — як татка...
Я твой найлепшы ў свеце пан.
А калі холадна, дзіцятка,
Цябе сагрэе мой жупан.
*(Спрабуе зняць з сябе транты.)*
Для слуг жа я на ўсё гатовы.

Д а н а

Не варта, пане, што вы! Што вы!

І г н а т

Калі ўжо здыме пан жупан,
Які тады ён будзе пан?

П а н

А ты гаворыш праўду, хлоп!
Хаця і хлоп, а мудры лоб!
*(Напявае.)*
Няхай упяў у яму я,
Няхай на світцы плямы,
Але высока чэсць мая,
Я — самы, самы, самы...
Я ад сябе не адступлю,
Самім сабой клянуся,
Хоць нават розум свой згублю,
Я панам застануся.
Сябе наверсе і на дне

Я знаю як паводзіць.
І слугі верныя мяне
Ніколі не падводзяць!

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Брама панскага двара. Два вартаўнікі — абодва ў «вясёлым» настроі. Адзін ледзь трымаецца на нагах, стаіць, абапіраючыся на стрэльбу. Другі, абняўшы стрэльбу, сядзіць і пазяхае. Няхладжана напяваюць.

Мы не роўня абібокам!
Служым яўна і тайком
Панскім вухам,
Панскім вокам,
Панскім кулаком.

Вартаўнік другі
*(сядзіць, пазяхае)*

У-ух! Як мёд салодкі, змора...
Ці чуў, што здарылася ўчора?
*(Засынае.)*

Вартаўнік першы

Так, чуў! Прыемных, браце, сноў.
*(З хітрынкай.)*
Наш Пан забіў, звярам на гора,
Аж сто ваўкоў і сто сланоў.

Вартаўнік другі захроп, вартаўнік першы падбіраецца да соннага, дастае ў яго з кішэні бутэльку, выпівае тое, што ў ёй засталося, шпурляе бутэльку.

Вартаўнік другі
*(спалохана падскочыў)*

Стой! Рукі ўгору! Хто ідзе?
Ані душы... няма нідзе...
Ці гэта толькі мне здалося?
А хто свістаў?

В а р т а ў н і к   п е р ш ы

Ды гэта ў носе...

В а р т а ў н і к   д р у г і

Не можа быць!
*(Ліхаманкава абмацвае свой нос,
нібы спрабуючы там адшукаць ворага.)*
Няўжо ўсур'ёз?
Як толькі ён залез у нос?
*(Выдыхае носам, чхае.)*
Далоў! Ну, чуеш ты ці не?

В а р т а ў н і к   п е р ш ы
*(зарагатаў)*

Ты ж гэта сам захроп у сне!

В а р т а ў н і к   д р у г і
*(таксама загаратаў, раптам спыніўся,
шукае ў кішэні бутэльку, зразумеў)*

Ну, ну! За гэтакія жарты!
*(Прыгразіў.)*
Забыў, што я начальнік варты!..

В а р т а ў н і к   п е р ш ы

Даруй мне ўжо, што я па дружбе
Перапыніў твой сон... на службе.

В а р т а ў н і к   д р у г і

Глядзі ты — светла ўжо навокал...

В а р т а ў н і к   п е р ш ы

І нельга больш прыжмурваць вока.
*(Пазяхае.)*

В а р т а ў н і к   д р у г і

Ты чуў, што здарылася ўчора?

В а р т а ў н і к   п е р ш ы

Так. Чуў. На ўвесь маёнтак гора.
Наш гаспадар, шаноўны пан,
Падраў дашчэнту свой жупан.
Гаворыць, быццам лез па грушы
Цераз паркан у панскі двор.

І там яму надралі вушы
Ды разлахмацілі убор.

Вартаўнік другі

Ці ўжо не з глузду з'ехаў ты?
Больш не мялі такой лухты!
Як толькі ты пасмеў такое?
Ці ж гэтак можна пра паноў!
*(Паведамляе важна.)*
Наш пан забіў сваёй рукою
Аж сто ваўкоў і сто сланоў.

Вартаўнік першы

Што ты гаворыш!

Вартаўнік другі

У бары
Напалі на яго звяры...
Паміж хваін... Паміж ялін
Там процьма іх, а ён адзін!
І не спужаўся!

Вартаўнік першы

Ого-го!

Вартаўнік другі

Пабіў усіх да аднаго!
Палеглі цэлаю гарой...

Вартаўнік першы *(выгукнуў)*

Няхай жыве наш пан-герой!

Вартаўнік другі
*(абрывае першага)*

Цыц!
*(Прыслухоўваецца.)*
Там нясе кагосьці ліха...

Вартаўнік першы *(закрычаў)*

Хто там ідзе! Ні з месца! Стой!

Голас Ігната

Ды не крычыце! Ціха, ціха...

В а р т а ў н і к   д р у г і

Угору рукі!

Г о л а с   І г н а т а

Свой я, свой...

З'яўляецца І г н а т і накіроўваецца ў браму, вартаўнікі перагароджваюць яму дарогу стрэльбамі.

В а р т а ў н і к   д р у г і

Стой! Ты куды?

В а р т а ў н і к   п е р ш ы

Куды ты? Стоп!

В а р т а ў н і к   д р у г і

Чаго табе тут трэба, хлоп?

І г н а т

Ага, патрэбу маю, значыць...
Такая сталася падзея —
Хацеў бы пана я пабачыць...
Заступніка і дабрадзея...

В а р т а ў н і к   д р у г і

Але навошта?

В а р т а ў н і к   п е р ш ы

Так, навошта?

В а р т а ў н і к   д р у г і

Ах, скарга нейкая, відаць!

В а р т а ў н і к   п е р ш ы

Калі ўжо скарга, можа пошта
Для пана скаргу перадаць.
*(Адпіхваюць Ігната.)*

І г н а т

Ды што вы! Не! У лесе ўчора
Я пана ўратаваў ад гора —
Я з ямы выцягнуў яго...

В а р т а ў н і к   д р у г і

Паслухай, ты наплёў чаго...

Ігнат

І пан за гэты паратунак
Паабяцаў мне падарунак...
А я — слуга яго Ігнат...
І пан са мной сустрэцца рад...

Вартаўнік другі

Глядзі ў мяне! А то за жарты,
За ашуканства панскай варты
Ціхутка шась — без лішніх слоў,—
І галава з цябе — далоў!
*(Да першага вартаўніка.)*
Ну, далажы! І толькі жвава!

Вартаўнік першы

О, будзе выканана справа!
*(Ідзе за браму.)*

Вартаўнік другі

Скажы ты мне, а што, цікава,
Табе паабяцаў наш пан —
Кашулю, боты ці каптан?..
Не бойся ты! Я свой у дошку...
Ну! Я ж нікому ні гу-гу.
Раскажаш праўду, можа, трошку
Табе я нават памагу.
Я ж даўні служка на двары
І ўсё тут знаю... Гавары!

Ігнат

Ат, што казаць...

Вартаўнік другі

Не, не! Кажы!

Ігнат

Мне пан вяльможны... не чужы.

Вартаўнік другі

А ты дакладней!

Ігнат

Проста ў пана

Такая добрая душа,
Якая служкам — нам аддана...

Вартаўнік другі

Ды ты мне растлумач спярша...

У браме з'яўляецца Пан.

Пан

Што ты надумаў, ахламон,—
Трывожыць пана ўранку?

Ігнат

Мой нізкі, пане, вам паклон —
Прыйшоў па абяцанку...
Я турбаваць не смеў бы вас,
Мой дабрадзей харошы,
Ды на вяселле мне якраз
Патрэбны вельмі грошы.

Вартаўнік першы

Ты чуеш, ну?

Вартаўнік другі

Вунь што яно!

Ігнат

І з пачуццём сваяцкім
Я б папрасіў вас заадно
Быць пасаджоным бацькам.

Пан

Нахабнік! Быдла! Як ты смеў —
Будзіць мой грозны панскі гнеў!
*(Да варты.)*
Усыпаць дзесяць бізуноў
Агіднаму халопу,
Каб больш не ўзводзіў на паноў
Ганебнага паклёпу!

Ігнат

Які паклёп? Які падман?
Скажы, яснавяльможны пан,
Хіба не праўда, што цябе

Дастаў я ў лесе з ямы?
І зараз на тваім ілбе
Ад гэтай ямы — шрамы.

П а н

Лухта! Я вылез з ямы сам,
Я, смелы, не баюся ям...
*(Заспявае.)*
Я самы смелы між паноў,
Я незнаём са страхам,
Я сто ваўкоў і сто сланоў
Забіў адзіным махам.

В а р т а ў н і к і *(абодва)*

Ён сто ваўкоў і сто сланоў
Забіў адзіным махам.

І г н а т *(у залу)*

Сябры, скажыце зараз мне,
Сказаў я праўду? Так ці не?

В а р т а ў н і к д р у г і

Маўчаць! Калі б было і так,
Усё адно маўчаць, лайдак!

І г н а т

Хіба не абяцаў ты мне
Да шлюбу дом паставіць?
Ты ўчора ціснуў мне руку
І абдымаў, як сына,
А Дану — як сваю дачку...

В а р т а ў н і к п е р ш ы

Што ты вярзеш, дубіна!

П а н

Брахня! Усё наадварот!
*(Да вартаўнікоў.)*
Хутчэй заткнуць паганцу рот,
Каб больш не змог ні слова!

Вартаўнікі накідваюцца на Ігната, запіхваюць яму ў рот кляп.

Вартаўнік другі

Маўчок! Усё гатова!

Пан

Чаго застыў, разява, ты!
І ім *(паказвае ў залу)*
Усім заткнуць раты!
Басіць павінен ля варот,
Каля шляхецкай брамы
Адзіны рот —
Мой панскі рот,
Мой самы, самы, самы...
А вы! *(Грозіць у залу.)*
Хто злосны свой язык
У момант не прыкусіць,
Той, як злачынны бунтаўшчык,
Навек замоўкнуць мусіць!

Вартаўнікі пачынаюць пантаміму затыкання ратоў, да іх далучаецца і сам Пан. Яны рухаюцца, як аўтаматы, напяваючы рэчытатывам...

На языкі,
На языкі
Начэпім цяжкія замкі.
Хто скажа «мяў»,
Хто скажа «му»,
Запхнём мы заткала яму!
І толькі той
Наўме сабе,
Хто цэлы век
Ні «мэ», ні «бэ».

Выбягаюць і н ш ы я  с л у ж к і, уключаюцца ў гэтую вакханалію.

Ты, як нямы,
Маўчы, маўчы.
Трымаем мы
Ад губ ключы.
У словах — шрот,
У словах — бунт.
У кожны рот
Загонім шпунт.
Хай будзе ў нас

На ўвесь народ
Адзіны бас,
Адзіны рот!
Адзіны рот гаспадара —
Ура! Ура! Ура! Ура!

Вартаўнікі гэтак захапіліся, што ўрэшце схапілі Пана і наважыліся заткнуць яму рот, але, разабраўшыся, нечакана адхіснуліся.

*(Засапліся, ледзь вымаўляюць.)*
Ну, а цяпер і я, і ты
Самім сабе заткнём раты...

П а н *(пераможна)*

Усіх сагну,
Усіх звяжу!
Бач, праўды захацелі...
Дык я вам праўду пакажу
Нагайкаю на целе!..
*(Вартаўнікам.)*
Каб больш не гаўкаў на паноў,
Усыпаць дваццаць бізуноў!

Вартаўнікі хапаюць Ігната, здзіраюць з яго кашулю, паўголага валакуць.

І г н а т
*(злаўчыўся вырваць з рота заткала)*

Дык вось які твой панскі дар,
Дык вось твая падзяка,
Яснавяльможны гаспадар!..

П а н

Маўчаць, пся крэў! Сабака!

Вартаўнікі запіхваюць заткала і звязваюць Ігната.

Вось тут за брамай, дзе сцяна,
Адлупцаваць паскуду!
А я па свісце бізуна
Лічыць удары буду.
*(Прыстаўляе да вуха трубкай далонь, услухоўваецца.)*
Раз!
Два!

Тры!
Чатыры!
Пяць!
І яшчэ, яшчэ дадаць!
*(Імітуе ўдары бізуна.)*
Я па скабах і галовах
Бізуном сяку, сяку.
Праўда ў грошах, а не ў словах,
Праўда ў моцным кулаку!
Сам сваёй работай рады,
На адной скачу назе!

П а ў з а

Хто яшчэ шукае праўды?
Падыходзьце па чарзе!
Ха-ха-ха! А дзе чарга.
Ага...

Імітуе посвіст нагайкі, прытанцоўвае. Падбягае да Пана Вартаўнік, нешта шэпча яму на вуха. Пан адразу выцягваецца, дастае з кішэні люстэрка, прыхарошваецца... Спахапіўся, аддае каманду вартаўнікам.

Дык, значыць, вось якая рэч —
Выгнаць адсюль нахабніка прэч!

Ігната выштурхоўваюць на сцэну. З'яўляецца Д а н а.

П а н

Маё шанаванне!

Д а н а

Дзень добры...
*(Ідзе далей.)*

П а н

*(загароджвае ёй дарогу)*
Чаму
Спяшаешся гэтак?

Д а н а

Ды так... па справах...

П а н

А хіба не справа — пану свайму

Сказаць некалькі слоў ласкавых?
Ах, справы... Іх столькі заўжды ў жыцці.

Д а н а

Пусціце, прашу. Мне трэба ісці.

П а н

О, знаю куды! Да свайго дружбака.
Ды ты паслухай... Бяда якая...
Паведаміць мушу табе, дачка,
Што твой Ігнат цябе не чакае.

Д а н а

Ігнат не чакае мяне?.. Мана!

П а н

Дык слухай, якая цана абяцанак,
Цябе ашукаў твой каханак...
Хацеў улагодзіць маю служанку...
Праўда, яна яму па вуху
Такую заехала аплявуху...
Хлус і распуснік... Як непрыгожа...

Д а н а

Што вы гаворыце? Быць не можа!

П а н

Каб я ды маніў! Вось табе на!
Праўдзівей, чым я, на свеце няма.
Кожны малы ведае гэта.
*(Хапае Дану за руку.)*
Пойдзем са мной — і ты сама...
Будзеш маёй апекай сагрэта!
А твой Ігнат — хлус і махляр!..

Д а н а *(вырывае руку)*

Не веру! Як вы смееце гэтак?

П а н

Калі не верыш — зірні ў мой твар.
Найпрыгажэйшая з весніх кветак!
Гатоў я адкрыць табе душу,
Дзе так пачуццяў добрых багата...

Дана

Пусціце мяне! Я вас прашу —
Глядзець хачу я на твар Ігната...
*(Адпіхнуўшы Пана, ідзе.)*

Пан *(узлавана)*

Ах, твар Ігната! Чакай, дурніца,
Прыйдзеш яшчэ да мяне пакланіцца...
*(Дастае з кішэні люстэрка.)*
Няўжо я такі страшны і брыдкі,
Што нельга нават мяне палюбіць?
*(Разгладжвае маршчыны,
жаласліва, слёзна.)*
Зморшчынкі... як павучыныя ніткі...
*(Амаль усхліпваючы.)*
Што мне рабіць?
Што мне рабіць?
Нюхаў пупышкі зялёнай ёлкі,
Розныя травы, розныя зёлкі.
Мокнуў паўгода ў нарзанавых ваннах,
Дыхаў азонам у Целяханах...
Што мне рабіць?

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Будан. На дашчаным тапчане ляжыць збіты Ігнат.

Ігнат *(абмацваючы бакі)*

Ледзь не выламалі косці...
Колькі ж часу?
*(Падыходзіць да акна, ставіць перад ім кій, па ім вызначае час.)*
Без пяці...
Без пяці... Павінна ў госці
Да мяне яна прыйсці.
*(Хуценька наводзіць парадак,
прыбіраецца.)*

Як суцешу сум дзявочы?
Паказацца страх на вочы...

Тым часам непадалёку ад Ігнатавага будана з'яўляюцца абодва вартаўнікі, якія, адзін раўняючыся на другога, тупаюць маршавым крокам і хрыплаватымі галасамі гарланяць песню.

Мы не роўня абібокам,
Служым яўна і тайком
Панскім вухам,
Панскім вокам,
Панскім кулаком.

Нас не гладзіць пан па шапках,
Калі нешта праглядзім,
І таму па задніх лапках
Скачам перад ім,
Скачам перад ім.

За кавалак смачны мусім
Гойсаць мы ўначы і днём.
Загадай — любога ўкусім,
Загадай — лізнём,
Загадай — лізнём.

Нам штодзень удачу дораць
Нашы чуйныя насы,
Нездарма пра нас гавораць:
Вартавыя псы,
Вартавыя псы...

Вартаўнікі з прыстукам спыняюцца. Адзін з іх накіроўваецца да дзвярэй будана Ігната.

Ігнат

Калі ласка!
Калі ласка!

Увальваецца вартаўнік.

Вартаўнік

Гэта — я... Па абавязку...
Добры дзень — паклон Ігнату.

Ігнат

Што прыгнала ў мой будан?

Вартаўнік

Твой ужо... Забыў, што хату
Здаў табе ў арэнду пан.

Ігнат *(насцярожана)*

Як жа так — чакай?

Вартаўнік

Чакаю.

Ігнат

Я ж з ламачча і галля
Сплёў уласнымі рукамі
Гэту будку... для жылля.
Ці не праўда?

Вартаўнік

Так, вядома.
Не ў сваё, браток, залез.
Каб узвесці сцены дома,
Ты панішчыў панскі лес...

Ігнат

Што за глупства мне балбочаш.
Гавары, чаго ты хочаш.

Вартаўнік

А злуешся ты дарэмна.
Я на службе — улічы...
Вельмі, думаеш, прыемна
Мне было цябе таўчы?
Але што паробіш? Праца.
Раз наняўся — рад старацца...
Каб прыдбаць кавалак хлеба.

Ігнат

Карацей — чаго тут трэба?

Вартаўнік

Я наконт кватэрнай платы...
Калі доўг за сорак дзён
Не заплаціш сёння — з хаты
Пан цябе папросіць вон.

А напомніць у дадатак
Мушу я і пра падатак —
За святло,
За гэта сонца,
Што заглядвае ў аконца
Ў гэту змрочную буду,
І, вядома, за ваду,
Што ў святочны дзень і ў будні
Ты прыносіш з панскай студні,
За паветра і за неба...
Разлічыцца, хлопча, трэба.
І — хутчэй, хутчэй! Іначай...
*(Сцябае сябе па баку бізуном.)*
Знаеш — пан з душой гарачай...
Ласкай ён не абміне.
І — не злуйся на мяне.
*(Выходзіць, зноў вяртаецца.)*
А цяпер не па загаду...
Як таварыш... Як сусед...
Даць табе хачу параду —
Як усіх пазбыцца бед.

І г н а т
Ты? Рашыў мне даць параду?
*(З'едліва.)*
Дзякуй шчыра за спагаду.

В а р т а ў н і к
Так! Не трэба пальцы грызці.
Падкажу табе я выйсце!

І г н а т
Ты падкажаш выйсце мне?

В а р т а ў н і к
Так! І ліха праміне!
Бачыў ты не раз, што ў пана
Твар, як зморшчаны лімон.
Мучыць гэтая загана
Пана. Спаць не можа ён.
Знемагае ад пакут.

І г н а т
Але я пры чым жа тут?

В а р т а ў н і к

Га! Пры чым? А ты паслухай.
Апантаны цяжкай скрухай,
Парашыў сягоння цвёрда
Мой шаноўны гаспадар
Памяняць свой твар пацёрты
На прыгожы юны твар.

І г н а т

Як жа? Хто такое зможа?
Памяняць уласны твар!

В а р т а ў н і к

Твар жа — гэта не тавар.
Паглядзі ты пільным вокам,
Калі прыйдзеш на базар.
Колькі твараў там навокал...
Хто там мае ўласны твар?
Падабенства маскі нейкай,
На адзін капыл усе.
І над кожнаю капейкай
Іх аднолькава трасе.
*(Набліжаецца да Ігната,*
*аглядае і абмацвае яго твар.)*
А ў цябе што трэба, браце...
Ох, і будзеш мець багацце!
Цэлых тысячу рублёў!

І г н а т
*(адпіхнуў вартаўніка,*
*хапаецца за твар далонямі)*

Згінь! Чаго ты мне наплёў!
Але ж я аб шчасці мару
Столькі год і столькі дзён...

В а р т а ў н і к

Калі ўсе не маюць твару,
Дык табе навошта ён?

І г н а т

Як нявесце, адкажы,
Пакажу я твар чужы?

Вартаўнік

Але што важней нявесце?
І знайшоў пра што тужыць...
Ці ж яна не хоча есці?
Ці ж яна не хоча жыць
У дастатку і раскошы?
Грошы, гэтакія грошы!..
Будзеш жыць у новай хаце...
Ну, згаджайся ты, дзівак!..
Твар! Падумаеш, багацце!
*(Выходзіць.)*
Да сустрэчы — калі так!
*(Вяртаецца зноў,*
*усоўвае ў дзверы галаву.)*
Я гатоў прыйсці нанова,
Калі прымеш прапанову...
*(Знікае.)*

Ігнат

Да сустрэчы... Да сустрэчы...
Ох, і лёг цяжар на плечы.
Я ж служыў яму аддана.
Выйсце дзе? Ратунак дзе?
Час ідзе... Няўжо і Дана
Адцуралася ў бядзе?

У акенца заглядвае Дана. Ігнат выходзіць у дзверы. Дана заскочыла ў пакойчык. Вяртаецца Ігнат. Дана захінулася фіранкай.

Няўжо чакаў яе дарма.
Але ж няма... Няма...

Дана *(з-за схованкі)*

Ня-ма!

Ігнат *(здзіўлена)*

Здаецца голас? Што такое?
Ці ўжо не прывід у пакоі?
Я сню ці трызню зараз, можа?
*(Заўважыў ногі Даны з-пад фіранкі.)*
Фіранка сунецца, о божа!
Тут дамавік!

Д а н а *(грубым голасам)*

Суціш ты крык!

І г н а т *(накідваецца на Дану)*

Ну што ж, трымайся, дамавік!
*(Абхоплівае Дану, захінутую ў фіранку, дзяўчына адбіваецца.)*
Ага, папаўся, госць нязваны!
Ах, што я бачу? Плечы Даны...
Ты па маю прыйшла душу.

Д а н а

Калі не пуспіш — укушу!
*(Дана выскоквае са схованкі.)*
Дык значыць, вось як сустракаеш?

І г н а т

Ты ж — нібы прывід! На і на!
Калі яе з дзвярэй чакаеш,
Яна з'яўляецца з акна!

Д а н а
*(убачыла збітага Ігната)*

Ой, што з табою?
*(Ігнат маўчыць.)*
Што з табою?

І г н а т

Ты не глядзі з такой журбою.

Д а н а

Што адбылося?

І г н а т

Драбяза.
Так, глупства... Панская лаза...
Ты памятаеш — за ратунак
Ён абяцаў мне падарунак.
Дык я сягоння ўранку, значыць,
У двор падаўся да яго...
І гэтак парашыў аддзячыць
Пан вызваліцеля свайго...

Дана

Ах, вось што... Божа, так пабіць!..
Такія сінякі і шрамы...
Няўдзячны, як ён мог забыць,
Што мы яго цягнулі з ямы...
Як толькі можна! Гэта здзекі!
Агідны кат і жывадзёр.

Ігнат

Ты не хвалюйся.

Дана

Трэба лекі!
Я пабягу па зёлкі ў бор.

Ігнат

Ды я не ўсё сказаў, Дануся.

Дана

Я хутка... Зараз жа вярнуся.

Ігнат

Апроч таго, што так пабілі,
Мне папярэджанне зрабілі:
Калі сягоння я падаткі
Не выплачу — без лішніх слоў
Мяне папросяць з гэтай хаткі
І з панскага двара — далоў...

Дана

Вярну здароўе я і сілы...
Тады мы разам знойдзем раду...
*(Ідзе да дзвярэй.)*

Ігнат

І шчыра дзякуй за спагаду.

Здаля даносіцца песня вартаўнікоў, але Ігнат заняты сваімі думкамі.

Я аб адным на свеце мару...
Ды толькі што, калі без твару
Убачыш заўтра ты мяне?..
Што мне тады ты скажаш?

*(Крычыць.)*
Не!
*(Стук у дзверы.)*
Я не скаруся волі пана,—
Я не прадам паганцу твар!
Я, толькі я — ты чуеш, Дана? —
Свайго аблічча гаспадар!
*(Паўторны стук.)*
Няхай твая любоў паможа
Адолець мне і гвалт, і здзек.
І хіба можа,
Хіба можа
Жыць без аблічча чалавек?

Вартаўнік з сілай тузае дзверы і з трэскам адчыняе іх, нахабна заглядае.

Вартаўнік першы

Я рады зноў цябе пабачыць...
Дык згода, значыць?

У дзверы ўсоўвае галаву вартаўнік другі.

Вартаўнік другі

Згода, значыць?

Ігнат
Не, я ніколі не згаджуся!

Вартаўнікі знікаюць. Стук у дзверы — Ігнат падаецца да ўвахода.

Нарэшце ты! Мая Дануся!
Ты — доля мужная мая!
*(Адчыняе дзверы —*
*на парозе Мядзведзь.)*

Мядзведзь

Дзень добры ў хату! Гэта — я...
*(Ігнат ад нечаканасці адхіснуўся назад.)*
І не пужайся. Я твой сябра.
Дай мне руку! Здароў!

Ігнат *(нерашуча)*

Здароў!

Мядзведзь

Трымайся ветліва і храбра,
Знянацку ўбачыўшы звяроў.
Бяды ад іх табе не будзе.
Мы маем чэсць,
Хоць мы не людзі...
І сябрукоў сваіх нідзе
Не пакідаем у бядзе.
*(З-за парога ўцягвае, пакрэктваючы, вялікую калоду.)*

Ігнат

Ах, дзядзька Мішка, што ты робіш?

Мядзведзь

Хіба ж не бачыш — я прынёс
Мядку. Магчыма, ім аздобіш
Ты свой бядняцкі горкі лёс.
І я ў бядзе тваёй хоць крышку
Дапамагчы сягоння рад.
Ігнат
Ой, і навошта, дзядзька Мішка?..

Мядзведзь

Чаму навошта, брат Ігнат?
Калі сядзеў я там... на дне,
Ты працягнуў вяроўку мне...
Дык гэта — знак маёй спагады.
Мы чым багаты, тым і рады...

Ігнат

Вялікі дзякуй за калоду,
За знак сяброўскай дабраты.
А як жа будзеш сам без мёду?
А сам што есці будзеш ты?

Мядзведзь

Сам?.. Ат, нічога... Так, нічога.
Ты не турбуйся, брат Ігнат.
У лесе мёду вельмі многа...
А я яшчэ, як бачыш,— хват...
*(Падсоўвае да Ігната калоду.)*

І г н а т

Ды я такога падарунку
І не чакаў...

М я д з в е д з ь

У-ух, цяжкі...
*(Панюхаў калоду, аблізнуўся.)*
Мёд найвышэйшага гатунку.
Панюхай толькі — пах які!..
*(Імкліва падаецца да дзвярэй.)*

І г н а т

Чакай, куды ты, дзядзька Мішка,
Прысядзь і пагасцюй хоць крышку.

М я д з в е д з ь

Не, не магу я... Далібог,
Мяне чакае мой бярлог.
А мёд на радасць спажывай...
Бывай, браток Ігнат!

І г н а т

Бывай!

М я д з в е д з ь знікае.

Якое дзіва! Як у сне!
*(Шчыкае сам сябе.)*
Няўжо здалося гэта мне?
*(Выцягвае з калоды шпунт,*
*мачае ў мёд палец, аблізвае.)*
Але ж не! Сапраўды смак!

Праз акно ўскоквае М а р т ы ш к а, робіць сальта.

М а р т ы ш к а

Добры дзень!
*(Ігнат ашаломлена азіраецца.)*
Прывет, дружбак!
*(Артыстычна робіць рэверанс.)*
Што цярэбіш так рукаў?
Разгубіўся? Не чакаў?
О, вядома, не тактоўна
Завітаць вось так раптоўна.

Але ж ты зрабіў мне ласку —
Мужна выручыў з бяды...
Адчуванне абавязку
Прывяло мяне сюды.
Як удзячнасць за ратунак
Ты прымі мой падарунак.
*(Пляскае ў далоні...*
*Праз акно ўлятаюць паленні дроў.*
*Яна іх ловіць, спрытна жангліруе і напявае...)*
Нямала, нямала,
Як знаюць звяры,
Я дроў наламала
У цёмным бары.
Хай на ўсёй зямлі давеку
Зніknуць цені недаверу.
Звер паможа чалавеку —
Чалавек паможа зверу.
І, як толькі ўмела,
Старалася я,
Каб друга сагрэла
Работа мая!

Ігнат *(здзіўлена)*

Што ты робіш? Сядзь у крэсла!

Мартышка *(спыніўшы работу, паказвае на горку дроў)*

Дроў я, дроў табе прынесла.

Ігнат

Дроў?

Мартышка

Хіба цябе магла
Я пакінуць без цяпла?
Без цяпла маёй спагады...
Выбачай, што сціплы дар.
Чым багаты, тым і рады.
Будзь шчаслівы, гаспадар.

Ігнат

Шчыра дзякуй за турботы.
Дзякуй шчыра...

Мартышка

Ат, ды што ты!
Проста, проста як магла
Доўг сяброўскі аддала.

Ігнат *(заклапочана)*

Але хтосьці каля хаты
Там употайкі снуе?

Мартышка

Там — мае мартышаняты —
Дзеткі слаўныя мае.
*(Гукае ў акно.)*
Дзеткі, дзе вы? Гэта — я!
*(Адгукаецца цэлы хор галасоў.)*
Тут — уся мая сям'я.
Пастараліся сумленна —
Кожны з іх прынёс палена,
Вось і вырасла гара.
Дык бывай жа! Мне пара!
*(Выскоквае праз акно.)*

Ігнат *(наўздагон)*

Дык бывай жа! Да сустрэчы...
*(Не можа апамятацца.)*
Растварылася ў сінечы,
Нібы прывід... Нібы цень...
Вось дык цуды!..

Адыходзіць ад акна да горкі дроў, нібы жадаючы ўпэўніцца, што гэта не сон, і перад ім паўстае выгінастая Змяя.

Змяя

Добры дзень!
Не пужайся. Гэта я —
Акулярніца Змяя.
Ад мяне бяды не будзе.
Не ўкушу. Хоць знаеш ты,
Што пра змей разносяць людзі
Многа розная лухты...
*(Здымае акуляры,
праціраe хустачкай, зноў надзявае.)*

Ігнат

Не, ды я наадварот.
*(Ад нечаканасці знямеў.)*

Змяя

Так. Змяіны мой народ
На зямлі ніхто не хваліць.
Хоць не знаю, з-за чаго...
Мы смяротна можам джаліць
Толькі ворага свайго.
А таго, хто з намі добра
Абыходзіцца... Дык ну...
*(Набліжаецца да Ігната.)*
Хай Мядзянка я ці Кобра,
Сваім джальцам не крану.
Быць магу такой ласкавай,
Як ніхто на свеце, я...

Ігнат

А ка мне — з якою справай,
Паважаная Змяя?

Змяя
*(дастае маленькі куфэрак, адчыняе — хатку залівае яркае ззянне)*

Паглядзі ў куфэрак гэты!

Ігнат *(жмурачы вочы, зазірае)*

Дыяменты-самацветы!..
Зіхацяць, нібыта сонца
З гэтай скрыначкі ўстае...

Змяя

Мой шаноўны абаронца!
Скарбы гэтыя — твае...

Ігнат *(ашаломлена)*

Як — мае?

Змяя

Твае. Бяры.
Ліш-шніх с-слоў не гавары.
Ты ў разгубленасці, бачу.

Слухай. Зараз растлумачу,
Гэты скарб — фамільны плён.
Вось як мне дастаўся ён...
*(З эпічным спакоем.)*
Між істот лясной краіны —
Сведчаць многія гады —
Славіўся мой род змяіны
Сваім розумам заўжды.
І па мудрыя парады
Кожны дзень да нас ішлі,
Памагаць былі мы рады
Пасланцам з усёй зямлі,
Але вось якая справа —
Розум наш і наша слава
Непакоілі кагосьці...
Хтосьці ўпотайкі падкоп
Рыхтаваў на нас ад злосці.
Хтосьці ўзвёў на нас паклёп.

Ігнат

Разумею... Разумею...

Змяя

Ш-шэпты ш-шолахам пайш-шлі,
Што ва ўсіх нягодах змеі
Вінаваты на зямлі,
І што мудрасці змяінай
Трэ баяцца, як чумы,
І што ўсёй лясной краінай
Завалодаць прагнем мы.
І пайшлі пра нас пагудкі,
Плёткі розныя і чуткі
І адкрыта, і тайком
Вырастаць, як снежны ком.

Ігнат

Дык і мне ж — прызнацца мушу —
Страхаў шмат нагналі ў вушы...

Змяя

О, на зман так лёгка клюнуць!
Выбачай — мяне трасе.
Варта раз камусьці плюнуць —

І пачнуць пляваць усе.
Ачарнілі, аплявалі
Нас — не ведаю чаму...
І таму мы поўзаць сталі,
Сталі коўзкімі таму...
Усяляк віляць і віцца
Мусім мы, каб ухіліцца
Ад чарговага пляўка
Ці гвалтоўнага пінка...

Ігнат *(са спагадай)*

Можа, нечым мог бы я
Памагчы табе, Змяя!

Змяя

Мой ш-шаноўны, бачыць бог,
Ты мне ўжо і так памог.
*(Узважвае на далоні куфэрак з каштоўнасцямі.)*
Перайшоў ка мне ад маці
Гэты дзіўны скарб — алмаз,
Як фамільнае багацце.
І такі яе наказ...
Калі хто мне зробіць ласку,
Першы мне падасць руку,
Гэты дар — па абавязку —
Я даю, як дружбаку...
*(Ставіць куфэрак на стол.)*
Хто мяне, бядачку, з ямы
Вызваліў? Хіба не ты?
Я спаўняю волю мамы,
А наказ яе — святы...
*(Знікае.)*

Ігнат
*(не можа апамятацца, аглядае дарункі)*

Я сам сваім вачам не веру.
*(Глянуў на дзверы.)*
Ой, ой, расчыненыя дзверы!
*(Зачыняе.)*
А на дабро чужое вочы,—
Я знаю,— кваняцца заўжды!

Ды і ці мала хто ахвочы
Усунуць доўгі нос сюды?
Бач, у мяне ж цяпер у хаце
Так многа featured рознага багацця...
І прываліла столькі шчасця!
*(Убачыўшы адчыненае акно.)*
Акно, акно адкрыта насцеж!
*(Зачыняе.)*

Ад нечаканай радасці скача, як дзіця, дакранаючыся да калоды з мёдам, да дроў, да куфэрка. Спявае. Неасцярожным рухам перакуліў горкі дроў — дровы рассыпаюцца. Ігнат цверазее.

Дыяменты-самацветы...
Дурань! А навошта мне
Гэты скарб, набытак гэты
У жабрацкім будане?
*(Стук у дзверы.)*
Хтосьці зноў стукоча ў дзверы.
Тут былі, здаецца, ўсе...
Раз — два — тры!
Якога ж звера
Чорт ізноў сюды нясе?
*(Раптам насцярожыўся.)*
Ці не вабіць скарб-багацце?
Ці не ўздумалі абкрасці?
*(Асцярожна адчыняе.)*
Хто ты, д'ябальская сіла?

Уваходзіць Дана.

Дана?

Дана

Гэта ты ці не?
Вельмі ветліва і міла
Сустракаеш ты мяне...
Натапырыўшы іголкі...
Я ж табе прынесла зёлкі.

Ігнат

Дзякуй... Вельмі рад сустрэчы...
Ты чаму глядзіш з журбой?

Дана

Гэта што яшчэ за рэчы?
Што тут сталася з табой?

Ігнат *(разгублена)*

Ды нічога... Так... Дары...
Іх прынеслі мне звяры.
*(Паказвае падарункі, падносіць дзяўчыне дыямент.)*

Дана

Дыямент? Каштоўны камень...

Ігнат

Падарыла мне Змяя.

Дана

Не чапай! Не руш рукамі!
Страшна мне... Баюся я...
Ён гарыць ярчэй за сонца.

Ігнат

Аддаю табе як жонцы...

Дана

Не, не, не! Не дакрануся!
*(Адмахваецца.)*
Памутнела галава!

Ігнат

Адмаўляешся, Дануся,
Ад такога хараства?
Знойдзеш прыгажосць такую
Хіба толькі ў каралёў!
Знаеш, колькі ён каштуе?
Больш як тысячу рублёў!

Дана

Хочаш ты, каб столькі грошай
На сабе насіла я?
Ды пад гэткай цяжкай ношай
Спіна згорбіцца мая!
Скарб прадаць павінны мы!

І г н а т

А ты праўду кажаш, Дана!
Мы адкупімся ад пана,
Ад няволі і турмы.

Д а н а

Так, так, так! Зусім магчыма —
Рот заткнём яму грашыма.
Выплацім увесь падатак.

І г н а т

Ды ў дадатак...
Ды ў дадатак
Дом збудуем!
Дом збудуем!
Будзе дом для нас гняздом,
Дзе мы шчасцейка ўзгадуем.

Д а н а, І г н а т *(разам)*

Мы сабе збудуем дом!
*(Працягваюць рукі, ідуць адно да аднаго, потым, сплёўшы далоні, кружацца, паўтараючы словы песні.)*
Без дома няўтульна,
Самотна без дома.
Куды мы спяшаем?
Дадому, вядома.
У доме — і печка,
У доме — і міска,
У доме — каханне,
У доме — калыска.

З абодвух бакоў сцэны з'яўляюцца д з е ц і ў каптурыках нованароджаных, яны карагодзяць і падпяваюць Ігнату і Дане, якія цалкам захоплены сваімі марамі аб шчасці.

Мы, нібы дзіцятка,
Надзею гадуем.
Свой дом пабудуем,
Свой дом пабудуем.

## КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

Уваход на кірмаш. Вароты. Каля іх — **п е р ш ы** і **д р у г і** **в а р т а ў н і к і**, яны зазываюць на кірмаш наведвальнікаў.

В а р т а ў н і к  п е р ш ы

Слухайце!
Слухайце заклік наш!
Усе — на кірмаш!
Усе — на кірмаш!

В а р т а ў н і к  д р у г і

Кожны гандляр
На кірмашы
Знойдзе сабе тавар
Па душы!

Кожнага наведвальніка, які ідзе на кірмаш, вартаўнікі абмацваюць, правяраюць, бяруць пошліну за права гандляваць.

В а р т а ў н і к  п е р ш ы

Той, хто на плошчу базарную ступіць,
Усё, што захоча, прадасць і купіць...
*(Амаль усю пошліну вартаўнікі
адразу ж дзеляць між сабой, а рэшту
кідаюць у вялізную панскую скарбонку,
якая стаіць поруч.)*
Каціся! Затрымліваць доўга не стану...
Будзе табе, і мне, і пану!
*(Заўважыў, што вартаўнік другі
прыхапіў большую долю даніны.)*
Цыц, хапуга! Абжора адпеты!
Сцібрыў адразу дзве манеты...
Адна мая! Вярні назад...

В а р т а ў н і к  д р у г і

Х-ха! А дулю не хочаш, брат?
Колькі дурноты ў тваім паглядзе!
І як не ўцяміць даўбешка твая,
Што кожны бярэ згодна пасадзе!
Хто тут галоўны — ты або я?

В а р т а ў н і к   п е р ш ы

Ціха! Ігнат ідзе на базар...
Няўжо прынёс прадаваць тавар?

В а р т а ў н і к   д р у г і
*(да Ігната здалёк)*

Добрай раніцы, хлапец!

В а р т а ў н і к   п е р ш ы

Рады бачыць! Маладзец,
Што прыйшоў! Гані тавар!
Азалоціць гаспадар...
*(Набліжаецца да Ігната,*
*нахабна разглядае і абмацвае яго твар.)*
Пан красу цаніць умее...

І г н а т
Вы аб чым? Не разумею...

В а р т а ў н і к   д р у г і
*(убок)*

Я морду сваю — каб прасілі мяне,
Далібог, загнаў бы па таннай цане.
*(Робіць грымасу.)*
Але каму — пытаюся я —
Патрэбна гэта ануча мая?

В а р т а ў н і к   п е р ш ы

Здольны толькі хлоп адважны
Твар прадаць!..

І г н а т

Ды што вы — твар...
А хіба мой твар прадажны?
Іншы маю я тавар!

В а р т а ў н і к   д р у г і
Ёлуп! Кінь дурныя жарты!

В а р т а ў н і к   п е р ш ы

Галадранец! Хлус упарты!
Прэч пайшоў адгэтуль! Прэч!

І г н а т

Пачакайце!

В а р т а ў н і к   п е р ш ы

Не пярэч!

В а р т а ў н і к   д р у г і

Скуль нам знаць, з якім намерам
Сунеш нюхаўку сваю?

І г н а т

Ды паверце...

В а р т а ў н і к   п е р ш ы

Так, паверым.
*(Выпіхвае.)*

І г н а т

Слова гонару даю!

В а р т а ў н і к   д р у г і

Гонар! Вось яшчэ багацце!
Лепш трымай яго у хаце...

В а р т а ў н і к   п е р ш ы

Толькі дурні на базар
Носяць гэтакі тавар...

І г н а т *(дастае куфэрак)*

Паглядзіце... Гляньце... Камень...
*(Вартаўнік першы спрабуе схапіць куфэрак.)*
Не чапай... Не руш рукамі...

Ігнат адкрывае куфэрак. Шматкалёрным сонцам пад музычныя гукі ўспыхвае каштоўны камень, яго водбліск зачароўвае вартаўнікоў, якія ад нечаканасці знямелі. Ігнат чуе нейкі шэпт, які пераходзіць у выразныя словы. Ён азіраецца — поруч з ім, як прывід, З м я я.

З м я я

С-скарбы — с-сонца с-самацветы,
Ш-шчыры мой ш-шляхетны дар.

Прадаваць куфэрак гэты
Не спяшайся, гаспадар.
Не спяшайся, чалавек,
Бо наклічаш гвалт і здзек.

Ігнат ашаломлены адскочыў убок і механічна бразнуў вечкам куфэрка, замкнуўшы яго. Знікае чароўнае ззянне. Няма З м я і.

В а р т а ў н і к д р у г і
*(Шматзначна перамігнуўся з першым вартаўнікам, бярэ Ігната за руку, цягне ў кірмашовую браму.)*

Пойдзем!.. Даверся мне...

В а р т а ў н і к п е р ш ы

...І мне!

В а р т а ў н і к д р у г і

Паможам прадаць па належнай цане.
Табе прапаноўваю гэта, як друг.

І г н а т

Дзякуй... Не трэба мне вашых паслуг.

В а р т а ў н і к п е р ш ы

Ад сквапнасці, бачу, дрыжыш,
Баішся — запросім вялікі барыш.
*(Злосна.)*
Ну, добра!

І г н а т

Я скнара? Ды што вы... Ды што вы...

В а р т а ў н і к д р у г і

Мы ж памагчы і дармова гатовы...
*(З прытворным дружалюбствам падштурхоўвае Ігната, які, скарыўшыся, ідзе ў кірмашовую браму. Сцэнай завалодваюць галасы тых, хто гандлюе на кірмашы.)*
— Купляйце!
— Купляйце!

— Бульба і боб!
Моркваl
Фасоля!
Пятрушка!
Укроп!
— Спяшайцеся,
Купляйце ўсё без астачы!
Не абмінайце
Сваёй удачы!

Да варот падыходзіць Ігнат.

— Бананы!
Бананы!
Такой смакаты
Ніколі ў жыцці не зведаеш ты!
Толькі маленькую дольку з'еш —
Пальчык абліжаш,
Язык праглынеш!

Вартаўнік першы

Увага! Увага!
Камень каштоўны!
Тавар небывалы — скарб чароўны!
Чуеце! Гэй, налятайце хутчэй —
Не адарвеце ад скарбу вачэй.
Ну! Страсяніце свае капшукі:
Амаль дармова — тавар такі.

Вартаўнік другі
*(штурхае Ігната)*

А ты не таўчыся ў ціскатні,
Куфэрак, куфэрак хутчэй адчыні!

Ігнат адчыняе куфэрак, ззянне каштоўнага каменя зачароўвае ўсіх, людзі міжволі цягнуцца да скарбу, забыўшыся аб будзённых кірмашовых клопатах.

Галасы

— Як зіхаціць!
— Як месяц!
— Як сонца!
— Гатоў глядзець на яго бясконца!
— Сонца, якое свеціць не ўсім.
— А колькі просіш?

Вартаўнік першы

Танна зусім.

Вартаўнік другі

Сто чырвонцаў!
Сто чырвонцаў!

Вартаўнік першы

Збываем танна зусім, па-сваяцку.

Галасы

— Нішто сваячок!
— Бывай здароў!
— Бач, заламаў!
— Ды на гэткую цацку
Не хопіць грошай усіх гандляроў.

Людзі пачынаюць разыходзіцца.

Ігнат

Стойце! Куды вы? Хвілінку адну!
Збаўляю цану... Збаўляю цану.

Вартаўнік другі
*(хапае Ігната за руку)*

Апомніся! Што ты робіш, дурны!
Параіўся б лепей са мной спярша...

Вартаўнік першы

Гэта ад зайздрасці проста яны...
Не, мы не ўступім ім ні граша!

Галасы

— Купляйце!
— Купляйце!
— Цыбуля і боб!
— Морква і рэдзька!
— Пятрушка! Укроп!

Вартаўнік другі

Я прапаноўваю вам сур'ёзна:
Гэй, набягайце, пакуль не позна!

Вартаўнік першы

Скарб — за такую малую цану.
Хто першы? Хутчэй жа! Ну!

Галасы

— Вось дык каменьчык!
— Браце Ігнаце!
Адкуль узяў? Адкуль прынёс?
— Скнара! Хаваў такое багацце!
А сам галадаў і трантамі трос!
— Жабрак — багацей! Вось дык забава!
Проста не месціцца ў галаве!

Вартаўнік другі

Ну, а табе якая справа?
Хто як хоча, так і жыве!

Вартаўнік першы

Цішэй вы! Годзе ўзмахваць чубамі,
Біцца ілбамі, як бараны.

Галасы

— А ты прытрымай язык за зубамі,
Пакуль не вылецелі яны.
— Горла сваё заткні! Карацей!
— Якая пацеха.
Жабрак — багацей!

Пакупнікі зноў пачынаюць абступаць Ігната.

Галасы

— Адкуль узяў скарб? Гавары!

Ігнат

Мне падарылі яго сябры...

Галасы

— Бач, не абы-які ахламон —
З міліянерам дружыць ён!

Ігнат

Кажу вам шчырую праўду я —
Мне падарыла яго Змяя...
*(Рогат.)*

Г а л а с ы

— Вы чулі! Якую лухту панёс!
*(Рогат.)*
— Жывот надрываецца!
— Смешна да слёз!
— Ну, свет не бачыў такіх пустабрэхаў!
— За дурняў нас лічыць...
— Ён проста таго...
— Ён злодзей, які з глузду з'ехаў...
— Хапайце!
— Трымайце!
— Вяжыце яго!
*(Зачынілі куфэрак. Накідваюцца, звязваюць Ігната.)*

І г н а т

Браточкі! Ды як жа вы так! Развяжыце!
Вы ж мяне знаеце — адкажыце,
Калі ашукаў я каго з вас?

Г о л а с з н а т о ў п у

Мы цябе бачым першы раз...

І г н а т *(да знаёмых з натоўпу)*

А ты?.. Мы ж разам былі на сяўбе...
А ты?.. Мы клалі стагі саломы.

Г о л а с

Не, з табою я не знаёмы.
Не помню... Не ведаю я цябе...

В а р т а ў н і к п е р ш ы

Вось бачыш! А мы што гаварылі?

В а р т а ў н і к д р у г і

Зладзюжка! Напісана гэта на рыле...
Ісці табе трэба было самаму
Не на кірмаш, а адразу ў турму...
Хітрасць твая ўраз раскапана...

В а р т а ў н і к п е р ш ы

Нічога, зараз праводзім, як пана.
Раз-два-тры!

Галасы

— Кару адхопіць цяпер па Указу,
— Зрабіў тры злачынствы адразу...
— Якія?
— Якія?
— Якія?
— Якія?
— Цяжкія...
Цяжкія...
Цяжкія...
Цяжкія...

Голас

Кінуць за краты гадоў на дзесяць.

Вартаўнік першы

Камень украў — за гэта павесяць!
Зняважыў нас — службовых асоб,—
За гэта адразу куля ў лоб.
Народ падмануў — галаву адсякуць.

Ігнат

За што цягнуць? Куды валакуць?
Што са мною будзе?
Што са мною будзе?
Не вінаваты я, чуеце, людзі!
Лю-дзі!
Лю-дзі!
*(Апошнія словы гучаць*
*ужо ў цемрадзі.)*

З'яўляецца на кліч адна Дана.

Дана

Ды як жа гэтак?
Дзе ж праўда на свеце?

## ЭПІЛОГ

Ізноў зала суда, як і ў пачатку. Тыя ж дэкарацыі.

Суддзя

Панове! Увага! Як бачыце, тут,
У справе, якую разглядвае суд,
З'явіліся доказы новыя...

Пан

Я справу закрыць прапаноўваю...

Суддзя
*(стукам малатка заклікае да цішыні)*

Увага! Панове!

Пан

А ты не надта...
Бач ты, які храбры стаў!

Суддзя *(непахісна)*

Факт відавочны цяпер — Ігната
Абвінавачвалі без падстаў.
Сведкі! Дайце клятву ўрачыстую,
Што расказалі вы праўду чыстую.

Мядзведзь

Паклясціся я перад вамі хачу
Лапай, якую зімою смакчу.

Мартышка

Клянуся спрытам сваім і ў дадатак
Здароўем дзетак — мартышанятак.

Змяя *(кланяючыся суддзю)*

Не, не схлусіла я сыкам адным,—
У чым і клянуся джалам сваім.

Суддзя
*(адхіснуўся спалохана)*

Даволі... Усё зразумеў я дазвання.
Дзякуй за шчырыя паказанні.
*(Да Ігната.)*

Вяртаючы вам грамадзянства правы,
Суд вас апраўдвае — вольны вы!

Ігнат

*(адкідвае ўбок вяроўку, якою быў звязаны, ступае крок уперад, нібыта спрабуючы навобмацак адчуць атрыманую свабоду, паўтарае)*
Я — вольны!
Я — вольны!
Я — вольны!
Я — вольны!
Як вецер...
Як птушка...
Як свет навакольны...

Тым часам яму пачынае рознымі галасамі ўторыць, як рэха, натоўп, які абступіў залу суда — з акон, з дзвярэй, з калідора. З глядзельнай залы насустрач Ігнату выбягае Дана. Яна кідаецца ў абдымкі яму — вось-вось яны злучаць вусны ў пацалунку, але чуецца няўмольны стук судзейскага малатка, які заклікае да парадку.

Суддзя *(пераможна)*

Я маю гонар канстатаваць,
Што ісціна раскапана!
Вось мой прыгавор — арыштаваць
Імем закона пана!

Пан

Я пратэстую! Не прызнаю!
Я — ваш закон! І я ваша вера!
Каму паверылі вы? Звяр'ю!

Ігнат

Ды вы страшней за драпежнага звера!

Вартаўнік першы
*(да другога)*

Ты зразумеў цяпер, лайдак,
Як нас за нос вадзілі?

Вартаўнік другі

Ды як жа так?

Вартаўнік першы

Выходзіць так,
Што не таго судзілі...

Пан *(у лютасці і адчаі)*

Вы ўсе звар'яцелі, ці што? На каго
Руку паднялі? На пана свайго?
Ды я вас усіх у турму ўпяку!
Усё правасуддзе ў маім кулаку!
Я вас у парашок скрышу!
Я — ваш бог! Я — ваша ікона!

Суддзя *(па-дзелавому)*

Вартаўнікі! За справу, прашу!
Выконвайце волю закона!
*(Вартаўнікі падыходзяць да Пана.)*

Вартаўнік першы

Ах, як вы, пан, брахаць мастак.

Вартаўнік другі

Як дурняў нас купілі...

Пан

Ды як жа так?..

Вартаўнік першы

Выходзіць так,
Што не таго лупілі...
*(Звязвае пана вяроўкай, якою быў звязаны Ігнат.)*

Пан *(супраціўляецца)*

Не смейце! Вы зганьбілі годнасць маю...
Я вас саміх у астрозе згнаю!
Суддзя! Па майму загаду —
Арыштаваць іх за здраду...

Суддзя *(афіцыйна, холадна)*

Я не выконваю вашы загады.
Мы вас пакідаем. Да новай сустрэчы!
А стане вам моташна пазарэз,
Прыходзьце да нас, калі ласка,— у лес!

Чым зможам, паможам,
У лесе гасцінным.

М а р т ы ш к а

І спрытам.

М я д з в е д з ь

І мёдам!..

З м я я

І ядам змяіным...

З в я р ы выходзяць, усе развітальна махаюць ім рукамі.

І г н а т

Няхай жа знікнуць, як наша бяда,
Усе зямныя сваркі і звадкі.
*(У залу.)*
А тыя, хто згодзен з рашэннем суда,
Пляскайце разам з намі у ладкі!

Усе становяцца ў адзін карагод і з песняй ідуць за сцэну, застаецца адзін Пан за кратамі, як звер у клетцы.

Усім зверам і людзям
Дом наш адзіны — планета.
Давайце разам будзем,
Давайце разам будзем
Весці змаганне за гэта!
Свае нягоды лечым
Тым, што ў збавенне верым.
І з тварам чалавечым,
І з тварам чалавечым
Ты можаш застацца зверам.
Іначай, як прыгожа,
Скончыць мы казку не можам...
А праўда пераможа,—
А праўда пераможа,
Калі мы праўдзе паможам!

*Канец*

## ЗМЕСТ

### З кнігі «Смак яблыка»

**Драматычныя паэмы**

**Макаль П.**

**М 15** Выбраныя творы. У 2-х т. Т. 2. Вершы; Драматычныя паэмы.— Мн.: Маст. літ., 1982.— 271 с.

У пер.: 1 р. 60 к.

У другі том выбраных твораў Петруся Макаля ўвайшлі лепшыя драматычныя паэмы, а таксама вершы з кнігі «Смак яблыка».

М $\frac{4702120200-109}{М302(05)-82}$ 114—82

ББК84Бел7
Бел2

*Петр Михайлович Макаль*

Избранные произведения в двух томах

ТОМ 2

*Стихи, драматические поэмы*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар *Р. І. Барадулін.* Мастак *Л. Я. Прагін.* Мастацкі рэдактар *А. І. Труханава.* Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал.* Карэктар *І. М. Паланейчык.*

ІБ № 1418. Здадзена ў набор 02.12.81. Падп. да друку 18.06.82. АТ 04387. Фармат 84×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 13,26. Ум. фарб.-адб. 14,82. Ул.-выд. арк. 13,16. Тыраж 8000 экз. Зак. 2166. Цана 1 р. 60 к. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскае вытворчае паліграфічнае аб'яднанне імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.